

Лепшая звеннявая калгаса імя Молатава Целяханскага раёна Брэсцкай вобласці комсамолка Надзея Сабко. У гэтым годзе яе звяно атрымала з плошчы 6,5 гектара 78 цэнтнераў высокаякасных канапель.

Фото Р. Каралёва.

## НАРОД—ТВОРЦА

Совецкая ўлада разняволіла духоўныя сілы народа. У нашай краіне створаны ўсе ўмовы для праяўлення і росквіту таленту і здольнасцей. Комуністычная партыя і совецкі ўрад праяўляюць штодзённыя клопаты аб культурным росце народа, па-бацькоўску шчыра і ласкава падтрымліваюць кожнае дараванне, дапамагаюць яму разгарнуць свае крыллі.

Беларускі народ славіцца сваёй таленавітасцю. Кастрычніцкая рэвалюцыя абудзіла яго творчыя сілы, адкрыла ўсе шляхі для стварэння багатай культуры, нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу. І цяпер, дзе-б ты ні быў — у Полацку ці Мазыры, у Брэсце ці Слаўгарадзе, у Пінску ці Віцебску — у кожным кутку нашай рэспублікі можна бачыць, як пышна расквітнелі народныя таленты, як шырыцца народная самадзейнасць. На сотнях прадпрыемстваў, у тысячах калгасаў створаны харавыя самадзейныя калектывы, якія натхнёнымі і ўсхваляванымі словамі славяць веліч нашай Радзімы, мудрасць нашай партыі. Вечарамі ў заводскіх і сельскіх клубах, у хатах-чытальнях рабочыя, калгаснікі, інтэлігенцыя слухаюць народныя беларускія і рускія песні, сучасныя совецкія песні ў выкананні сваіх таварышоў, захапляюцца цудоўнымі танцамі харэаграфічных калектываў, радуюцца за драмгурткоўцаў, чытальнікаў, фізкультурнікаў. Многія з гэтых песень напісаны самадзейнымі кампазітарамі, маладымі паэтамі.

У нашай рэспубліцы працуе больш 8 тысяч гурткоў мастацкай самадзейнасці. Яны налічваюць каля 100 тысяч удзельнікаў. Толькі за мінулы год на іх канцэртах пабывала каля 9 мільёнаў гледачоў і слухачоў.

Але наш народ любіць не толькі песні і танцы. Ён — вялікі майстра ва ўсіх відах народнага мастацтва. Здаўна славіцца Беларусь сваімі цудоўнымі ўзорамі народнага ткацтва. Вядомыя слуцкія



паясы засталіся непаўторнымі ў мастацтве. Совецкія людзі развіваюць традыцыі сваіх слаўных папярэдніц — слуцкіх ткачых, яшчэ больш удасканальваюць сваё майстэрства.

Вялікай любоўю карыстаецца ў нашага народа мастацкая вышыўка. Многія вышывальшчыцы сталі вядомы ўсёй рэспубліцы сваімі высокамастацкімі ўзорамі вышыўкі.

А колькі ўмення, творчай выдумкі, вынаходлівасці праяўляюць рэзчыкі па дрэву! На рэспубліканскіх выстаўках народнай творчасці мы не раз захапляліся цудоўна зробленымі вазамі, шкатулкамі, фігурамі коннікаў, сталамі, нават мастацкімі карцінамі.

Фантазія народа невычарпальная. Ён стварае ўсё новыя і новыя мастацкія каштоўнасці, узбагачаючы нашу культуру, прыносячы ёй усё большую славу. Наша моладзь вучыцца ад сваіх бацькоў любові да народнага мастацтва, пераймае іх вопыт і ўменне, развівае іх дасягненні.

На здымках (уверсе злева) мастацкая вышыўка па карціне В. Серова «Хадакі ў В. І Леніна», выкананая брэстаўчанкай Нінай Гранько. Унізе — група моладзі калгаса імя Леніна Рэчыцкага раёна развучвае жартаўлівы народны танец. Злева кіраўнік калектыва калгаснай мастацкай самадзейнасці заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Т. К. Лапаціна.

Уверсе справа — група ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці Дома культуры г. Баранавічы: Мікалай Бабко (сядзіць), Тамара Лабанок і Зоя Сямёнава развучваюць новую песню, напісаную самадзейным кампазітарам Рыгорам Галавасцікавым (стаіць злева).

У сярэдзіне — разьба па дрэву работы выхаванцаў Чавускага дзіцячага дома. Унізе — самадзейны мастак Віктар Наумовіч (г. Мінск) за работай над карцінай аб дзецях.

Фото Р. Каралёва і А. Дзітлава.













Выдатных перамог дабіліся ў гэтым годзе мінскія спартсмены Міхаіл Крываносаў, Анатоль Юлін і Марыя Іткіна. Выступаючы на спаборніцтвах у Берне (Швейцарыя), яны заваявалі залатыя медалі чэмпіёнаў Еўропы. А Міхаіл Крываносаў у адзінаборстве з мацнейшымі мятацелямі свету ўстанавіў новы сусветны рэкорд. Молат, кінуты яго моцнымі рукамі, праляцеў 63 м. 34 см! Бліскучы вынік у бегу на 400 метраў з бар'ерамі паказаў Анатоль Юлін. Ён прабег гэтую дыстанцыю за 50,5 секунды, што толькі на 0,1 секунды горш сусветнага рэкорда.

Цёпла віталі шматлікія гледачы і ўдзельнікі спартакіяды чатырох рэспублік, якая нядаўна закончылася ў Мінску, выступаўшых за калектыў Беларусі заслужаных майстроў спорту Юліна, Крываносава і майстра спорту Іткіну. Піонеры паднеслі ім вялікія букеты кветак.

А ў той час, калі друкаваўся гэты часопіс, тэлеграф прынёс весткі аб новых выдатных поспехах савецкіх лёгкаатлетаў, якія выступалі ў Англіі. І сярод пераможцаў зноў былі названы імёны слаўных беларускіх спартсменаў Юліна, Крываносава і Іткінай.

На здымку: Беларускія спартсмены Анатоль Юлін, Міхаіл Крываносаў і Марыя Іткіна на мінскім стадыёне «Дынамо» ў заключны дзень спартакіяды чатырох рэспублік. Унізе — А. Юлін і М. Крываносаў за абмеркаваннем вынікаў спартакіяды.

Фото М. Мінковіча і А. Дзітлава.



«Флаг рэволюцыі ўзняты!»

З карціны мастака Рэйнера.



Слесар Мінскага станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава комсамолец Анатоль Папялушка ў дні передкастрычніцкага соцыялістычнага спаборніцтва закончыў выкананне другой гадавой вытворчай праграмы.
На здымку: А. Папялушка (злева) са сваімі сябрамі па заводу передавікамі вытворчасці майстрам Генадзіем Ершовым і капіроўшчыцай Зояй Андрушчанка.

Фото А. Дзітлава.


Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання II.

№ 11(20).

Лістапад.

1954.



Уладзімір Людвіг за работай.

# РЭКАМЕНДАЦЫЯ Ў ПАРТЫЮ

**Ф. ІЗМАЙЛАЎ**

**Нарыс**

Кожнаму з нас, пэўна, вядома тое глыбокае, неадольнае хваляванне, якое ўзнікае кожны раз калі мы чуем спакойныя і нават як-бы афіцыйныя словы: «Раскажыце пра сябе». Ніхто, вядома, лепш цябе не ведае тваёй біяграфіі, тваіх думак і ўчынкаў. Але калі пачнеш расказваць пра ўсё гэта, то звычайна ўспамінаеш вядомыя па анкетах і службовых характарыстыках даты і факты. А светлыя, дарагія сэрцу старонкі жыцця, здаюцца ў такія хвіліны чамусьці дробязнымі, наіўнымі, невартымі ўвагі слухачоў.

Падобнае пачуццё апанавала і слесара Уладзіміра Людвіга, калі старшыня комсамольскага сходу голасна, на ўсю залу, папрасіў яго расказаць аўтабіяграфію. У чырвоным кутку паравознага дэпо, дзе ішоў гэты сход, наступіла цішыня. Вырашалася важнае пытанне—аб рэкамендацыі маладога рабочага кандыдатам у члены партыі.

Зірнуўшы наўскасяк у блакітны квадрат акна, заслонены напалову манеўровым паравозам, і перачакаўшы, пакуль сціхне перастук колаў, ад якога звінеў нават графін на стале, Уладзімір пачаў расказваць. Біяграфія быццам не такая ўжо вялікая і нічога асаблівa выдатнага ў ёй няма... Яму дваццаць год. Ён закончыў чыгуначнае вучылішча ў Мінску і ўжо год як працуе тут, у Маладзечна. Нарадзіўся ў Пухавіцкім раёне, у калгаснай сям'і. Бацька быў жывёлаводам, потым трактарыстам, загінуў у Айчынную вайну пад Орлом. Маці ў калгасе. Вось і ўсё, здаецца. Як ён працуе?.. Збоку гэта відней. Няхай пра гэта хто-небудзь іншы раскажа...

Дзве хвіліны — і ўся біяграфія... Хіба-ж раскажаш, як некалі, на выгане, гулялі ў снежкі, як нёс ён дамоў першую пяцёрку ў дзённіку, як важатая Каця завязала яму першы раз чырвоны гальштук?!. Хіба скажаш у такім адказным выступленні, з якой радасцю надзеў ён форменку чыгуначнага вучылішча! Колькі было ўсяго за гэтыя дваццаць пражытых год!

Быў звычайны дзень восені 1948 года. Праменні сонца час-ад-часу заглядалі ў пакой, дзе ішоў комсамольскі сход. Як і сёння, зрэдку пастукваючы алоўкам па чарнільніцы, сядзеў старшыня, а сакратар — рухавы віхрасты хлопец — штосьці хуценька запісваў у сшытку.

І ўсё-ж такі было інакш, не так, як сёння. Замест крэслаў былі тады парты. Замест слесараў, качагараў, машыністаў — вучні Пухавіцкай сярэдняй школы. Яны слухалі чорнавокага хлапчука, які вельмі хваляваўся, хоць кругом былі ўсе свае рабяты, якія ведалі аб ім кожную дробязь. Хіба-ж не з імі хадзіў ён па грыбы, зграбаў сена, раскладваў агонь на выпасе?.. «А што, калі не прымуць мяне ў комсамол!» — відаць, думаў хлапец. — «Мне-ж усяго чатырнаццаць. Падрасці, скажуць, бо яшчэ зялёны... А можа і прымуць!?. Я-ж не б'юся ў перапынках, не куру, вучуся добра, за лета шэсцьдзесят працадзён выпрацаваў у калгасе...»

Тады яго аднагалосна прынялі ў комсамол. У калідоры з ім сустрэўся Грыгорый Іванавіч Гуло, строгі, але чулы педагог, комуніст.

— Ты цяпер ужо комсамолец, Валодзя, — сказаў ён. — Цяпер тваё жыццё ўжо не толькі тваё.

Ґ загаварыў, нібы з дарослым. Валодзі было і прыемна, і крыху няёмка. Комсамольская арганізацыя, — гаварыў Грыгорый Іванавіч, — яшчэ малая, якіх-небудзь дзесяць чалавек. Уплыў яе пакуль невялікі, і таму спяхова пасцьвучняў не дужа добрая. А рабяты-ж выдатныя, заахвоціць іх трэба, і тады жыццё зайграе ўсімі вясёлкамі...

Грыгорый Іванавіч прапанаваў са свайго боку падтрымку, а Валодзя Людвіг абяцаў як належыць узяцца за справу.

Гэта былі незабыўныя дні. Тоненькая кніжачка, якую ўрачыста ўручыў яму сакратар райкома, шмат да чаго абавязвала. Хлапцу далі даручэнне падрыхтаваць у комсамол лепшых людзей свайго класа. І Валодзя як групорг разам з іншымі папрацаваў сумленна. Таму праз два гады ўвесь клас цалкам стаў комсамольскім. Насценгазета, сумесныя заняткі з адстаючымі, калектыўныя паходы ў кіно, на дыспуты па любімых кнігах — усё гэта еднала рабят у адзіную сям'ю. Грыгорый Іванавіч быў задаволены — яны папрацавалі нядрэнна.

Імклівa ляцелі комсамольскія гады...

У сям'і Валодзі Людвіга патомсцвенных рабочых не было. Вёсачка Граб'ёўе, акружаная з усіх бакоў лесам, дзе і сёння жыве маці Валодзі Марыя Канстанцінаўна, ніколі не ведала ні рамесніцтва, ні адыходных промыслаў. І дзяды, і моладзь спакон веку сеялі, малацілі, касілі духмяную траву, гадавалі жывёлу.

Хлебаробам стаў-бы, мусіць, і Валодзя, каб не здружыўся з дзецьмі пухавіцкіх чыгуначнікаў. Ад іх бацькоў наслухаўся ён нямала цікавага аб рабоце на чыгунцы. Хлапец хацеў стаць і машыністам, і кандуктарам, і дэпоўскім рабочым: у залежнасці ад таго, чый расказ быў цікавейшы — машыніста, або аглядчыка вагонаў. Калі пачаўся чарговы набор у чыгуначныя вучылішчы, Валодзя падаў сваю заяву і ў хуткім часе з гонарам хадзіў па Мінску ў новенькай форменцы.

Яшчэ праз два гады ў жыцці Уладзіміра Людвіга адбылася другая памятная падзея—яго паслалі слесарам чацвёртага разраду ў паравознае дэпо станцыі Маладзечна. Хвалюючым, незабыўным бывае першы дзень самастойнай работы, калі на цябе глядзяць як на спецыяліста, а ў цябе ў галаве неадчэпная думка: «А ці выйдзе з мяне добры рабочы?»

...У цэху прамыўкі рамантавалі паравоз. Ён стаяў, магутны, вялізны, авеяны дымам і ветрамі, нібы ветэран, што пакінуў поле бою, каб хутчэй перавязаць раны і зноў рынуцца ў бітву.

— Атрымлівай, браце, нарад, — хітравата падміргнуўшы Валодзю вокам, сказаў брыгадзір прамывачнага цэха Аляксей Шумілін. — Дзейнічай самастойна. Федзя Янушкевіч захварэў, на работу не прыдзе.

Уладзімір прабег вачыма паперку: трэба было агледзець залатнікі, адрамантаваць кулісны рух і ўшчыльніць папаўзушкі. Хто знаёмы з паравозам, той ведае, што гэта найбольш адказная і тонкая работа. «Нічога, праўлюся і адзін, — падумаў малады слесар. — Разбяру залатнікі, аднясу няспраўныя ўтулкі і валікі ў механічны цэх. Пакуль будуць наварваць, прывяду ў парадак папаўзушкі». Хацелася ўсё выканаць хутка і добра, вытрымаць першае выпрабаванне. Ён-жа слесар!

Няспраўныя дэталі хутка наварылі. Уладзімір ачысціў ад нагару залатнікі, зрабіў фаскі на кольцах і ўзяўся за ўстаноўку. Яшчэ ў вучылішчы яго папярэджвалі, што залатнікі трэба ўстанаўліваць дакладна па выносках — міліметр у міліметр. Інакш роўнасць параразмеркавання будзе парушана.

Майстар Якаў Васільевіч Кабыльскі недаверліва паглядзеў на Уладзіміра, калі даведаўся, што той выканаў работу раней тэрміну. Ні слова не сказаўшы, ён доўга аглядаў механізм, насцярожана стукаў малатком па жалезу, а закончыўшы, не стрымаўся і адабральна ўсміхнуўся:

— Што добра, то добра... Толькі гайку ў папаўзушцы яшчэ шчыльней завінці...

Праз два дні Федзя Янушкевіч, які пасля хваробы прышоў на работу, перадаў Уладзіміру, што майстар аб ім вельмі высокай думкі.

Пахвала старога майстра падбадзёрыла Уладзіміра, але ён быў далёкі ад захаплення сабой.

Яго прыкмецілі, бо юнак імкнуўся ўсякую работу выканаць бездакорна. Словы «калектыў», «слесар» напоўніліся для яго вялікім сэнсам. У цэх прамыўкі, дзе цэлы дзень грымела, стукала жалеза, свістала сціснутае паветра, Уладзімір ішоў цяпер, нібы ў родны дом.

Прайшоў год. Малады слесар узмужнеў, авалодаў прафесіяй і палюбіў яе, як умеюць любіць маладыя гарачыя сэрцы. Майстар Якаў Васільевіч, які прывык цаніць людзей за іх адносіны да працы, мог цяпер даверыць Уладзіміру самую складаную работу. Месячныя заданні малады слесар перавыконваў у паўтара, а часам ледзь не ў два разы. Хлапца ў цэху сапраўды палюбілі — за залатыя рукі, за акуратнасць і сур'ёзнасць.

Але, апрача работы вытворчай, мае Уладзімір і другія абавязкі. Ён актыўны рабкор насценгазеты «Лакаматыў», куды піша аб справах цэха.

Быў такі выпадак. На работу ў дэпо прыехалі выпускнікі вучылішча Віктар Моклы, Анатоль Рудак і яшчэ некалькі «навічкоў». Трымаліся яны спачатку ўбаку, хадзілі сваёй групай, над нечым пасмейваліся. Уладзімір, як адказны па падпісцы, прапанаваў ім падпісацца на газеты.

— А ты хто тут такі? — зашумелі хлопцы. — Перад начальствам выслужваешся? Бачылі мы такіх.

— Ну, што-ж, таварышы, — усміхнуўся Уладзімір, — хваліць вас за гэта ніхто не будзе. А наконт выслужвання пагаворым пасля, калі бліжэй пазнаёмімся з вамі.

Праз тыдзень «навічкі» самі прынеслі грошы на газеты, і выгляд іх быў такі, нібыта ніякай непрыемнай размовы і ў паміне не было.

Бывае ў жыцці іншы раз так, што здарыцца з чалавекам нейкая прыкрасць і яго пакараюць за дрэнны ўчынак. Па форме, здаецца, зроблена ўсё як належыць, а чалавек пакутуе, крыўдна яму і за сябе і за калектыў. Уладзімір Людвіг не любіць у такіх выпадках нікога суцяшаць. Ён умее знаходзіць простыя і моцныя словы, якія дапамагаюць таварышу пайсці правільнай дарогай.

Камсамолец механічнага цэха Анатоль Цярэшка быў заўсёды ў ліку першых: нядрэнны рабочы, актывіст, чулы таварыш. Але аднойчы, паехаўшы на вёску, напіўся ў нейкай незнаёмай кампаніі і чамусьці ўвязаўся ў бойку. Далі Цярэшку суровае спагнанне, шмат хто адвярнуўся ад яго, і хлапец засумаваў.

— У нас, брат, з табой, Толя, усё жыццё наперадзе, — сказаў яму тады Уладзімір. — Крыўдзіцца не трэба. Лепш на справе дакажы, што ты можаш быць сапраўдным камсамольцам. Ты здолееш даказаць.

Прайшоў час, і сёння Цярэшка, як і раней, карыстаецца павагай усіх.

Новае, цудоўнае пакаленне рабочага класа расце ў нашай краіне! На століку ў маладога слесара можна ўбачыць і «Слова аб палку Ігаравым», і раман Луі Арагона «Комуністы», і шмат іншых кніг. Вечарамі Людвіг наведвае школу рабочай моладзі — вывучае законы фізікі і эканоміку нашай дзяржавы, творчасць Грыбаедава і культуру Кіеўскай Русі. Расці, несупынна расці — такі дэвіз камсамольца!

Сур'ёзная работа, цяга да вучобы, заўсёды шчырыя, любоўныя адносіны да справы пакалалі адбітак і на знешнім вобліку Уладзіміра: чорныя вочы, як вугольчыкі, ззяюць дапытлівым, задумлівым агеньком. Але юнак бывае не толькі сур'ёзным. Маладосць патрабуе свайго. Па серадах, калі няма заняткаў у школе, Уладзімір ідзе ў клуб, у танцавальны гурток. Ён не раз выступаў у складзе дэпоўскага мастацкага калектыва перад калгаснікамі падшэфнага калгаса і перад сваімі рабочымі. Танцуе ён звычайна ў пары са сваім сябрам, памочнікам машыніста Віктарам Красненкам, які жыве ў суседнім пакоі інтэрната. Сапернічаць з Уладзімірам у танцах можа хіба Федзя Янушкевіч, які выступае ў другой пары. Танцуюць сябры добра: у лёгкіх ботах і вышываных кашулях, яны птушкамі лятаюць па сцэне.

... Калі тэхнік Іван Гоман закончыў свой расказ аб дзелавых і маральных якасцях камсамольца Уладзіміра Людвіга, у чырвоным кутку на нейкую хвіліну ўсталявалася цішыня. Праз адкрытую фортку даносіліся ў пакой прыглушаныя гукі ўдараў паравога молата і мернае гудзенне экскаватара, які разгружаў платформы з вугалем.

— Якія будуць меркаванні? — спытаў старшыня Мікалай Кабыльскі, і ў зале ажыўлена заварушыліся. — Ёсць прапанова даць Уладзіміру Людвігу рэкамендацыю для ўступлення кандыдатам у члены партыі. Другіх прапаноў няма?.. Стаўлю на галасаванне...

Усе галасы былі «за».

**Адну з рэкамендацый у партыю Уладзімір Людвіг атрымаў ад каменданта маладзечанскага паравознага дэпо Зінаіды Мікалаеўны Бальшаковай.**

Фото Р. Каралёва.






## НА „АЎРОРЫ"

Нева. Непаўторна ўрачыстыя ўзлёты мастоў. Манументальныя пліты гранітных набярэжных. Звонкія ўсплёскі чорна-сіняга зыбу...

Трое дзяўчат, трымаючыся за рукі, ідуць уздоўж ракі. Яны ўсхваляваны, захоплены адной агульнай думкаю і вельмі спяшаюцца. Яны ідуць на «Аўрору».

Яшчэ адзін паварот гранітнай сценкі і — вось ён, легендарны крэйсер, гонар рускага флоту, помнік вечнай славы героям Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі!

Расчалены моцнымі тросамі, стаіць баявы карабель у вусці Вялікай Неўкі, перад будынкам Ленінградскага Нахімаўскага ваенна-марскога вучылішча. Крэйсер «Аўрора», які ваяваў пад Цусімай, удзельнічаў у першай сусветнай вайне, служыць цяпер справе выхавання кадраў савецкага марскога афіцэрства. На ім жывуць і вучацца нахімаўцы старшых класаў. А ў памяшканні, дзе калісьці жылі палубныя камендоры, сапраўдныя гаспадары гармат «Аўроры», цяпер арганізаваны музей.

Дочкі Беларусі, студэнткі Ленінградскага універсітэта, прыйшлі на крэйсер, каб падрыхтаваць экскурсію ўсёй сваёй групы. Малады украінец, старшына I стацці Вадзім Літвін расказаў дзяўчатам гісторыю «Аўроры». Па некалькі разоў перачытвалі яны баявыя рапарты рэвалюцыйных матросаў «Аўроры», разглядалі іхнія бесказыркі. І подпіс Міхаіла Іванавіча Калініна на Грамаце ЦВК, якая сведчыць аб узнагароджанні крэйсера ордэнам Чырвонага Сцяга, аўтограф Эрнста Тэльмана, які ў свой час наведаў «Аўрору», таксама як і многія іншыя рэчы і дакументы назаўсёды засталіся ў памяці юных экскурсантак.

Тры студэнткі пацiснулі руку старшыны, які так многа разоў сустракаў на крэйсеры дарагіх гасцей, і нехта з іх сказаў:

— Дзякуем! У наступную нядзелю з усёй групай мы прыдзем сюды зноў. І гэта, безумоўна, будзе не ў апошні раз!

Тэкст і фото А. Дзітлава.

З АПАВЯДАННЯЎ АБ ВЯЛІКІМ КАСТРЫЧНІКУ

# ДЗВЕ СМЕРЦІ

**Аляксандр СЕРАФІМОВІЧ**



Мал. Ю Пучынскага.

У Маскоўскі Совет, у штаб, прышла шэравокая дзяўчына ў хусцінцы.

Неба было кастрычніцкае, грознае, і па халодных, мокрых дахах, між камінoў, поўзалі юнкеры і здымалі вінтовачнымі стрэламі неасцярожных на Совецкай плошчы.

Дзяўчына сказала:

— Я нічым не магу быць карыснай рэволюцыі. Я хацела-б дастаўляць вам у штаб звесткі аб юнкерах. Сястрой—я не ўмею, ды сясцёр у вас многа. Змагацца таксама — ніколі не трымала зброі. А вось, калі дадзіце пропуск, я буду вам прыносіць звесткі.

Таварыш, з маузерам за поясам, у зашмальцаванай скуранцы, з худым ад бяссонных начэй і сухотаў тварам, неадступна ўглядваючыся ў яе, сказаў:

— Ашукаеце нас, — расстраляем. Вы разумееце? Адкрыюць там, — вас расстраляюць. Ашукаеце нас, расстраляем тут!

— Ведаю.

— Дык вы ўзважылі ўсё?

Яна паправіла хусцінку на галаве.

— Вы дайце мне пропуск на ўсе пасты і дакумент, што я — афіцэрская дачка.

Яе запрасілі ў асобны пакой, да дзвярэй прыставілі вартавога. За вокнамі на плошчы зноў пасыпаліся выстралы — наляцеў юнкерскі бранявік, пастраляў, паехаў.

— А чорт яе ведае... Даведкі навёў, ды што даведкі, — гаварыў таварыш з упалым, сухотным тварам, — вядома, можа падвесці. Ну, ды дадзім. Многа яна пра нас не зможа там расказаць. А пападзецца — прыстукнем.

Ёй выдалі фальшывыя дакументы, і яна пайшла на Арбат у Александраўскае вучылішча, паказваючы на вуглах пропуск чырвонаармейцам.

На Знаменцы яна чырвоны пропуск схавала. Яе акружылі юнкеры і адвялі ў вучылішча ў дзяжурную.

— Я хачу папрацаваць сястрой. Мой бацька забіты на германскай вайне, калі Самсонаў адступаў. А два браты — на Доне ў казачых часцях. Я тут з маленькай сястрой.

— Вельмі добра, цудоўна. Мы рады. У нашай цяжкой барацьбе за Вялікую Расію мы рады шчырай дапамозе кожнага высокароднага патрыёта. А вы — дачка афіцэра. Просім!

Яе правялі ў гасціную. Прынеслі чай.

А дзяжурны афіцэр гаварыў юнкеру, які стаяў перад ім:

— Вось што, Сцяпанаў, апраніцеся рабочым. Прабярыцеся на Пакроўку. Вось адрас. Даведайцеся падрабязна аб дзяўчыне, якая сядзіць у нас.

Сцяпанаў пайшоў, апрануў паліто з крывавай дзірачкай на грудзях — толькі што знялі з забітага рабочага. Апрануў яго штаны, рваныя боты, шапку і ў змроку накіраваўся на Пакроўку.

Там яму сказаў нейкі рыжы калматы грамадзянін, дзіўна іграючы вачыма:

— Так, жыве ў другім нумары нейкая. З сястрычкай маленькай. Буржуйка чортава.

— Дзе яна зараз?

— Ды вось з раніцы няма. Арыштавалі, мабыць. Дачка штабс-капітана. Гэта ўжо язва... А вам навошта яна?

— Ды тут яе прыслуга была з адной вёскі з намі. Дык пабачыць хацеў. Бывайце!

Уначы, вярнуўшыся з пастоў, юнкеры акружылі шэравокую дзяўчыну вялікай увагай. Дасталі пірожнага, цукерак. Адзін пачаў спрытна іграць на раялі; другі, схіліўшы калена, смеючыся, падаў букет.

— Разнясем усю гэтую хамскую арду. Мы ім добра насыпалі. А заўтра ўначы ўдарым ад Смаленскага рынка так, што толькі пер'е пасыплецца.

Раніцай яе павялі ў шпіталь на перавязкі.

Калі праходзілі міма белай сцяны, у вочы кінулася: ля сцяны ў ружовай паркалёвай кашулі, з адкінутай галавой ляжаў рабочы — боты ў гразі, падэшвы пратаптаны, над левым вокам цёмная дзірачка.

— Шпіён! — кінуў юнкер, праходзячы і не зірнуўшы. — Злавілі.

Дзяўчына цэлы дзень працавала ў шпіталі, мякка і спрытна, і параненыя з удзячнасцю глядзелі ў яе шэрыя цёмназапушаныя вочы.

— Дзякуй, сястрыца.

На другую ноч адпрасілася дадому.

— Ды куды вы? Даруйце, гэта-ж небяспечна. Цяпер за кожным вуглом пільнуюць. Як толькі з нашай зоны выйдзеце, зараз-жа вас схопяць хамы, а то і падстрэляць без размоў.

— Я ім дакументы пакажу, я — мірная. Я не магу. Там сястрычка. Бог ведае, што з ёй. Душа збалелася...

— Ну, так, маленькая сястрычка. Гэта, вядома, так. Але я вам дам двух юнкероў, правядуць.

— Не, не, не, — спалохана працягнула рукі, — я адна... я адна... Я нічога не баюся.

Той пільна паглядзеў.

— Т-а-ак.. Ну, што-ж!... Ідзіце.

«Ружовая кашуля, над вокам цёмная дзірка... галава адкінута...»

Дзяўчына вышла з варот і адразу пагрузілася ў акіян цемры — ні рысачкі, ні намёка, ні гуку.

Яна пайшла наўскасяк ад вучылішча цераз Арбацкую плошчу да Арбацкіх варот. З ёй ішло маленькае кола цемры, у якім яна адрознівала сваю фігуру. Больш нічога — яна адна ва ўсім свеце.

Не было страху. Толькі ў сярэдзіне ўсё напружвалася.

У маленстве, бывала, забярэцца да бацькі, калі ён пойдзе, здыме з дывана над ложкам гітару, усядзецца з нагамі і пачынае пацінькваць струною і ўсё падцягвае калочак, і ўсё таней, усё вышэй струнная скарга, усё нясцерпней. Тонкай сутаргай, якая ўпіваецца ў сэрца, ці-ці-ці-і... Ай, лопне, не вытрымае... І мурашкі бягуць па спіне, а на маленькім ілбе пацеркі... І гэта прыносіла надзвычайную, ні з чым непараўнальную асалоду.

Так ішла ў цемры, і не было страху, і ўсё павышалася тоненька: ці-ці-ці-і-і.... І невыразна адрознівала сваю цёмную фігуру.

І раптам працягнула руку — сцяна дома. Жах разліўся расслабленай млявасцю па ўсім целе, і пацеркамі, як тады, у маленстве, выступіў пот. Сцяна дома, а тут павінна быць агарожа бульвара. Значыць заблудзіла. Ну, што-ж такое — зараз знойдзе напрамак. А зубы стукалі нястрымнымі ўнутранымі дрыжыкамі.

Хтосьці насмешліва схіліўся і шаптаў:

— Дык гэта-ж пачатак канца... Не разумееш?... Ты думаеш, толькі заблудзілася, а гэта пач...

Яна нечалавечым намаганнем разблытвае: справа Знаменка, злева бульвар... Яна, відавочна, узяла паміж імі. Працягнула рукі — слуп. Тэлеграфны? З моцна забіўшымся сэрцам апусцілася на калені, абмацала зямлю, пальцы ткнуліся ў халоднае мокрае жалеза... Агарожа, бульвар. Разам зваліўся цяжар. Яна спакойна паднялася і... задрыжала. Усё варушылася кругом — невыразна, губляючыся, зноў узнікаючы. Усё варушылася — і будынкі, і сцены, і дрэвы. Трамвайныя мачты, рэйкі варушыліся, крывавачырвоныя ў крывавачырвонай цемры. І цемра варушылася, каламутна-чырвоная. І хмары, нізка звесіўшыся, палалі, крывавыя.

Яна ішла туды, адкуль лілося гэта маўклівае паланне. Ішла да Нікіцкіх варот... Дзіўна, чаму яе да гэтага часу ніхто не аклікнуў, не спыніў. У чарнаце варот, пад'ездаў, вуглоў — ведае — прытаіліся дазоры, не спускаюць з яе вачэй. Яна ўся на віду, ідзе, аблітая чырвоным паланнем, ідзе, сярод усяго палаючага.

Спакойна ідзе, заціскаючы ў адной руцэ пропуск белых, у другой — чырвоных. Хто аклікне, таму і пакажа адпаведны пропуск. Навокал пуста, толькі без стомы жалобна-чырвонае нямое паланне. На Нікіцкай страшэнна бушавала. Раз'юшаныя языкі ўткнуліся ў барвованізкія хмары, па якіх бушавалі клубы барвовага дыму. Вялізны дом наскрозь свяціўся распаленым асляпляльным святлом. І у гэтым асляпляльным святле усё, па-вар'яцку дрыжучы, шалёна неслася ў хмары; толькі, як чорны шкілет, нерухома чарнелі бэлькі, рэйкі, сцены. І ўсё гэтак-жа ашалела свяціліся навылет вокны.

Да хмар ляцелі іскры хвастатай чырвонай птушкі, трэск і безупынны распалены шэпт — шэпт, які пакрываў сабою ўсё навокал.

Дзяўчына павярнулася. Горад тануў у змроку. Горад з незлічонымі будынкамі, званіцамі, плошчамі, скверамі, тэатрамі, публічнымі дамамі — знік. Стаяў гмах цемры.

І ў гэтай неабдымнасці — маўчанне, і ў маўчанні — затоенасць: вось-вось грымне тое, чаму няма імя. Але стаяла маўчанне, і ў маўчанні — чаканне. І дзяўчыну апанаваў жах.

Нясцерпна абдавала гарачынёй. Яна пайшла наўскасяк. І як толькі дайшла да цёмнага вугла, высунулася прысадзістая фігура і на штыху зайграў водбліск.

Ніл ГІЛЕВІЧ

## Вернасць

Нас не было яшчэ тады на свеце,
Калі грымеў Аўроры залп, калі
Пад ліўнем куль матросы і гвардзейцы
На штурм Палаца Зімняга ішлі.

Нас не было ў той час...
Але заўсёды
Мы чуем буры ў сэрцах маладых,
Як быццам марш семнаццатага года
Прайшоўся ў сэрцах і адбіўся ў іх.

Ці сад гадуем на пясках пустыні,
Ці ў стэп асмужаны вядзем канал, —
Ніколі ў сэрцах маладых не стыне
Свяшчэнны той кастрычніцкі запал.

Імя яму — любоў к табе, Радзіма,
К табе — краіна шчасця і свята!
Жывем мы яснай мэтаю адзінай —
Каб толькі ты квітнела і расла.

Байцы Кастрычніка таго-ж жадалі.
Ішлі на бой і гінулі ў баю,
Нам са свабодай разам пакідалі
Вось гэту мару лепшую сваю.

Яе здзяйсненне — у жыцці мільёнаў,
Ёй — не завянуць, ёй — бясконца ззяць,
Бо мы не толькі будаваць натхнёна —
Мы наша шчасце ўмеем адстаяць.

І знаюць тыя, хто бразгоча зброяй,
Што нашы сэрцы могуць біцца так,
Як у гвардзейцаў, у бацькоў-герояў
У грозны час кастрычніцкіх атак.

— Куды?! Хто такая?

Яна спынілася і паглядзела. Забыла, у якой руцэ які пропуск. Секунда хістання цягнулася. Дула ўзнялося да ўзроўню грудзей.

Што-ж гэта? Хацела працягнуць правую і нечакана для сябе працягнула сутаргава левую далонь.

На ёй ляжаў юнкерскі пропуск.

Ён адставіў вінтоўку і нязграбна, непаслухмянымі пальцамі пачаў распраўляць. Яна задрыжэла дробнымі, ніколі не зведанымі дрыжыкамі. З трэскам ззаду вырваўся з пажару сноп іскраў, сутаргава асвяціўшы.... На каравай далоні ляжаў юнкерскі пропуск... уверх нагамі...

«Уфф, т-ты.. непісьменны!»

— На.

Яна сціснула праклятую паперку.

— Куды ідзеш? — наўздагон ёй.

— У штаб... у Совет.

— Завулкамі ідзі, а то цокнуць.

...У штабе яе сустрэлі ўважліва: звесткі былі вельмі каштоўныя. Усе ветла гаварылі з ёй, распытвалі. У скуранцы, з сухотным тварам, ласкава ўсміхаўся ёй:

— Ну, маладзец, дзяўчына! Глядзі толькі, не сарвіся...

Прыцемкам, калі страляніна пачала сціхаць, яна зноў пайшла на Арбат. У шпіталь усё падвозілі і падвозілі параненых з раёна. Атака юнкероў ад Смаленскага рынка была адбіта, яны панеслі страты.

Цэлую ноч дзяўчына са змучаным, змарнелым тварам перавязвала, паіла, папраўляла бінты, і параненыя з удзячнасцю сачылі за ёй вачыма. На світанні ў шпіталь ўварваўся юнкер без шапкі, у рабочым касцюме, ускудлачаны, з перакрыўленым тварам.

Ён падскочыў да дзяўчыны:

— Вось... гэта... распусніца... прадала...

Яна адхіснулася, бледная, як палатно, потым твар заліла смяротная фарба, і яна закрычала:

— Вы... вы рабочых забіваеце! Яны ірвуцца з страшнай долі... У мяне... Я не ўмею зброяй, вось я вас забівала...

Яе вывелі да белай сцяны, і яна паслухмяна легла з двума кулямі ў сэрцы на тое месца, дзе ляжаў рабочы ў паркалёвай кашулі. І пакуль не забралі яе, шэрыя апушаныя вочы безупынна глядзелі ў кастрычніцкае суровае і грознае неба.

Пераклад з рускай мовы.



Г. ШЧАРБАТАЎ

# Вечарамі ў Жыровіцах

Нарыс

Аўтобус спыніўся на шырокай вясковай плошчы. З яго выйшаў малады чалавек у шэрым плашчы, з чамаданам у руках. Цёмныя валасы на галаве прыгожа адцянялі яго белы твар з блакітна-шэрымі вачыма. Чалавек пастаяў крыху на плошчы. На яго твары адбілася здзіўленне і непакой. З аднаго боку плошчы, падпіраючы неба, стаяла велізарная царква; з другога боку стаяла яшчэ адна царква, крыху меншая, а далей — вострымі шпілямі ўзнімаўся ўгору касцёл.

«Нялёгка тут будзе працаваць», — падумаў прыезджы і спытаў у хлапчука, дзе знаходзіцца сельскі совет.

У сельсовеце хлапец паказаў свае дакументы і папрасіў дапамагчы яму асталявацца дзе-небудзь на кватэры. А неўзабаве ўся вёска Жыровіцы ведала, што прыехаў загадчык Жыровіцкага сельскага Дома культуры Канстанцін Канстанцінавіч Касцюк.

Старшыня сельсовета вадзіў Касцюка па пакоях толькі што пабудаванага, прасторнага і светлага Дома культуры і задаволена гаварыў:

— Добра, што ты прыехаў, Косця. Дапаможаш нам тут, — і ён паказаў у бок царквы.

— А што — дзейнічае?

— Яшчэ як!

У дэмабілізаванага воіна, камсамольца адной з заходне-беларускіх вёсак Канстанціна Касцюка не шмат было вопыту ў правядзенні культурна-масавай і ў асаблівасці асветна-атэістычнай работы сярод калгаснікаў.

Але цяжкасці не палохалі Касцюка. Ён пабываў у бюро партыйнай арганізацыі, параіўся, з чаго і як пачынаць сваю работу. Вырашылі неадкладна стварыць совет Дома культуры, распрацаваць і зацвердзіць план яго дзейнасці.

На сходзе жыровіцкага актыву быў выбраны совет Дома культуры. Сюды ўвайшлі настаўнікі, урачы, калгаснікі. З дапамогай совета Касцюк энергічна ўзяўся за навядзенне парадку ў Доме культуры. Трэба было зрабіць тут утульна, прыгожа, выпісаць газеты і часопісы, купіць шашкі і шахматы, адкрыць бібліятэку. Настаўнікі-камсамольцы Ніна Рыжанкова і Віктар Парфенаў дапамаглі маляваць дыяграмы росту грамадскай гаспадаркі калгаса, зрабілі фотавітрыну, прысвечаную пастанове Верасьнёўскага Пленума ЦК нашай партыі. У Дом культуры пачалі прыязджаць кінаперасоўкі. Цяпер вечарамі, калі ўспыхвала электрычнае святло, у Доме збіралася многа моладзі. Але Касцюк бачыў, што сюды прыходзяць пераважна камсамольцы і сельскі актыў. Значная-ж частка моладзі ходзіць у царкву. «Чаму так атрымоўваецца?» — думаў ён.

Аднойчы загадчык рашыў параіцца з дзяўчатамі-камсамолкамі. Часцей за ўсіх прыходзіла ў Дом культуры вясёлая чарнавокая дзяўчына Соня Рабцэвіч. Касцюк запытаў у дзяўчыны:

— Соня, а чаму ты не прыводзіш ў клуб сваіх сябровак? Ты, мне здаецца, сябруеш з Валянцінай Харытонавай, а яе я ні разу тут не бачыў.

— Валянціна вельмі любіць спяваць, — адказала Соня. — Каб у нас быў хор...

Касцюк ужо і сам аб гэтым думаў. У той-жа вечар ён пайшоў да фізрука сярэдняй школы Мікалая Іванавіча Кір'янава, які добра іграў на баяне. Настаўнік з ахвотай згадзіўся кіраваць хорам Дома культуры. Вясёлыя гукі баяна амаль штовечар гучалі ў пакоі для масавай работы. І адразу тут стала больш ажыўлена і многалюдна. Першай спявачкай стала Соня Рабцэвіч. У яе аказаўся чысты і звонкі голас, і яна магла начамі напалёт няспынна рэпетыраваць песні. У адзін з вечароў прышла сюды і Валянціна Харытонава. Дзяўчына, крыху саромячыся, падышла да Касцюка і папрасіла:

— Косця, прыміце і мяне ў хор.

— У двух хорах вырашыла пець? — пажартаваў Касцюк.

— Што ты, я ўжо больш не пайду ў царкву, — горача адказала дзяўчына.

Касцюк задаволена ўсміхнуўся.

Хор пачаў расці. Дзяўчаты і хлопцы Жыровіц, Залесся, Заверша, Загор'я і яшчэ больш дальніх вёсак рэгулярна прыходзілі на рэпетыцыі. І колькі-ж было радасці, калі на абласным аглядзе мастацкай самадзейнасці хор заняў другое месца і быў прэміраваны камплектам музыкальных інструментаў. Узніклі і пачалі працаваць і іншыя гурткі — драматычны, спартыўны.

Канстанцін Касцюк заўважыў, што калгаснікі асабліва актыўна наведваюць Дом культуры ў дзень дэманстрацыі кінофільмаў. «Трэба абсталяваць стацыянарную кіноўстаноўку», — вырашыў ён. У раёне пайшлі насустрач загадчыку Дома культуры, і хутка кіноўстаноўка была ўстаноўлена. Тады Касцюк паклікаў кіномеханіка камсамольца Генадзія Доста і павёў з ім такую гутарку:

— Відаць, ты не хочаш весці барацьбы з перажыткамі капіталізма.

— Чаму?

— Ніводнай карціны не прывёз на антырэлігійныя тэмы. У раёне ёсць часопісы аб паходжанні зямлі, аб сусвету, аб зараджэнні жыцця. А былі яны на нашым экране?..

**А. ВЯРЦІНСКІ**

## УЗНАГАРОДЫ

Не так даўно глядзеў шчаслівы ён
На баявыя бацькавы медалі.
Іх зіхаценне дзіўнае і звон
Яму спакою проста не давалі.
Медалі хлопчык прымяраў не раз.
І як ён славай бацькі ганарыўся!
Як погляд у малога ў гэты час
Заманліваю мараю іскрыўся!
Ішлі гады. Ля тых узнагарод
Заззяў і ордэн за ўраджай багаты.
Прайшлі гады. І наступіў чарод —
Прыходзіць сын узрушаны дахаты.
Смяецца.
І праз некалькі хвілін
Пра ўсё даведаліся бацька з маці:
— Ну, малайчына, сын. Яшчэ адзін
Медаль прыбавіўся ў нашай хаце. —
Разгорнуты прад імі атэстат.
— Адны пяцёркі... Залаты, вядома, —
Прамовіў бацька, і за сына рад,
За лёс яго, за славу свайго дома.
На сына неяк паглядзеў інакш.
Не школьнік, не хлапчук белагаловы
Прышоў дамоў сягоння,
А юнак,
Удумлівы, семнаццацігадовы.
Віншуе бацька горача яго,
Нібы дарослага ў такім выпадку:
— Так дойдзеш і да ордэна майго,
Медаль, сынок, — нядрэнна для пачатку.

Кіномеханік адчуваў сябе вінаватым. Сапраўды, чаму ён бярэ кінокарціны без усялякага разбору, што яму падсунуць у аддзеле культуры? І ўжо ў наступны дзень ён папрасіў карціну «Свята святога Іаргена».

З гэтага часу камсамолец Генадзі Доста актыўна ўключыўся ў атэістычную прапаганду сярод насельніцтва. Ён заўсёды знаходзіць цікавы кіначасопіс, першым імкнецца ўзяць кінофільм, дзе паказваюцца дасягненні перадавой навукі, выкрываюцца махінацыі рэлігіі і яе служак.

Жыровіцкая моладзь хутка ацаніла нястомную энергію і малады запал загадчыка Дома культуры. На справаздачным камсамольскім сходзе яна адзінадушна выбрала Касцюка сакратаром калгаснай камсамольскай арганізацыі. Канстанцін адчуў, што на яго плечы цяпер лягла яшчэ большая адказнасць за выхаванне моладзі ў комуністычным духу, за яе ўдзел у калгаснай працы.

Прайшло больш году з прыезда сюды Канстанціна Касцюка. Камсамолец бачыў, што культурнамасавая работа на вёсцы нясла дзейсную карысць насельніцтву. Многія з калгаснікаў сталі пастаяннымі наведвальнікамі Дома культуры, лекцый і кіносеансаў. Аднак лекцый праводзілася яшчэ малавата, і Касцюк пайшоў да дырэктара сярэдняй школы Сяргея Міхайлавіча Майбарады, які быў сакратаром партыйнай арганізацыі.

— Добра, што прышоў, — сказаў яму Майбарада. — Сёння збіраецца партыйны сход, будзем меркаваць аб палепшанні лекцыйнай прапаганды. Якія твае думкі?

— Вельмі рады гэтаму, — адказаў Канстанцін. — Мне здаецца, асабліва трэба ўзмацніць атэістычную прапаганду.

— Правільна. Быў я на семінары пры райкоме партыі. Многа цікавага пачуў па гэтаму пытанню. — І ён расказаў Касцюку, як варта весці атэістычную прапаганду.

Высветлілася, што Касцюк яшчэ не выкарыстаў многія сродкі гэтай прапаганды. У Доме культуры яшчэ не было антырэлігійнага кутка, камсамольцы не праводзілі індывідуальных гутарак з веруючымі, драмгурток не паставіў ніводнай антырэлігійнай п'есы.

— Галоўнае-ж — лекцыі, — працягваў Майбарада. — Цяпер у вёску зноў сабраліся ўсе настаўнікі, ёсць урачы і аграномы. От ім і трэба несці навуку ў масы. Сёння на партыйным сходзе зацвердзім план агітацыйнай работы на ўсю восень. Таму рыхтуйся...

А неўзабаве пасля партыйнага сходу на Доме культуры вісела аб'ява, што настаўнік Б. Н. Ганікман прачытае лекцыю на тэму «Навука і рэлігія». Пасля будзе дэманстравацца кінокарціна аб паходжанні жыцця на зямлі. Барыс Наумавіч лічыцца тут адным з лепшых лектараў. Яго любяць паслухаць калгаснікі. Вось чаму глядзельная зала, разлічаная на 400 чалавек, была перапоўнена. Многа новага адкрылася калгаснікам у гэты вечар. Лектар умела раскрыў рэакцыйную сутнасць рэлігіі, паказаў адзіна правільнае навуковае абгрунтаванне паходжання жыцця на зямлі. Вялікае ўражанне зрабіў на калгаснікаў і кінофільм.

Касцюк радаваўся. Лекцыі на антырэлігійныя тэмы збіралі народу, нібы канцэрты вядомых артыстаў. Настаўнік Уладзімір Міронавіч Кот прачытаў лекцыю аб паходжанні і рэакцыйнай сутнасці рэлігійных абрадаў; настаўнік Віктар Сямёнавіч Парфенаў — аб Ватыкане.

А тым часам Канстанцін наладжваў у Доме культуры антырэлігійны куток. Ён буйнымі літарамі напісаў словы: «Святло супраць цемры», прыбіў іх на сцяне, а ўнізе сабраў рознастайную літаратуру, якая выкрывае рэлігійныя забабоны. Тут можна знайсці творы В. Маякоўскага, А. Чэхава, А. Серафімовіча, К. Крапівы, выразкі з газет і часопісаў.

У Жыровіцы прыехала сакратар Слонімскага райкома камсамола Ганна Скрачава. Яна прывезла тэксты новых лекцый на атэістычныя тэмы, параіла, якую літаратуру можна скарыстаць у культурнаасветнай рабоце. Касцюк сказаў:

— Хутка ў Жыровіцах будзе фэст.

Ганна Скрачава задумалася. Яна ведала, што на фэст звычайна збіраецца многа людзей. Збіраюцца, каб пабачыцца з роднымі з другіх вёсак, пагаварыць аб справах, пабачыць людзей і паказаць сябе. А некаторыя пойдуць і ў царкву.

— Наладзьце добры канцэрт мастацкай самадзейнасці, — параіла яна. — Добра было-б запрасіць і духавы аркестр з горада.

Сакратар райкома тут-жа дапамагла скласці праграму канцэрта, паабяцала прыслаць са Слоніма лектара, які выступіць з антырэлігійнай лекцыяй.

...Глядзельная зала перапоўнена. Толькі што скончылася лекцыя. Цяпер на сцэне размясцілася каля сарака ўдзельнікаў харавога калектыва — дзяўчат і хлопцаў. Дзяўчаты ў беласнежных шаўковых кофтачках і чорных спадніцах. Баяніст Віктар Сямёнавіч бярэ акорд, і хор дружна падхоплівае песню «Партыя, слухай, родная». Моладзь шчыра выказвае свае пачуцці любві да роднай Комуністычнай партыі, якая прывяла наш народ да шчасця. Задуменна, з вялікай задушэўнасцю гучыць «Лясная песня» Уладзіміра Алоўнікава аб незабыўных партызанскіх днях, потым яе замяняюць лірычныя: аб каханні, аб мілым, што ў армію паехаў, аб дзяўчыне, што ходзіць па палях...

На сцэну выходзіць невысокая дзяўчына ў прыгожай сукенцы, стрыманая, гордая. Гэта Вера Ермаловіч. Яна будзе чытаць верш Уладзіміра Маякоўскага: «От поминок и панихид у одних попов довольный вид». Усе сціхаюць. І вось у залу ляцяць вострыя сатырычныя словы аб папах-хабарніках, якія бессаромна выкарыстоўваюць кожны выпадак для ўласнай нажывы, ашукваюць сумленных людзей, аплятаючы іх павуціннем рэлігійнага дурману.

І зноў гучаць песні — цяпер ужо соло і дуэты. Аб каханым-сінявокім спявае Марыя Смяткоўская, рускія народныя песні ўдвух выконваюць Соня Рабцэвіч і Мікалай Майбарада... Глядзяць калгаснікі на сваіх сыноў і дочак, і радасць запаўняе іх сэрцы. Іншай была іх маладосць пры польскіх панах і капіталістах, аб іншым думалі. Не да песень было, не да скокаў... Аб кавалку хлеба была думка. Цяпер усё іншае. Чаму-ж ёй не спяваць, гэтай моладзі, калі перад ёй адкрыты ўсе дарогі, усе шляхі ў светлае жыццё.

Кончыўся канцэрт, і каля клуба на вуліцы загрымелі трубы духавога аркестра. Канстанцін Касцюк бачыў, як усё больш калгаснікаў абміналі царкву, якая біла ва ўсе званы, і зварочвалі да клуба.

Нядаўна ў Дом культуры прышла калгасніца Марыя Сігіневіч. Моладзь здзівілася. Сігіневіч ніколі не заходзіла ў клуб: яна не прапускала ніводнага служэння ў царкве, кіравала там хорам, і раптам.. А Марыя падышла да Канстанціна і сказала:

— Не хачу больш туды хадзіць.

— Чаму?

— Хіба там праўду пачуеш... Дачка з мяне смяецца...

Дзяўчаты ведалі, што ў Марыі добры голас і прапанавалі:

— Ідзем у наш хор.

— Прымеце?!.

Задаволены былі ўсе камсамольцы. Яшчэ адзін чалавек, зняверыўшыся ў царкоўных забабонах, прышоў у Дом культуры, каб чэрпаць веды з перадавой, савецкай культуры і навукі. Дом культуры сапраўды стаў своеасаблівай школай гэтых ведаў. Ён знаходзіць рознастайныя формы, каб прапагандаваць лепшыя дасягненні савецкай аграбіялагічнай навукі. Вялікая, амаль на ўсю сцяну аднаго з пакояў фотавітрына расказвае аб Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы. Вельмі часта дасягненні мясцовага калгаса «Савецкая Беларусь» з'яўляюцца фактамі для прапаганды праз Дом культуры. Вырасціла, напрыклад, цялятніца Нікалайчык 24 цяляці, а звеннявая па ільну Фідрык дабілася 5 цэнтнераў ільнонасення — ім прысвячаецца нумар насценнай газеты. У цэнтры змешчаны фотаздымкі перадавікоў, ніжэй даюцца іх расказы аб тым, як яны дабіліся такіх поспехаў.

Тут-жа можна прачытаць аб рабоце камсамольска-маладзёжнага звяна па вырошчванню кукурузы. Новая гэта была справа для тутэйшай моладзі, але яна энергічна ўзялася за яе. Сёлетні год прынёс звяну багаты плён: з кожнага гектара было сабрана па 670 цэнтнераў кукурузы.

Многія камсамольцы пайшлі працаваць на жывёлагадоўчыя фермы, а Іван Панасюк стаў загадчыкам адной з іх. Камсамольцы актыўна вывозілі торф на палі, прымалі гарачы ўдзел у сенаўборцы і жніве.

У адным з пакояў створаны «Агратэхнічны куток». Тут экспаніруюцца ўзоры лепшых ураджаяў збожжавых і тэхнічных культур, выстаўлена розная агратэхнічная літаратура.

Дом культуры праводзіць рознастайныя літаратурныя вечары. Узрасла цікавасць калгаснікаў да мастацкай і палітычнай літаратуры. Бібліятэка налічвае звыш 600 чытачоў. Многія калгаснікі набылі невялікія ўласныя бібліятэкі. Усе камсамольцы выпісваюць газеты і часопісы.

Асабліва многа клопатаў было для Касцюка напярэдадні Кастрычніцкіх свят. Рыхтавалася вялікая праграма вечара самадзейнасці. Рэдакцыя працавала над выпускам святочнай насценнай газеты. Абнаўлялася афармленне клуба. Цэлымі днямі сядзеў Канстанцін над стварэннем новых фотавітрын, дыяграм аб дасягненнях калгаса, над напісаннем лозунгаў і плакатаў.

Неяк сустрэў Касцюка старшыня калгаса «Савецкая Беларусь» Іван Міхайлавіч Бакавец. Старшыні падабаўся гэты шустры хлапец, камсамольскі важак. За апошні год многа добрага зрабіла камсамольская арганізацыя па ўмацаванню арцельнай гаспадаркі. Узнялася працоўная дысцыпліна калгаснікаў, павысілася іх актыўнасць. І ўсюды першыя — камсамольцы.

Прывітаўшыся, Іван Міхайлавіч шчыра сказаў Касцюку:

— Дзякую за працу! Будзеш паступаць у партыю, прыходзь... Дам рэкамендацыю.

**Слонімскі раён**

**Гродзенскай вобласці.**

В. ДАШКЕВІЧ

# МЫ СПРАВАЙ МІРУ ЖЫВЕМ

17 лістапада — Міжнародны дзень студэнтаў.

У гэты дзень юнакі і дзяўчаты ўсіх краін свету падвядуць вынікі барацьбы за паляпшэнне ўмоў жыцця і вучобы, за дэмакратызацыю асветы і поўныя акадэмічныя свабоды, за нацыянальную незалежнасць і мір.

У жніўні гэтага года на Ленінскіх гарах у Маскве, у цудоўным будынку Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта, адбылася IX сесія Міжнароднага саюза студэнтаў. У яе рабоце прымалі ўдзел каля 250 чалавек, якія прадстаўлялі студэнцкія арганізацыі 73 краін.

Выступленні прадстаўнікоў замежных студэнцкіх арганізацый паказалі, што эканамічнае і сацыяльнае становішча студэнтаў у капіталістычных краінах застаецца цяжкім, а ў некаторых краінах з дня ў дзень пагаршаецца. Доступ к асвеце там робіцца ўсё больш цяжэйшым. У Перу, напрыклад, толькі 10 працэнтаў жадаючых паступіць у навучальныя ўстановы маюць магчымасць вучыцца. З-за недахопу сродкаў вельмі абмежаваны прыём у Мельбурнскім універсітэце (Аўстралія). Большасць японскіх студэнтаў вымушана працаваць па начах, каб мець магчымасць займацца ўдзень. Але нават і ў гэтым выпадку іх заробку нехапае, каб пакрыць выдаткі па задавальненню самых мінімальных патрэб. Часта яны вымушаны кідаць вучобу.

Аб матэрыяльным становішчы студэнтаў лепш за ўсё можна меркаваць па колькасці і памерах стыпендый. У Францыі, напрыклад, толькі 20 працэнтаў студэнтаў атрымліваюць стыпендыю, у Іспаніі, згодна афіцыйных даных, стыпендыю атрымлівае менш 5 працэнтаў. Яна настолькі малая, што яе нехапае нават на падручнікі.

Яшчэ больш цяжкае становішча ў каланіяльных і залежных краінах. У выніку французскай акупацыі 93 працэнты насельніцтва Сенегала з'яўляецца непісьменным. У такіх краінах, як Кенія, Поўночная Радэзія, Французская Экватарыяльная Афрыка, няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы. У Судане, насельніцтва якога складае 13 мільёнаў чалавек, толькі адна ВНУ — універсітэт. Тут займаецца ўсяго 500 студэнтаў, з іх толькі 10 дзяўчат.

Але і ў тых краінах, дзе існуе так званая вышэйшая асвета, праграма навучання пабудавана так, што адпавядае толькі інтарэсам заакіянскіх магнатаў . У Тунісе, напрыклад, існуе універсітэт Эль Зітуна, або, як яго завуць іначай, Вялікая Мячэць. У гэтым «універсітэце» выкладанне абмежавана вывучэннем Карана і старажытнаарабскай граматыкі. Улады прыкладаюць усе намаганні, каб не дапусціць выкладання гісторыі, матэматыкі, фізікі, хіміі і іншых прыродазнаўчых навук. Студэнты амерыканскіх, англійскіх, французскіх каланіяльных уладанняў добра ведаюць аб жыцці ўсяляскіх каралёў, могуць шмат чаго расказаць аб рэках Сена і Тэмза, але нічога не ведаюць ні аб геаграфіі, ні аб эканоміцы сваёй краіны. Яны зусім пазбаўлены магчымасці вывучаць гісторыю барацьбы сваіх народаў супраць імперыялістычнага прыгнёту.

У многіх краінах студэнцкая моладзь пазбаўлена магчымасці ствараць свае арганізацыі, ім забаронена выступаць у абарону сваіх патрабаванняў. У Ліване, Калумбіі, Тунісе, Бірме паліцыя разганяе студэнцкія дэманстрацыі, ужываючы меры гвалту. Можна прыгадаць шматлікія выпадкі, калі ў часе такіх дэманстрацый былі забіты або паранены яе ўдзельнікі.

Студэнты каланіяльных і прыгнечаных краін усё больш рашуча ўзнімаюцца на барацьбу за задавальненне сваіх запатрабаванняў. Студэнты Ірака, Лівана, Судана, Сенегала і іншых краін паўстаюць супраць дэспатызма ў сістэме асветы. Студэнты з асацыяцыі афрыканскага дэмакратычнага аб'еднання несуперак імкненням каланізатараў уступілі на шлях барацьбы за адраджэнне нацыянальнай афрыканскай культуры. Моладзь Туніса правяла васьмімесячную забастоўку, патрабуючы ажыццяўлення рэформы асветы на дэмакратычнай аснове. Дзякуючы магутнай кампаніі пратэсту, якая была арганізавана федэрацыяй студэнтаў Чылі, улады вымушаны былі скасаваць пастанову аб павышэнні платы за навучанне.

Такіх прыкладаў мноства.

У дакладзе Выканаўчага камітэта Сусветнага універсітэцкага сервіса расказваецца аб разгорнутай студэнтамі Францыі кампаніі за паляпшэнне ўмоў жыцця і вучобы, кампаніі, якая з'явілася адной з выдатных падзей гэтага года.

Адкрыта выступаючы супраць фашысцкага прыгнёту, студэнты Іспаніі актыўна змагаюцца за свабоду друку і акадэмічныя свабоды. У студзені адбыліся магутныя студэнцкія дэманстрацыі ў Мадрыдзе і Барселоне. Пазней у Севільі было арганізавана яшчэ адно выступленне студэнтаў, падтрыманае і іншымі коламі насельніцтва, супраць павышэння платы за праезд на гарадскім транспарце.

Выступленні студэнтаў у гэтым годзе не былі абмежаваны толькі барацьбой за задавальненне іх непасрэдных запатрабаванняў. Студэнты каланіяльных і залежных краін добра разумеюць, што барацьбу за дэмакратычную асвету нельга аддзяліць ад барацьбы за нацыянальнае вызваленне, ад барацьбы супраць амерыканскіх планаў развязвання новай сусветнай вайны, ад барацьбы за мір.

Туніскі народ у цяжкай крывавай барацьбе вырваў у французскіх імперыялістаў прызнанне яго права на ўнутраную аўтаномію. Гэта — важны крок на шляху дасягнення поўнай нацыянальнай незалежнасці. Не апошняе месца ў гэтай барацьбе належыць студэнтам і моладзі Туніса. У сэрцах туніскага народа вечна будзе жыць памяць аб маладым патрыёце Бен Насёр Камідзе, які крыкнуў карнікам: «Я не баюся смерці! Я ўпэўнены, што мая краіна будзе вызвалена ад ланцугоў нявольніцтва. Ніякія сілы дэспатызма не прыпыняць руху туніскага народа да нацыянальнай незалежнасці!»

Гэтая вера моладзі і студэнтаў у справядлівасць сваёй барацьбы і гатоўнасць нават ахвяраваць сваім жыццём за нацыянальную свабоду з'яўляецца характэрнай асаблівасцю сучаснага этапа нацыянальна-вызваленчага руху.

Студэнты і моладзь усіх краін актыўна выступаюць супраць амерыканскіх планаў развязвання новай вайны. Саюз студэнтаў Ірана арганізаваў народна-студэнцкую кампанію супраць «турэцка-пакістанскага пакта», пакта смерці і разбурэння, і супраць так званай амерыканскай ваеннай «дапамогі». Дзейнасць ліванскіх студэнтаў з вялікай сілай праявілася ў часе дэманстрацыі, накіраванай супраць двухбаковага пакта з ЗША, дзе побач крочылі юнакі і дзяўчаты розных поглядаў, з сэрцамі, поўнымі любві да сваёй радзімы і імкненнем змагацца да канца за незалежнасць краіны.

Студэнты разам з усімі працоўнымі добра ўсведамляюць, што нясе народам амерыканская палітыка вайны. Таму адзін за адным паднімаліся на трыбуну IX сесіі МСС прадстаўнікі студэнцкіх арганізацый і гнеўна выкрывалі амерыканскіх падпальшчыкаў новай вайны. Яны ў адзін голас заяўлялі, што іх барацьба за нацыянальную незалежнасць і мір

**Удзельнікі сесіі Совета Міжнароднага саюза студэнтаў, студэнты Заходняй і Поўднёвай Афрыкі, Шатландыі і Совецкага Саюза, перад будынкам Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта.**



знаходзіцца ў поўнай адпаведнасці з праграмай Міжнароднага саюза студэнтаў.

Пытанне аб пагрозе прымянення атамнай і вадароднай бомбы з'яўляецца асноўным пытаннем у жыцці студэнтаў усіх краін. Пад выпушчанай нядаўна адозвай аб забароне вадароднай бомбы паставілі свае подпісы 18 маладзёжных і студэнцкіх арганізацый, сярод якіх — Усеяпонская федэрацыя самакіруючыхся студэнцкіх арганізацый. У гэтай адозве гаворыцца:

«Мы, юнакі і дзяўчаты Японіі, поўны бязмежнай нянавісці да атамнай зброі. У 1945 годзе атамныя бомбы на працягу некалькіх секунд сцерлі з твару зямлі два нашыя гарады — Хірасіма і Нагасакі; пры гэтым было знішчана некалькі соцень тысяч людзей... Мы не жадаем паўтарэння Хірасімы! — Гэты дэвіз стаў заклікам і ўсеагульным жаданнем 80-мільённага японскага народа. Мы патрабуем неадкладнай забароны вытворчасці, выкарыстання і выпрабаванняў атамных і вадародных бомб, склікання Канферэнцыі пяці вялікіх дзяржаў, як першага кроку па шляху дасягнення гэтай мэты».

Знамянальным фактам у студэнцкім руху за апошні час з'яўляецца тое, што ў ім усё больш удзел прымаюць студэнты Злучаных Штатаў Амерыкі. Студэнты ЗША, напрыклад, аказалі моцнае супраціўленне распаўсюджванню макарцізма. У сваёй дзейнасці яны знаходзяць шырокую падтрымку студэнтаў іншых краін.

Студэнцкая моладзь не толькі змагаецца супраць замаху на іх правы і свабоды, яна ўносіць сур'ёзны ўклад у справу ўздыму дабрабыту і культурнага ўзроўню сваіх краін. У В'етнаме да 1945 года 95 працэнтаў насельніцтва было непісьменным. Пад кіраўніцтвам Саюза студэнтаў і навучэнцаў, пры падтрымцы ўрада Народнай Рэспублікі В'етнам моладзь краіны правяла вялікую работу па ліквідацыі непісьменнасці. За апошнія 7 год больш 14 мільёнаў в'етнамцаў навучыліся чытаць і пісаць. За гэты час было арганізавана 7 000 класаў, падрыхтавана некалькі тысяч новых педагогаў.

Цудоўным прыкладам клопатаў аб здароўі навучаючайся моладзі з'яўляецца будаўніцтва санаторыя для студэнтаў Азіі непадалёку ад Пекіна. Ён размяшчаецца на плошчы ў 76 тысяч квадратных метраў, мае тры карпусы палат, тры лячэбныя карпусы, залу адпачынку і гульняў і тры адміністратыўныя будынкі. Усе пабудовы абсталяваны па апошняму слову тэхнікі. Вялікіх поспехаў дамагліся студэнты Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі па ліквідацыі разбурэнняў, якія зрабілі амерыканскія імперыялісты.

Поспехі, дасягнутыя студэнтамі і моладдзю Кітая, Карэі, В'етнама, краін народнай дэмакратыі гавораць аб тым, што толькі там, дзе ўлада належыць народу, магчыма ўсебаковае развіццё навукі, культуры і эканомікі.

З вялікай цікавасцю сочаць студэнты і моладзь замежных краін за жыццём студэнцтва Савецкага Саюза. Якая вялікая розніца паміж тым, як жыве моладзь краіны перамогшага сацыялізма і тым, у якіх умовах знаходзіцца падрастаючае пакаленне ў краінах капітала! Вось што, напрыклад, гаворыць студэнт Ів Леберн з Гвадэлупы: «Я жадаў-бы, каб студэнты маёй краіны мелі хоць-бы адну тысячную долю таго, што маюць мае савецкія сябры».

Расце і ўмацоўваецца супрацоўніцтва і дружба студэнтаў розных краін свету. Навучаючаяся моладзь ва ўсіх краінах усё больш пераконваецца ў тым, што Міжнародны саюз студэнтаў абраў правільны шлях — шлях барацьбы супраць вайны і фашызма, за адзінства студэнтаў свету. З кожным годам МСС заваёўвае сімпатыі ўсё новых і новых студэнцкіх арганізацый.

17 лістапада студэнты ўсіх кантынентаў свету, натхнёныя поспехамі моладзі Савецкага Саюза, краін народнай дэмакратыі, а таксама поспехамі, дасягнутымі прыхільнікамі міру ва ўсіх краінах, прадэманструюць сваю цвёрдую волю змагацца за лепшую будучыню чалавецтва, за мір і дэмакратыю.



Студэнт матэматычнага факультэта Вышэйшай політэхнічнай школы П'ер Круазіль (Францыя), студэнт медыцынскага факультэта Хартумскага універсітэта Суліман (Судан) і студэнт факультэта мастацтвазнаўства Каірскага універсітэта Ісмаіл (Егіпет) у Маскве ў час сесіі Савета Міжнароднага саюза студэнтаў.

Фото М. Кухтарава.



# З атэстатам

Радыёзавод Міністэрства мясцовай і паліўнай прамысловасці БССР... Сюды на сталую працу прышлі многія выхаванцы сярэдніх школ, якія сёлета атрымалі атэстаты сталасці.

Праца на радыёзаводзе патрабуе адукаваных рабочых. Гэтай восенню завод пачаў выпускаць тэлевізары. Справа гэта складаная і займацца ёй можа чалавек, які мае дасканалыя веды ў фізіцы, матэматыцы, радыётэхніцы.

На заводзе робіцца многае для таго, каб юнакі і дзяўчаты не разгубіліся ў нязвыклых для іх абставінах буйнага прадпрыемства.

Над складаным фрэзерным станком нахіліліся двое. Гэта — комсорг механа-штамповачнага цэха токар Леў Блецко і яго вучаніца Людміла Лаўшук. Юнак атрымаў неабходную падрыхтоўку ў тэхнікуме, а Людміла прыйшла на завод са школьнай парты, закончыўшы адну з мінскіх дзесяцігодак.

— Цяжка? — пытае юнак.

— Цяжка і цікава, — адказвае яна. — Але-ж патрэбна вучыцца. Завод — гэта такая вялікая школа.

— Сябры дапамогуць!

Дзяўчына ўсміхаецца.

Метрах у дзесяці ад станка Людмілы Лаўшук за невысокім бар'ерам — рабочае месца кантрольнага майстра. Сюды падыходзіць работніца з толькі што вытачанымі дэталямі.

— Дзе таварыш Марозаў? — пытае яна.

— Ён у цэху, ля станкоў, — адказвае ёй з-за бар'ера дзяўчына з тонкімі рысамі твару. — Я замяняю яго. Давайце сюды...

Яна хутка знаходзіць чарцёж, па якому выраблялíся дэталі, і праводзіць кантрольнае вымярэнне. Гэта — комсамолка Нэла Ласіцкая. Яна прызнаецца, што пры заканчэнні школы нават не ведала, дзе будзе працаваць. Паступіўшы-ж на завод, адчула, што тэхніка яе вабіць і вабіць моцна.

— Думаеце дзе-небудзь вучыцца?

— Абавязкова! У тэхнічным інстытуце — гэта ўжо вырашана. Магчыма, на вячэрнім аддзяленні.

Тэхнічная вучоба наладжана і ў сценах завода. Яна мае самыя разнастайныя формы: ад індывідуальнага навучання да доўгатэрміновых курсаў.

У эксперыментальным цэху група маладых работніц вучыцца мантажу тэлевізараў «Беларусь» (здымак унізе). Майстар М. Жукаў,







# сталасці

наглядаючы за работай комсамолкі Ніны Матусевіч, адабральна ківае галавой:

— Правільна, Ніна... Правільна...

Кожнага рабочага, які паступае на завод, знаёмяць з усёй вытворчасцю. Цэхаў на заводзе многа, выбірай, які хочаш, і не адзін з навічкоў спыняўся ў нямым захапленні перад новымі вялізнымі радыёпрыёмнікамі. Так здарылася і з Валянцінай Міхеевай і Віктарам Гваздоўскім.

— Складаная штука? — жартам спытаў іх майстар зборачнага цэха К. Капанік. — Не палохайцеся, хутка самі такія збіраць будзеце!..

Пасля прызначэння на працу моладзь адразу ідзе ў камітэт комсамола. Комсамольцы не забываюць аб сваіх саюзных абавязках, становяцца на ўлік, атрымліваюць даручэнні. Так зрабіла і Тамара Анкудовіч, якая на нашым здымку гутарыць з сакратаром камітэта комсамола Алегам Міхайлоўскім.

Праходзіць месяц, другі... Крок за крокам асвойваецца прафесія. Бываюць, зразумела, і няўдачы, але перамога прыходзіць абавязкова. І вось наступае запаветны дзень, калі ўпершыню выканана дзённая норма, разлічаная на кваліфікаванага рабочага! Малады рабочы Анатоль Кудраўцаў, які паказаны на нашым апошнім здымку, мае ўсе падставы ганарыцца сённяшнім сваім рабочым днём!

У добры час, сябры! Няхай множацца вашы працоўныя поспехі!

Тэкст і фота А. Дзітлава.





ЯНКА БРЫЛЬ

# ДА НОВЫХ ПОСПЕХАЎ І ПЕРАМОГ

**Насустрач Другому ўсесаюзнаму з'езду савецкіх пісьменнікаў**

У канцы года пачнецца Другі ўсесаюзны з'езд савецкіх пісьменнікаў — падзея не толькі ўсенароднага, але і сусветнага значэння.

З хваляваннем чакаюць з'езду і рыхтуюцца да яго пісьменнікі нашай шматнацыянальнай дзяржавы, людзі, якія адказваюць за стан савецкай літаратуры перад родным народам і партыяй, перад усім прагрэсіўным чалавецтвам.

Выступаючы на Першым усесаюзным з'ездзе, вялікі пачынальнік савецкай літаратуры Аляксей Максімавіч Горкі гаварыў аб тым, што пісьменніцкі з'езд — гэта не толькі справаздача пісьменнікаў перад чытачамі, не толькі парад літаратурных талентаў.

«Нам пасля з'езду, — гаварыў ён, — неабходна будзе пачынаць практычнае аб'яднанне ў мэтах паспяховасці цяжкай работы нашай, і работу гэтую трэба будзе працягваць, развіваць усё больш і далей для таго, каб стварыць тую магутную літаратуру, якая патрэбна не толькі нашай краіне, народам нашай краіны, але патрэбна, я маю смеласць сказаць, усяму свету».

Ад часу, калі сказаны былі гэтыя словы, мінула дваццаць гадоў — дваццаць гадоў вялікай барацьбы і вялікіх перамог савецкага народа, з барацьбой і з перамогамі якога кроўна звязана творчая праца пісьменнікаў, верных сыноў сваёй радзімы. Залаты фонд самай перадавой літаратуры свету ўзбагаціўся многімі выдатнымі творамі, слаўная армія савецкіх літаратараў вырасла больш як у два разы, узмужнела і ўзбагацілася вопытам.

Аднак задачы, аб якіх гаварыў Максім Горкі, па-ранейшаму — і яшчэ з большай сілай — стаяць на парадку дня. Другі ўсесаюзны з'езд таксама не будзе толькі справаздачай пісьменнікаў перад чытачамі, не толькі парадам талентаў. Прадстаўнікі нашай літаратурнай грамадскасці, дэлегаты ад усіх літаратурных арганізацый краіны, збяруцца ў Маскве для самай сур'ёзнай, практычнай гутаркі аб далейшай працы над вырашэннем задач, якія ставіць перад літаратурай наша партыя, наш народ, наша бурлівае, шматграннае жыццё.

Дык вось чаму гэтай вялікай падзеі — падзеі сапраўды ўсенароднага і міжнароднага значэння — савецкія пісьменнікі чакаюць з хваляваннем і рыхтуюцца да яе з ўсёй сур'ёзнасцю.

Дваццаць гадоў таму назад вялікі Горкі, узброены камуністычнай скромнасцю, казаў: «Мы знаходзімся яшчэ ў той стадыі развіцця, калі нам трэба пераконваць саміх сябе ў нашым культурным росце». Сёння, на трыццаць восьмым годзе пераможнай хады ў камунізм, патрэбы ў такім сцверджанні няма — ужо не толькі нам самім, але і ўсяму свету добра відаць, як пышна вырасла і як бурна расце наша сацыялістычная культура. Вырасла і расце не толькі наша літаратура — небывала вырас і няспынна расце наш чытач. Ён з кожным днём усё больш, з патрабавальнасцю гаспадара, умешваецца ў літаратурную справу, ставіць перад пісьменнікамі законныя патрабаванні, і, зразумела, той не савецкі пісьменнік, хто не прыслухоўваецца да гэтых патрабаванняў з найбольшай пільнасцю, хто не адчувае ў паходзе локця свайго друга-чытача, хто не адчувае біенне пульса нашага цудоўнага жыцця — няспыннай барацьбы, гарэння, творчай працы.

На Першым усесаюзным з'ездзе, вітаючы яшчэ нешматлікіх у той час замежных гасцей — прадстаўнікоў прагрэсіўнай літаратуры свету — Максім Горкі сказаў прарочыя словы: «Я ўпэўнены, што другі з'езд савецкіх літаратараў будзе ўпрыгожаны многімі дзесяткамі літаратараў Захаду і Усходу». Сёння мы з радасным хваляваннем думаем аб тым, як многа нашых сяброў з многіх краін Захаду і Усходу прыедзе ў Маскву, каб разам з намі абмяркоўваць пытанні сусветнай літаратуры — літаратуры міру і прагрэсу, на чале якой мужна стаіць яе сцяганосец, настаўнік і друг — вялікая савецкая літаратура.

Дваццаць гадоў таму назад Максім Горкі радасна вітаў той літаратурны зрух, які пачаўся ў братніх рэспубліках, многія з якіх дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі атрымалі не толькі свабоду, але і пазбавіліся векавой цемры, упершыню ў гісторыі пачалі ствараць сваю нацыянальную літаратуру.

Сёння мы з радасцю патрыётаў вітаем цудоўнае здзяйсненне мудрай нацыянальнай палітыкі нашай партыі, палітыкі, у выніку якой так пышна расцвілі літаратуры ўсіх саюзных рэспублік. Адзіная ў сваіх імкненнях, шматнацыянальная савецкая літаратура ствараецца сёння намаганнямі прадстаўнікоў усіх народаў нашай краіны як вялікіх, так і малых.

Пад кіраўніцтвам роднай партыі, у творчым спаборніцтве з літаратурамі братніх рэспублік, вучачыся ў лепшых прадстаўнікоў вялікай рускай літаратуры паспяхова працуюць і нашы беларускія пісьменнікі.

Трэці з'езд беларускіх савецкіх пісьменнікаў, які прайшоў у верасні гэтага года, таксама як і з'езды ў іншых рэспубліках, быў не толькі аглядам нашых творчых дасягненняў, але і жывой і сур'ёзнай гутаркай аб недахопах і задачах, якія стаяць перад намі. За дваццаць гадоў, лічачы ад Першага ўсесаюзнага з'езду



Група беларускіх пісьменнікаў дэлегатаў Другога ўсесаюзнага з'езду ССП СССР. Маладыя пісьменнікі гутараць з народным паэтам Беларусі Якубам Коласам. Злева направа: Іван Шамякін, Міхась Калачынскі, Янка Брыль, Якуб Колас і Андрэй Макаёнак.

Фота А. Дзітлава.

пісьменнікаў, беларуская літаратура вырасла і ўзмужнела, творчасць нашых лепшых пісьменнікаў выйшла не толькі за межы рэспублікі, але і за межы краіны. З кожным годам усё больш беларускіх кніжак выходзіць у перакладах на рускую мову, на мовы братніх рэспублік і краін народнай дэмакратыі. Побач з паэзіяй, якая мае нямала сваіх выдатных прадстаўнікоў, прыкметна пачала расці і беларуская проза — асноўны жанр літаратуры. Усё гэта, бясспрэчна, сведчыць аб творчай сталасці нашай беларускай літаратуры.

Аднак усё гэта ўскладае таксама яшчэ большыя абавязкі на нашых пісьменнікаў. Жыццё — гэта няспынны рост, і мы павінны пільна дбаць аб росце літаратуры, каб не адстаць ад жыцця.

Красамоўным сведчаннем росту нашай літаратуры з'яўляецца і тое таленавітае папаўненне пісьменніцкіх радоў, якое ідзе ў літаратуру няспынна — з кожным днём. Большая палавіна Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР — гэта моладзь, якая прышла ў літаратуру за дзесяць пасляваенных гадоў. Некаторыя з маладых паэтаў, празаікаў і драматургаў ужо даволі цвёрда сталі на ногі, пасябравалі з беларускім і ўсесаюзным чытачом, сталі вядомымі чытачу замежнаму, іншыя паспяхова заваёўваюць права на гэтую дружбу і вядомасць. У рэдакцыі газет і часопісаў, а таксама ў кабінет маладога аўтара, які існуе пры Саюзе пісьменнікаў, пошта штодзённа прыносіць многа пісем з вершамі, апавяданнямі, п'есамі пачынаючых аўтараў, імёны якіх у пераважнай большасці яшчэ невядомы чытачу. Ва ўсіх абласцях рэспублікі пры рэдакцыях абласных газет працуюць аб'яднанні літаратурнай моладзі. Усё гэта — тыя рэзервы, адкуль будзе ісці ў нашу літаратуру надзейная змена.

Гэтая змена, аднак, павінна добра памятаць, што высокае званне савецкага пісьменніка заваёўваецца шчырай, сумленнай працай, вучобай. Працаваць, як працуе наш гераічны народ, вучыцца, няспынна павышаць сваю палітычную свядомасць і ўдасканальваць сваё майстэрства, як вучыцца, бурна ідучы наперад, наш высокакультурны народ — гэта першаступенны абавязак усіх савецкіх літаратараў, а тым больш — маладых, пачынаючых.

Падагульняючы вынікі Першага ўсесаюзнага з'езду пісьменнікаў, Максім Горкі казаў:

«З усяго, што гаварылася на з'ездзе, найбольш істотным і важным з'яўляецца тое, што многія маладыя літаратары ўпершыню адчулі сваё значэнне і адказнасць перад краінай і зразумелі сваю недастатковую падрыхтоўку да працы».

Вельмі прыемна ўсведамляць, што і на Другім усесаюзным з'ездзе, побач з вядомымі і любімымі пісьменнікамі нашай краіны, краін народнай дэмакратыі і прагрэсіўнымі пісьменнікамі свету, дэлегатамі і гасцямі з'езду будуць таксама і маладыя беларускія пісьменнікі. Вельмі прыемна думаць, што і на Другім з'ездзе, побач з іншымі важнымі пытаннямі, будзе стаяць пытанне аб літаратурнай змене, аб шляхах і метадах яе выхавання.

Хочацца ад усёй душы выказаць адно пажаданне ўсім сябрам па пяру — і ў першую чаргу маладым — за працу, за вучобу! За гэта нам трэба змагацца. Такі абавязак ускладае на нас жыццё, гэтага патрабуе ад нас народ і партыя!



Надзея Сабко чытае членам свайго звяна свежы нумар газеты.

**П. ШАЎРОЎ**

# НАДЗЕЙКІНА ШЧАСЦЕ

Яшчэ ўчора быў мароз, а сёння раніцай нечакана — адліга... Надзейка хуценька накінула на плечы пухавую хустку і з непакрытай галавою выбегла на двор. З поўдня дзьмуў цёплы ветрык. Дзяўчына зажмурыла вочы і, павярнуўшыся тварам у той бок, адкуль ішло цёплае дыханне вясны, доўга стаяла ў нейкім прыемным зняменні.

Фядосся Міхайлаўна пяшчотна глядзела на дачку праз акно.

— Што ты, мама? — спытала Надзейка, убегшы ў хату.

Фядосся Міхайлаўна прытуліла да сябе дачку і ласкава пагладзіла яе светлыя і мяккія, як лён, валасы.

— Паглядзела я на цябе, дачушка, і прыпомніла раптам былое. А ты вырасла ў мяне прыгожая, здаровая. Перад людзьмі мне не сорамна за цябе. Куды ні пойдзеш, адно толькі і чуеш: «Добрая ў цябе дачка, Фядосся, шчырая, працавітая»...

Надзейка бліжэй туліцца да маці. Ёй хочацца штосьці сказаць, пяшчотнае, ласкавае, але словы застраюць у горле, і яна маўчыць і толькі адчувае, як малаточкам стукаціць яе сэрца — тук-тук-тук.

Бацька!.. Ён, як жывы, стаіць перад вачыма дзяўчыны: вясёлы, гаваркі. Тады ёй было ўсяго пяць гадоў. Памятае, як аднойчы ён узяў яе ў начное, на папас. А ў лесе ноччу хараша... Надзейка ляжыць у кажушку. Цёпла ёй у ім. Не спяць надзейкіны вочы. Дзяўчынка глядзіць на неба, усыпанае зорамі. А адна зорка такая вялікая, свеціць ярка-ярка, нават вачам балюча робіцца ад яе бляску.

— Тата, татачка?..

— Ну, што яшчэ прыдумала, казлянё?! — бацька кідае ў агонь сухую галінку і нахіляецца да твару дзяўчынкі.

— Вось тая зорка — мая?

Бацька адшуквае на небе зорку і шырока ўсміхаецца:

— Твая, твая, Надзейка. Яна прынясе табе шчасце.

Надзейка доўга не спіць. У маленькай галоўцы пляцецца думка-мара аб шчаслівай зорцы...

Бацька тады не схлусіў. Надзейка ўбачыла зорку шчасця ў верасні 1939 года. Як сонца, ззяла яна на стальной касцы чырвонаармейца, які прынёс у яе вёску з Усходу свабоду і радаснае жыццё.

А потым наплылі зноў хмары. Шэрыя пацукі-фашысты папаўзлі па роднай зямлі. Аднойчы раніцай убачыла Надзейка іх каля сваёй хаты. Брудныя, зарослыя да вачэй, яны схапілі бацьку, скруцілі яму рукі.

— Якаў Сабко! Комуніст? — запытаў адзін, як відаць, са старэйшых.

— Так. Я Сабко.

Больш бацьку Надзейка не бачыла... Толькі чула яна ў тую ясную чэрвеньскую раніцу, як грымнуў стрэл у ляску, недалёка ад хаты...

— Надзейка! Хадзі сюды хуценька, — пачула дзяўчына за акном галасы сваіх сябровак па звяну.

— Заходзьце ў хату, дзяўчаты. Разам паснедаем.

— Куды зараз у хату!.. На двары такое харасто. Хутчэй збірайся.

Надзейка накінула кажушок, нацягнула боты.

— Паснедаю потым. Толькі ты, мама, не сумуй, не трэба. Я хутка вярнуся.

Надзейка падбегла да старой, абхапіла яе аберуч, закруціла па хаце.

— Што ты, Надзя, пашкадуй старыя косці!..

— Вясна, матуля, прышла! Чуеш?

На двары Надзю чакалі яе сяброўкі — Антаніна Агрыніч, Марыя Абрамчук, Антаніна Сабко.

— Добрай раніцы, дзяўчаты! — гучна прывіталася Надзейка.

Замест адказу дзяўчаты ўхапілі сваю звеннявую за рукі і ўсе разам пабеглі па шырокай вясковай вуліцы.

У праўленні было людна. Па старой звычцы дзядзькі няшчадна смалілі самасад, і пад столлю ўжо вісеў густы, сівы туман ад дыму.

— Пакінулі-б чадзіць, — ні то жартам, ні то ўсур'ёз гаварыў Іосіф Фаміч Упіровец, старшыня калгаса. — Бачыце, твары ў дзяўчат — як перад вяселлем. А вы гэтым нікатынам колер можаце сапсаваць.

— Гэта правільна, што дыміць хопіць.— Надзея хітравата паглядзела на сябровак, усміхнулася: — А наконт вяселляў, дык мы не вельмі спяшаемся. Хлопцы нашы не выраслі.

Калгас рыхтаваўся да веснавой сяўбы. У жыцці хлебаробаў быў адказны перыяд. Трэба было ўсё ўзважыць, прыкінуць, прымерыць. Асабліва многа клопатаў мелі канапляводы. Гэта-ж не жартачкі — сто гектараў пад каноплі! Пятнаццаць звенняў створана, і кожнае з іх дало слова атрымаць не менш як па дванаццаць цэнтнераў добраякаснай пянькі. Слова далі — цяпер трэба яго стрымаць!..

Было пад абед, але людзі не разыходзіліся з праўлення. Звеннявыя-канапляводы Антаніна Куратнік, Надзя Сабко, Соф'я Аўрусевіч, Надзя Мілеўская, аграном Ілья Сямёнавіч Яканюк, брыгадзіры сядзелі і прыкідвалі што і як, колькі трэба ўгнаення, хто будзе сеяць. Вялікія планы нараджалі высокародныя думкі...

Капала са стрэх. На шырокай вуліцы дзе-нідзе выглядалі праталіны. Ля шумлівага ручайка скакалі вераб'і, шукаючы спажыву.

Надзя і яе сяброўкі спыніліся ля крамы. Дзяўчына ўспомніла, што дома няма запалак.

У краме ля прылаўка таўпіліся вясковыя хлопцы і жартавалі з прадаўшчыцай:

— Ці гэта гальштук? Не купляй у яе, Мацвей. Ён табе зусім не падыходзіць да твару. Гімнасцёрка табе лепш ідзе.

Пры слове «Мацвей» Надзя адчула, як чырванню заліўся яе твар.

«Няўжо гэта ён... той, што калісьці... Не, не»,— гнала прэч ад сябе думку Надзейка. Але вось вочы іх сустрэліся. Так, гэта — мацвеевы вочы... Такімі-ж былі яны, як запомніла яна, у час першай сустрэчы ў хаце-чытальні. Памятае дзяўчына, ён тады сядзеў з хлопцамі і гуляў у шашкі. Мацвею не шанцавала. Ён прайграў падрад дзве партыі. Надзейка стаяла блізка і ўважліва сачыла за гульнёй. Мацвей амаль ніякай увагі не звяртаў на яе, цярэбіў валасы, напружана думаў. І калі яго рука пацягнулася да дошкі, каб зрабіць чарговы ход, які быў яўна памылковы і зноў прынёс-бы няўдачу Мацвею, Надзейка не вытрымала: «Што вы робіце»... — сказала яна і засаромілася сваіх слоў. Мацвей паглядзеў на яе, усміхнуўся: «Дзякуй... Ледзь не правароніў»... — сказаў ён.

Пасля матча яны пазнаёміліся і досыць доўга гутарылі. На развітанне Мацвей моцна пацiснуў ёй руку і неяк па-асабліваму паглядзеў у вочы. І хоць прайшлі гады, гэты позірк Надзейка не забыла.

— Здаецца, Надзя?.. Ледзь пазнаў,— першым загаварыў Мацвей і падышоў да дзяўчат. Ён прывітаўся з усімі, а Надзі пацiснуў руку.



Малацьба канапель у калгасе імя Молатава.
Фото Р. Каралёва.

Аляксей ПЫСІН

## Імя

Фармоўшчык свежую цагліну
Адзначыў подпісам сваім.
Ён трэскай напісаў на гліне:
«Святлоў Максім».

У ста агнях імя гарэла,
Пакуль майстры вялі абпал,
На рыштаваннях зазвінела,
Нібы метал.

З сваёй брыгадаю дзяўчына
Шматпавярховы ўзводзіць дом.
Вось у руках яе цагліна,
Як новы том.

І кожны аўтара ўжо знае
Па подпісу на томе тым.
Дзяўчына літары чытае:
«Святлоў Максім».

Фармоўшчык працаю заняты,
Аб славе клопату няма.
А на будоўлі ўвысь узнята
Яго імя.

— Прыехаў з арміі. Буду працаваць у калгасе. А як ты? Чуў, чуў пра цябе. Кажуць, лепшая звеннявая.

Мацвей і Надзя ішлі побач па вуліцы. Вось і канец вёскі. На развітанне Мацвей затрымаў надзіну руку ў сваёй.

— Чакай у госці, дзяўчына. У нядзелю на вечарынцы сустрэнемся. Прыдзеш?..

Надзя нічога не адказала, вырвала руку і пабегла наперад. Наляцеў ветрык, ударыў ёй у твар. Яна ўсё бегла і бегла. Потым дзяўчына спынілася. Мацвей быў ужо далёка.

— Прыду, Мацвей, абавязкова прыду...

... Хто быў увесну на Піншчыне, той ніколі не забудзе хараства палескай прыроды. Колькі фарбаў раскідана на зямлі нябачным мастаком! Як нявесты, аздобленыя бледназялёнымі лісточкамі, стаяць бярозы, гамоняць казку волаты-дубы. У шматлікіх азёрцах-люстэрках з раніцы да вечара купаецца сонца. Калі-ж пыляцяць салаўі, тады ноччу не да сну,—бясконца, здаецца, слухаў-бы цудоўныя гукі вясны, захапляўся-б хараством наваколля.

Густа ўзыйшла пшаніца, да сонца пацягнуліся сцяблы канапель. Калгас святкаваў перамогу. Ён адным з першых закончыў веснавую сяўбу ў раёне.

Надзя загарэла, яшчэ больш пабялелі яе валасы. Спявала дзявочае сэрца... Да спадобы прышоўся ёй Мацвей. Шчыры, дарагі, любы... Толькі — не хочацца пакідаць сваёй роднай вёскі. Тут яна нарадзілася, тут прайшло юнацтва. Але Мацвей упарты: патрабуе ехаць да яго. Ды і старшыня заадно з ім: бліжэй да цэнтра калгаса, — гаворыць ён, — лепш кіраваць вамі буду.

Вяселле было ў сярэдзіне мая. Калгасныя аўтамашыны бясконца прывозілі гасцей. З раніцы да позняга вечара, з вечара зноў да раніцы гучала музыка. Спачатку гулялі ў яе, потым у Мацвея. Многа добрых слоў пачула Надзейка ад людзей. Шмат казалі і аб Мацвею. Жадалі шчасця, радасці ў жыцці.

Памятае, падняўся тады з-за стала Іосіф Фаміч. Паглядзеў на яе ласкава, усміхнуўся.

— Ну вось, Надзейка, дазволь і мне слова сказаць. Жадалі тут табе многа: і шчасця, і радасці ў жыцці, жадаю і я гэтага вам абодвум.

Старшыня калгаса на нейкую хвіліну змоўк, задумаўся.

— Хачу я сказаць некалькі слоў аб шчасці. Сядзім мы тут, радуемся. Ёсць чаму. Расце і багацее наш калгас, у людзей поўны дастатак. У кожнага і хлеб, і да хлеба. Кажуць, прышло да людзей шчасце. Так, сапраўды прышло. Але здабылі мы яго нялёгка.

Іосіф Фаміч глядзіць на Надзейку, потым на гасцей:

— Колькі мы ў мінулым годзе ад канапель прыбытку атрымалі? Адзін мільён шэсцьсот пяцьдзесят тысяч. Дабаўце сюды сто семдзесят тон пшаніцы, што дзяржава нам дала. Вось і стаў калгас на ногі моцна, трывала. За ўсё гэта трэба дзякаваць нашым дзяўчатам і перш-на-перш нашай маладой — Надзі Сабко, сяброўцы яе Антаніне Куратнік. Ведаеце-ж, не ўсе тады верылі, што каноплі могуць даць такі вялікі прыбытак, не дужа каб стараліся і, як кажуць, любілі ў цяньку пасядзець. А вось Надзя не пакінула работу і не паехала шукаць лёгкага хлеба, як Алена Каверчык. А памятаеце, што было, як увесну вада затапіла тарфянік? Сеяць трэба было, а вада не сыходзіла. Хто першы з рыдлёўкай пайшоў балота сушыць? — Надзя. Хто прыкладам сваім падымаў людзей на работу? — Наша Надзя. Праца шчасцем была для гэтага чалавека. Дык няхай-жа будзе яна заўсёды такой, якой мы яе ведалі і ведаем зараз, наша Надзя!

І калі скончыў старшыня, усе доўга апладыравалі, віншавалі Надзейку.

Непрыкметна бяжыць час. Скончылася лета. Вось ужо ў акно панура глядзіць жоўтая восень. Апусцелі калгасныя палі. Нябачаны ўраджай у гэтым годзе далі каноплі. Колькі працы прышлося ўкласці, колькі старанняў, неспакойных начэй і думак!

Надзейка толькі што вярнулася з праўлення калгаса. Размова ішла, як лепш звезці на сцелішчы каноплі, гаварылі і наконт аўтамашын, што прыбудуць з раёна. Прыкінулі — не менш пяці мільёнаў рублёў дадуць каноплі прыбытку! Грошы вялікія!.. Набудзе калгас новыя аўтамашыны, правядзе электрычнасць у кожную хату, узвядзе новыя будынкі.

Калі Надзя была ў Маскве на адкрыцці Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі, размаўляла яна з многімі перадавымі канапляводамі. Да таго здавалася ёй, што іх калгас самы лепшы, што самыя лепшыя ўраджаі ў іх. А паглядзела, паслухала — і змяніла думку. Яшчэ многа працы і намаганняў трэба будзе прыкласці, каб у 1955 годзе красаваўся на выстаўцы і яе партрэт, і партрэт яе сяброўкі Антаніны Куратнік.

Мала толькі добра працаваць. Трэба і вучыцца, настойліва і ўпарта вучыцца. Ёсць у Надзі некалькі адрасоў яе новых знаёмых па выстаўцы, лепшых канапляводаў краіны. Надзя абавязкова напіша ім. І яны ніколі не адмовяць ёй у парадзе, раскажуць, што новага ў іх працы, падзеляцца планамі і задумамі.

Дваццаць цэнтнераў пянькі з гектара — вось пра што марыць сёння Надзейка! І верыць, што мара яе абавязкова збудзецца.

За акном імжыць дождж. Мацвея яшчэ няма з поля — недзе возіць на сцелішчы каноплі. Надзя перагортвае кніжкі сваёй, уласнай бібліятэкі, што падараваў ёй за старанную працу абком камсамола.

Позірк Надзі спыняецца на «Шчасці» Паўленкі. Гэта — яе любімы твор. Яна падкручвае кнот у лямпе, садзіцца бліжэй і пры яркім святле чытае.

«Які цудоўны чалавек Варапаеў! Якая душа! Які палёт думкі!..»

Надзя на хвілінку закрывае кніжку, закідае галазу і задумваецца. «Вось з каго трэба браць прыклад у жыцці. Аддаць, як ён, усе свае сілы на карысць свайго народа, сваёй дарагой Радзімы».

**Калгас імя Молатава
Целяханскага раёна
Брэсцкай вобласці.**

ЛЮДЗІ САВЕЦКАГА СПОРТУ

# У барацьбе за секунды

ЮРЫЙ БАГУШЭВІЧ

Па бегавой дарожцы стадыёна стралой імчыцца залатавалосая дзяўчына. Стадыён пусты, ніхто з ёй не спаборнічае ў хуткасці, а яна стрымгалоў мінае фініш і толькі пасля гэтага прыцішвае бег.

Высокі, хударлявы чалавек з абветраным, загарэлым тварам глядзіць на цыферблат секундамера, запісвае яго паказанні ў блакнот і гаворыць:

— Паўторым, Марыя, яшчэ раз. Рухі правай рукі павінны быць больш рэзкія.

І Марыя Іткіна зноў ідзе да старта двухсотметровай дыстанцыі. Праўда, ёй хацелася-б прабегчы ўдвая больш, але яе трэнер — выкладчык Беларускага інстытута фізічнай культуры Барыс Барысавіч Левінсон — забараняе рабіць гэта. Вось ужо колькі разоў на трэніроўках ён прымушае сваю новую вучаніцу бегаць толькі 100 або 200 метраў. Марыя зноў становіцца на старт і па камандзе «Марш!» імчыцца па дарожцы стадыёна.

Пасля заняткаў трэнер пачынае размову, якую з нецярплівасцю чакала дзяўчына:

— Бачу я, што табе не падабаецца мой план трэніроўкі...

— Не... справа не ў гэтым... Але-ж на чатырыста метраў...

— ...рэкорд Савецкага Саюза належыць табе? — заканчвае за яе трэнер.

Іткіна моўчкі ківае галавой.

— Ну і што-ж? — працягвае трэнер. — Яго хутка палепшаць другія, але не ты.

— Чаму?

— Таму, што ў цябе няма дастатковай хуткасці. Ёсць сіла, вынослівасць, а хуткасці нестае. Трэба бегаць сто, дзвесце і зноў — сто і дзвесце метраў.

Так восенню 1953 года рэкардсменка СССР на дыстанцыю 400 метраў падпарадкавалася аўтарытэту і вопыту свайго новага трэнера. Яна вучылася ў Беларускім інстытуце фізкультуры, настойліва авалодвала ведамі, многа чытала, а ў вольныя ад лекцый гадзіны гэтак-жа настойліва імкнулася авалодаць стартам бегу на кароткія дыстанцыі, адразу укладваючы ўсе свае сілы. Гэта было нялёгка. Знаёмая чатырохсотметровая дыстанцыя прывучыла эканоміць сілы, размяркоўваць іх на поўны круг стадыёна. Цяпер-жа трэнер патрабавальна камандаваў:

— Хутчэй, яшчэ хутчэй!

Трэніроўкі працягваліся і зімой. Вопыт перадавой савецкай школы падказаў круглагадавыя заняткі для ўсіх відаў спорту: так званая «сязоннасць» у вядучых савецкіх спартсменаў даўно скончылася. Ніхто ўжо не здзіўляецца, бачачы, як улетку трэніруюцца лыжнікі, хакеісты і канькабежцы, а зімой бяруць старт лёгкаатлеты або на ачышчанай ад снегу пляцоўцы кідаюць дыск, молат, кап'ё. Майстры скуранога мяча, мінскія спартакаўцы, правялі мінулай зімой не адну таварыскую ігру на заснежаным футбольным полі. Гэта дапамагло ім выйсці ў лік прызёраў чэмпіяната СССР 1954 года.



Фінішыруе М. Іткіна.

На працягу ўсёй зімы ў вольныя ад лекцый гадзіны Марыя Іткіна трэніравалася ў бегу на 100 і 200 метраў.

Вясной, ледзь толькі падсохла гаравая дарожка стадыёна, яна зноў прабегла двухсотметроўку. Аддыхаўшыся, падыйшла да трэнера. Ён глядзеў на заціснуты ў руцэ секундамер.

— Ну, што-ж, — задаволеным тонам сказаў Барыс Барысавіч, — цяпер будзем рыхтавацца на дзвесце метраў пабіць рэкорд.

— Беларускі?.. — спытала Марыя.

— І ўсесаюзны, — адказаў трэнер.

— Але-ж гэты рэкорд надта высокі. Яго ўстанавіла Ірына Турава — прызёр алімпійскіх ігр, маскоўскі майстар спорту!

— А хіба мінскі майстар павінен адмаўляцца ад барацьбы? Ці можа зноў хочацца вярнуць рэкорд на чатырыста метраў? Я казаў, што яго палепшаць другія. Так і здарылася...

І ўжо інакшым, патрабавальным голасам Барыс Барысавіч прадаўжаў:

— Будзем змагацца за кожную секунду, за кожную дзесятую долю секунды. Вядома, гэта нялёгкая справа. Яна патрабуе напружання ўсіх сіл.

Але спартсменка не баялася цяжкасцей. Старанна, крок за крокам, авалодвала яна сакрэтам хуткасці, зноў і зноў вучылася адразу-ж пасля стартавага стрэлу імгненна пачынаць бег.

Неўзабаве яна ўстанавіла новы беларускі рэкорд на 100 метраў. Дванаццаць секунд спатрэбілася ёй, каб прабегчы гэтую дыстанцыю. А праз некалькі дзён з гэтага рэкорда была скінута яшчэ адна дзесятая секунды. Быў палепшаны і рэспубліканскі рэкорд на 200 метраў.

... Сталіца Венгрыі Будапешт. Сюды, на міжнародныя студэнцкія спаборніцтвы з'ехаліся мацнейшыя спартсмены. Побач з іншымі спартсменамі ў складзе савецкай дэлегацыі — Марыя Іткіна.

З Будапешта яна вяртаецца рэкардсменкай СССР.

200 метраў Марыя прабегла за 23,8 секунды!

... Швейцарыя. Горад Берн. Тут улетку 1954 года адбылося першынство Еўропы па лёгкай атлетыцы. У складзе савецкай каманды, якая выйшла пераможцай, — трое мінчан, трое блізкіх таварышоў. Гэта — Міхаіл Крываносаў, які ўстанавіў новы сусветны рэкорд па кіданню молата, Анатоль Юлін — пераможца фінальнага бегу на 400 метраў з бар'ерамі і Марыя Іткіна. Яна прыняла ўдзел у фінальным бегу на 200 метраў. Побач з ёю на старт выйшлі мацнейшыя бегуны еўрапейскіх краін і сяброўка па камандзе масквічка Ірына Турава. Дзве савецкія дзяўчыны падбадзёрваюча ўсміхнуліся адна адной. Гэтымі ўсмешкамі яны нібы гаварылі: «Трэба зрабіць усё, каб званне чэмпіёнкі было заваявана савецкімі спартсменамі!» І калі прагучаў стрэл старцёра, дзве дзяўчыны з малюнкам герба СССР на майках, імгненна пачаўшы бег, адразу вырваліся наперад. Імкліва несліся яны, пакідаючы ззаду суперніц.

Дзесяць... пяць... тры метры застаецца да фінішу. Вось Марыя першай рве стужку. Другой заканчвае гэтую дыстанцыю Ірына Турава.

Беларуская спартсменка атрымлівае залаты медаль чэмпіёна Еўропы і другі залаты медаль як удзельніца савецкай каманды-пераможцы ў эстафетным бегу 4×100 метраў.

Скончыўся багаты падзеямі летні спартыўны сезон. Апрача Швейцарыі, Марыя Іткіна паспяхова выступала на стадыёнах Лондана, Прагі і іншых краін. Вярнуўшыся на Радзіму, у родны Мінск, яна зноў засела за вучобу. Яна ўжо на другім курсе інстытута... Зноў дзяўчына ўважліва слухае лекцыі, старанна рыхтуецца да залікаў і экзаменаў.

А ў вольныя гадзіны Марыя — на стадыёне. Пад кіраўніцтвам свайго нязменнага трэнера яна прымае старт і імкліва імчыць па бегавой дарожцы.

Але цяпер трэнер гаворыць ёй:

— Прабяжы чатырыста метраў, Марыя!

Бачачы збянтэжанасць дзяўчыны, ён тлумачыць:

— Надышоў час вярнуць Савецкаму Саюзу сусветны рэкорд на гэту дыстанцыю. Пачнем рыхтавацца!..

---

Ул. НЯДЗВЕДСКІ

## Кіномеханік

Восень сыпле дажджы...
А у клубе пад вечар,
Нібы лісце ў цішы,
Кінолента трапеча.
У палескім сяле
Гэтым вечарам хмурым,
Як жывы, устае
Перад намі Мічурын.
І адвесці вачэй
Мы не можам з экрана,
Нібы сад наш цвіце
За ваколіцай рана,

Нібы ўласны свой лёс
Мы ўбачылі самі.
...І забылі, што мёрз
Дзесьці кіномеханік.
А што хоча ён спаць —
Сам аб гэтым не скажа:
Ноч гатоў прастаяць
Ён у клубе у нашым.
Ноч гатоў не заснуць
Зноўку ён у дарозе:
Ён прывёз нам вясну
Гэтай восенню позняй.




Янка Маўр

Навукова-фантастычная аповесць *

Мал. В. Ціхановіча.

### На беразе Мексіканскага заліва

Яны зноў павольна паляцелі на поўдзень над раўнінамі Місісіпі. Неабсяжныя прасторы былі заняты баваўнянымі плантацыямі. Калі па дарозе ім трапіўся яшчэ адзін гарадок, Светазар са смехам сказаў:

— Гэта, мусіць, Парыж!..

— А можа, Лондан?..—адказала яму ў тон Святлана.

Далёка наперадзе заблішчэла пад сонцам мора.

— Мексіканскі заліў, — паспяшыла пахваліцца сваімі ведамі Святлана.

— Правільна!—пахваліў Светазар. — А які горад вунь там, дзе канчаецца рака?

— Новы Орлеан.

Горад дыміўся не столькі комінамі фабрык і заводаў, колькі трубамі параходаў.

— У горад не паляцім, — сказала Святлана.

— Няма чаго там рабіць, толькі адны непрыемнасці будуць.

Машына завярнулася налева і паляцела ўздоўж берага. А бераг быў такі цудоўны. Усюды зеляніна, асабліва вызначаліся пальмы. Самы бераг нізкі, пясчаны, скрозь бялеюцца прыгожыя дачы. І безліч народу на беразе.

— Вось дзе пабыць-бы, пакупацца, — сказала Святлана.

— Паспрабуем,—адказаў Светазар.

Машына апусцілася на адну з дарог, якія ішлі ўздоўж берага. Некалькі дзесяткаў чалавек былі напалоханы і здзіўлены такой з'явай, але Светазар шпарка паехаў наперад, сведкі засталіся ззаду, і далей ужо людзі маглі звярнуць увагу толькі на нейкі «новамодны» аўтамабільчык — і больш нічога.

Дзе-ж прыпыніцца? Два разы яны спыняліся ў простых людзей, і кожны раз былі непрыемнасці. Ці не спыніцца цяпер сярод паноў? Можа іх не здзівіш арыгінальнай машынай. І падарожнікі пад'ехалі да багатага прыбярэжнага атэля. Іх сустрэлі слугі і прапанавалі паставіць машыну ў гараж.

— Што ты робіш?—зашаптала Святлана. — Мы-ж не выберамся адсюль.

— А ты задзяры нос, як вялікая пані, і табе ніхто не адважыцца перашкаджаць, — сказаў брат. Ён папрасіў, каб машыну не зачынялі, а паставілі пад паветкай. — Каб нам лягчэй было ўцякаць, — шапнуў ён на вуха сястры.

Потым яны зайшлі ў нейкае памяшканне і селі за асобны столік на верандзе, адкуль адкрываўся цудоўны від на мора і пляж.

— Каб не падумалі, што мы простыя людзі, — сказаў Светазар, — давай выдумляць самыя панскія стравы.

— Я хачу марожанага,—сказала Святлана.

— Што ты, што ты! — замахаў рукамі Светазар. — Гэта-ж самая простая рэч. Калі мы будзем заказваць такія стравы, то нас палічаць за бедных і прагоняць у шыю.

— Здравствуйте, молодые люди!—пачуўся голас за суседнім столікам.

Брат і сястра аж падскочылі, нібы дакрануліся да электрычнасці.

Тады да іх падсеў чалавек гадоў за сорак, з вясёлым і лагодным круглым тварам.

— Я так і думаў, што вы з Савецкага Саюза, — сказаў чалавек. — Жывучы на чужыне, сэрцам пачуеш свайго чалавека.

— А вы... вы... — прамовілі ашаломленыя Светазар і Святлана.

— Я савецкі консул у Новым Орлеане,—ласкава сказаў чалавек. — Дарэмна вы не звярнуліся да мяне. Мой абавязак дапамагаць сваім. А тут вам, я думаю, не вельмі зручна. Паглядзіце, што робіцца вакол вашай машыны.

Усе трое паглядзелі ў той бок і ўбачылі каля яе цэлы натоўп разявак.

— А машына вельмі цікавая, арыгінальная,—казаў далей чалавек, — мусіць, такой і ў Амерыцы няма. Глядзіце, як яны разглядаюць, фатаграфуюць яе. Вы ўпэўнены, што ніякага сакрэту яны не адкрыюць?

— З выгляду не адкрыюць, — адказаў Светазар.

— А ці падумалі вы, што можа быць і горш?—таямніча прашаптаў чалавек, падсунуўшыся бліжэй. — Яны могуць украсці яе, каб пераняць усе сакрэты. Ад капіталістаў усяго можна чакаць, я іх добра ведаю.

— Калі яны ўкрадуць, — засмяяўся Светазар, — то ім самім горш будзе: машына пабудавана на атамнай энергіі, яна можа ўзарвацца і загубіць цэлы горад.

— Я гэта ведаю,—спакойна адказаў консул, — і баюся не таго, што яны адкрыюць наш сакрэт, а таго, што могуць знішчыць каштоўную рэч і загубіць тысячы невінаватых людзей. Таму я прапаную вам спыніцца ў нашым консульстве — спакайней і выгадней будзе.

Ён даў знак афіцыянту і коратка сказаў:

— Рахунак!

— Шэсцьдзесят шэсць долараў, — сказаў афіцыянт, падаючы квіток.

— А ў нас толькі пяцьдзесят!—усклікнула Святлана і зараз-жа ўбачыла грозны позірк брата, ды яшчэ адчула штуршок нагой. Яна зразумела, што яе словы былі недарэчы, і пачырванела.

А консул узяў рахунак і выняў з кішэні грошы.

— Вы што думаеце рабіць? — спытаў Светазар.

— Заплаціць, вядома,—адказаў консул, адлічваючы грошы.

— Не трэба, не трэба!—занепакоіўся Светазар.—Нам нехапае толькі шаснаццаці долараў. Калі

* Пачатак гл. у №№ 9—10 часопіса.

вы такі ласкавы, то пазычце іх. Мы вам зараз-жа адашлем.

— Вам не трэба непакоіцца,— мякка сказаў консул.

Хлопчык і дзяўчынка адчулі ўдзячнасць да консула.

— Ну, дык паедзем у консульства, — сказаў чалавек, устаючы з крэсла.

Светазар зірнуў на сястру.

— Як ты думаеш?

— Не ведаю,—адказала яна. — Адпачыць хацелася-б.

Консул падхапіў яе пад руку і шчыра сказаў:

— Едзем, едзем, у Новым Орлеане цікавей, чым тут. Я вам пакажу горад. Вы там сустрэнецеся з нашай калоніяй. У нас там куток Совецкага Саюза. Там з жанчынамі і дзецьмі вы будзеце, як дома. Адтуль вам лепей будзе рабіць экскурсіі. Вы можаце пакінуць машыну дома, а на вас адных ніхто не будзе звяртаць увагі. Вам не будуць перашкаджаць, як цяпер. Адтуль пашлем прывітанне на радзіму.

Яны выйшлі да машыны.

— А вы можаце ўзяць з сабой пасажыра? — спытаў консул, зірнуўшы ў кузаў.

Там, замест сядзенняў для пасажыраў былі нейкія трубкі, шчыты, ручкі. Але ў крайнім выпадку чалавек непатрабавальны сяк-так уціснуцца мог-бы. Гэта адразу заўважыў консул і сказаў:

— Калі дазволіце, я магу і тут прытуліцца. Ехаць-жа доўга не прыдзецца.

Гаспадары машыны збянтэжана паглядзелі адзін на аднаго, не ведаючы, што сказаць.

— У чым справа?—перапытаў консул.

Светазар адказаў:

— Бачыце, на трэцяга пасажыра машына не разлічана. Не ведаем, ці возьме яна.

— Што вы кажаце!—засмяяўся консул. — Ваша машына можа, як маланка, насіцца па ўсяму свету, а вы гаворыце, што яна не возьме трэцяга чалавека.

Цяпер ужо здзівіліся Светазар і Святлана.

— Адкуль вы ведаеце? — ускрыкнулі яны разам.

Консул палажыў адну руку на плячо Светазару, а другую на плячо Святлане і з жартаўлівым дакорам сказаў:

— Эх вы, нездагадлівыя! Каму-ж тады ведаць дзяржаўныя сакрэты, калі не афіцыйным прадстаўнікам дзяржавы? Мы тут павінны ведаць усё, каб даць адпор капіталістам.

Гэтыя словы яшчэ больш здзівілі брата і сястру: яны-ж добра памяталі словы дзеда, што аб яго вынаходніцтве пакуль што ніхто, нават свая дзяржава, не ведае. Адкуль-жа гэты консул ведае?..

— Выбачайце, — сказаў Светазар, — нам з сястрой трэба параіцца. Яны адышліся ўбок і зашапталіся.

— Што ты скажаш? — спытаў Светазар.

— Дзіўлюся: ніхто на свеце не ведае, а ён адкуль ведае?

— Значыцца, тут нешта такое ёсць.

— Не паедзем з ім!

Калі Светазар сказаў аб гэтым консулу, той раззлаваўся і адразу змяніў свой выгляд. Уся ласкавасць, весялосць, зычлівасць яго зніклі. Ён нахіліўся да іх і прасіпеў:

— У такім разе я вас прымушу. Зараз паклічу паліцыю і скажу, што вы ў мяне ўзялі грошы і не хочаце аддаваць, што вы шпіёны з Совецкага Саюза... Разумееце, што з гэтага можа быць?

Вочы Светазара загарэліся агнём. Святлана так абурылася, што нават забылася на страх. Яна пацягнула брата за рукаў і ціхенька шапнула:

— Возьмем яго і завязем кудынебудзь.

— Правільна, Святланка,—сказаў Светазар і павярнуўся да «консула».

— Добра. Мы завязем вас, куды скажаце. Сядайце.

Вакол іх тым часам сабраліся бадай што ўсе курортнікі. Адразу знайшліся такія, што ўжо чулі пра таемных дзяцей, нават бачылі фотаздымкі. Па ўсім пляжы пайшла гамонка, што гэта—«тыя самыя». Як з-пад зямлі выраслі дзесяткі фатографаў, якія і ўвекавечылі момант, калі агент амерыканскай разведкі «злавіў» шпіёнаў з Совецкага Саюза і разам з імі садзіўся ў машыну...



Чырвоная машына кранулася з месца і павольна паехала праз пляж да берага. Людзі расступіліся, даючы дарогу, і стварылі нібы калідор. Толькі канец гэтага калідора ад мора быў няўстойлівы, бо там не ведалі, у які бок паверне машына, направа ці налева. Але яна пакуль што не паварочвала ні налева, ні направа, а ішла проста ў мора.

Усё бліжэй і бліжэй пасоўвалася яна да вады. Вось пярэднія колы ўжо ў вадзе... вось ужо і заднія ў вадзе... Мёртвая цішыня стаяла на пляжы. Народ з недаўменнем глядзеў услед машыне, дзівіўся і ўсё чакаў, калі яна паверне ўбок. А яна ішла і ішла ўсё наперад. Можа яна паплыве? Але вось ужо яна пагрузілася да палавіны... вось ужо вытыркаецца толькі край кабінкі... І нарэшце на вадзе засталіся толькі хвалі.

Тысячы людзей закрычалі ад здзіўлення і жаху. Пачуліся паліцэйскія свісткі. Шмат лодак кінулася ўслед за машынай. Затрашчалі маторныя катэры.

...Калі «консул» убачыў, што такое з ім адбываецца, ён пачаў крычаць, стукаць у акенца, якое аддзяляла яго ад кабінкі, затым стаў ламаць дзверы. А вада падымалася ўсё вышэй і вышэй. Тады ён выхапіў рэвальвер і стаў ім біць у шкло. Але ніякага знаку на шкле не было. Светазар на момант азірнуўся, і тады «консул» нацэліў рэвальвер на яго. Хлопчык крыху ўсміхнуўся і спакойна адвярнуўся. Правакатар у роспачы хацеў быў стрэліць яму ў галаву, але яго спыніла думка, што сам ён усёроўна не выберацца з машыны. Аднак калі ён убачыў, што ўжо ўся машына ў вадзе і што яна ідзе ўсё глыбей і глыбей, то страціў здольнасць разважаць і выстраліў.

Хлопчык і дзяўчынка павярнуліся да яго і засмяяліся, а куля, адскочыўшы ад шкла, стукнула правакатару ў вуха. Услед за тым шпіён адчуў, што нешта цёплае цячэ яму за каўнер. Тады ён страціў увесь свой запал і застаўся сядзець, разявіўшы рот і вылупіўшы вочы.

А ля акна праплывалі рыбы, хісталіся падводныя расліны. Зацікавілася імі акула і некаторы час плыла побач, прымяраючы сваю зубастую зяпу да акенца. А вось ляжыць карабель, аблеплены водарaслямі і ракушкамі.

Светазар паехаў у мора так сабе, для цікавасці, каб уразіць публіку. Цяпер ён захацеў перайсці на «звычайны ход» — выскачыць з вады і пераляцець на якінебудзь востраў на акіяне. Ён адпусціў тормаз. Машына паднялася з вады зусім павольна, але над вадой падняцца не магла. Яна толькі паплыла наперад з хуткасцю катэра. У такім стане яе ўжо маглі дагнаць не толькі самалёты, але і мінаносцы. Добра яшчэ, што яны былі далёка ад берага, і пакуль што іх ніхто не бачыў.

— Чаго ты паўзеш па вадзе, — казала Святлана. — Нас-жа злосьць. Давай поўны ход.

— А ты давай больш гаручага! — сярдзіта сказаў Светазар. — Машына хутчэй не ідзе.

— Сапсавалася?! — з жахам крыкнула Святлана.

— Калі ідзе, то яшчэ не сапсавалася, — адказаў Светазар. — А справа ў тым, што ў нас павялічыўся груз, на які нашы сілы не разлічаны. Што цяпер рабіць, не ведаю. Выкінуць яго ў мора, ці што?

— Як гэта мы будзем тапіць чалавека? — уздрыганулася дзяўчынка. — Даедзем дакуль-небудзь і выпусцім на бераг ці на які карабель.

— Не хацелася-б мне адпускаць правакатара без пакарання, але нічога не зробіш, паедзем пакуль можна, — неахвотна згадзіўся Светазар.

І яны паехалі на поўднёвы ўсход, як звычайныя пасажыры на звычайным катэры. Якім марудным і нудным здавалася цяпер падарожжа!



— Можа нам дні і тыдні прыдзецца ехаць, — хвалявалася Святлана.

Светазар таксама быў нездаволены, нахмураны.

— Наперадзе павінны быць Антыльскія астравы,—сказаў ён.— Можна будзе высадзіць на якуюнебудзь скалу.

Паказаўся карабель, які ішоў насустрач.

— А каб здаць яго на карабель? — прапанавала Святлана.

— У такім разе, лепш высадзіць яго ў ваду перад носам карабля, — ужо весялей сказаў Светазар і, павярнуўшыся, спытаў у пасажыра: — Плаваць умееце?

— А што?

— Мы вас высадзім перад караблём.

— Чаму-ж не пад'ехаць да самага карабля?—засупярэчыў правакатар. — А калі яны не ўбачаць мяне, не возьмуць...

— Гэта не наша справа, — сурова сказаў хлопчык. — Рыхтуйцеся!

І калі карабель быў за метраў пяцьсот, Светазар націснуў кнопку і адчыніў дзверы.

Але зноў бяда: дзядзька ніяк не мог адважыцца сам лезці ў ваду. Светазар раззлаваўся і крыкнуў:

— Вылазьце! А то апушчуся ў ваду!

Правакатар, войкаючы, выпаўз з машыны. Дзверы зачыніліся.

— Шкада будзе, калі карабель падбярэ яго! — сказаў Светазар і даў поўны ход...

...Праз мінуту яны былі дома і расказвалі дзеду свае прыгоды. Дзед, як заўсёды, слухаў вельмі ўважліва, распытваў усе падрабязнасці, запісаў у свой сшытак.

— Вельмі рызыкоўная справа, — задуменна гаварыў ён. — Магла здарыцца бяда, і я ў гэтым вінаваты. Калі вас адлучыць ад машыны, то вы застаецеся бездапаможнымі. А гэта вельмі рызыкоўна.

— Усёроўна ніхто без нас не справіцца з машынай, — сказаў Светазар, — значыцца, кожны будзе вымушаны звярнуцца да нас, каб мы паказалі, як кіраваць. Ну, а калі мы сядзем, то ўсё скончана.

— Яно так, — сказаў дзед, — але ўсё гэта патрабуе ад вас надзвычайнай смеласці, кемлівасці,

вытрыманасці і іншых падобных якасцей, якіх патрабаваць ад дзяцей мы не маем права.

— На тое мы комсамольцы і піонеры, каб умець перамагаць усе перашкоды! — з гонарам сказаў Светазар.

— А я больш не жадаю перамагаць такія перашкоды!—сказала Святлана. — Нічога цікавага там няма, адна нуда і непрыемнасці.

— Тады я паехаў-бы са Светаславам. Можна? — спытаў у дзеда Светазар.

— Калі ты ўпэўнены, што ён не падвядзе, то я нічога супраць не маю,—адказаў дзед. — А Святлане важдацца з рознымі правакатарамі, сапраўды, не падыходзіць.

— А адкуль гэты правакатар ведаў пра нас і пра нашу машыну? — спытала Святлана.

— Ды вы-ж самі паказвалі там свае фокусы, — сказаў дзед. — Мусіць праз гадзіну ўжо ведалі ўсе тыя, хто павінен гэтым цікавіцца. Усё-такі добра выкруціліся, малайцы! А з усяго вашага падарожжа я раблю галоўны вывад, што самая складаная справа для вас — схаваць сваю машыну, каб яна не трапіла ў чужыя рукі. Праўда, ні адчыніць яе, ні паламаць, нават спаліць яе ніхто не здолее, але ўсё-ж такі пакідаць яе небяспечна. Прыдзецца падумаць, ці нельга будзе дапамагчы гэтай справе.

## 4. НА МЕСЯЦЫ

### Некаторыя разважанні аб сусвеце

— Дзядуню, ці ёсць людзі на іншых планетах?

Пётр Трафімавіч прыжмурыў вочы і хітрыкавата сказаў:

— Гэта называецца — пытанне ў лоб. Але адказаць адразу на гэтае пытанне нельга. Навука звычайна ставіць пытанне так: ці ёсць на іншых планетах жывыя істоты? А якія яны будуць — ці падобныя на чарвяка, ці на чалавека — гэтага ніхто не можа сказаць. Можна ўсяляк меркаваць, і пісьменнікі ў сваёй фантазіі мяркуюць, як хто хоча. Вы чыталі кнігу Аляксея Талстога «Аэліта» або Герберта Уэльса «Барацьба светаў»?

— Чыталі, — дружна адказалі «светлячкі».

— Вось вы і бачыце, як непадобна адзін да другога ўяўляюць пісьменнікі, напрыклад, жыхароў Марса. Вы будзеце першымі людзьмі, якія могуць убачыць марсіян у сапраўднасці.

— А страшна туды ляцець... — сказала Святлана і нават сціснула плечы, нібы ёй зрабілася холадна.

— Калі не хочаш, можаш і не ляцець, — зняважліва сказаў Светазар. — А ўсё-такі, дзядуню, нам трэба ведаць, як глядзіць навука на гэтае пытанне.

— Вядома, трэба ведаць, — кіўнуў галавой дзед. — Вы спачатку павінны прачытаць як мага больш кніг, а пакуль што я магу вам зрабіць некалькі агульных заўваг. Навука даведалася, што вядомыя нам планеты, зоркі, каметы складаюцца з такой самай матэрыі, якая ёсць і на зямлі. Толькі злучэнні і прапорцыі элементаў могуць быць рознымі. Таксама розная бывае і тэмпература, напрыклад: на Меркурыі 413° гарачыні, а на Нептуне—180° марозу. Які-ж вывад можна адсюль зрабіць?

Задаўшы гэтае пытанне, дзед не чакаў ад сваіх «светлячкоў» адказу, таму быў вельмі задаволены, калі Светазар сказаў:

— Я так думаю: дзе якія будуць умовы, там такія будуць і жывыя істоты. Калі на якой планеце будуць акурат такія самыя ўмовы, як на зямлі, то там могуць быць такія самыя людзі, як мы.

— А калі ўмовы інакшыя? — задала яму пытанне Святлана.

— То і жывыя істоты будуць інакшыя, — упэўнена адказаў Светазар.

— Вельмі добра разважаеш, — пахваліў дзед. — Навука так і гаворыць: усё жывое адпавядае той прыродзе, у якой яно жыве, а я гатоў дапусціць, што сярод мільярдаў такіх сонцаў, як наша, можа знайсціся і такое, вакол якога круціцца і такая самая планета, як наша Зямля, на такой самай адлегласці, такой самай велічыні, з такой самай арбітай і рухам, з такім самым нахілам восі, з такім самым паветрам і гэтак далей. Фантазія ўсё гэта уявіць можа, значыцца, вы ўсё гэта можаце пабачыць наяве. Я вам прапаную такі маршрут: спачатку Месяц, потым Марс, а затым ужо шукаць акурат такую самую планету, як наша Зямля. Добра азнаёмцеся з нашай Галактыкай*, я вам дам адпаведныя кнігі.

— На Месяц! На Месяц! — запляскала ў далоні Святлана.

### У мёртвым царстве

— Глядзі, спыніся на граніцы паміж Зямлёй і Месяцам, — некалькі разоў напамінала Святлана.

— Ды ведаю! Чаго лезеш? — злаваў Светазар.

На 274 тысячы кілометраў Светазар прыпыніў машыну. Тут была тая самая мяжа, дзе ні Зямля, ні Месяц не маглі перацягнуць прадмет на свой бок.

Дзеці знялі шлемы, машына страціла рухавую сілу і засталася на месцы, нікуды не падаючы. Светазар узяў сястру за руку, прыпадняў угару і пусціў. Па прывычцы яна крыкнула «ай», але ўніз не звалілася і засталася ў паветры. Каб сесці на сваё месца, яна павінна была чапляцца за сценкі кабіны, а Светазар смяяўся. Тады яна яго штурханула ўверх, і ён таксама павіс у паветры. Потым яны бралі розныя рэчы і ставілі іх у паветры, жартавалі, цешыліся.

Такім чынам, яны «адсвяткавалі» пераход праз граніцу і накіраваліся далей. А Месяц перад імі хутка павялічваўся. Ужо не твар чалавечы ён нагадваў, а Зямлю з горамі, ценямі, нізінамі. Нарэшце, настаў момант, калі яны апусціліся на... прыходзіцца сказаць, таксама «зямлю», бо гэта былі звычайныя скалы, камяні, як і на Зямлі.

Перш чым вылезці з машыны, дзеці надзелі кіслародныя маскі, бо ўсім вядома, што на Месяцы няма паветра. І ад таго, што тут не было паветра, з падарожнікамі пачаліся розныя незвычайныя з'явы. Перш за ўсё незвычайным быў выгляд неба: яно было зусім чорнае, на ім бялелася нейкае «голае» сонца, а побач з ім відаць былі зоркі. Зоркі не міргелі, як у нас, а здаваліся выразанымі з белай паперы кружочкамі, наклеенымі на чорную паперу. На тым баку, дзе падарожнікі «прызямліліся», быў дзень, ды яшчэ які: чатырнаццаць нашых сутак ён працягваўся (зразумела, што і ноч на Месяцы такая самая). І дзіўна было бачыць, што сярод белага дня на небе відаць былі ўсе зоркі і... «месяц», абавязкі якога тут выконвала наша Зямля, нават з усімі фазамі: поўная, маладзік, сярпок — усё, як мае быць. Яна была велізарнай, разоў у пятнаццаць большай за той Месяц, які мы бачым з Зямлі. Яна быццам навісла над Месяцам і здавалася, што яна зараз раздушыць яго.

— Глядзі, глядзі. Здаецца, кавалак Афрыкі відаць!—ускрыкнула Святлана.

Светазар таксама закрычаў:

— Глядзі, глядзі, Афрыка відаць!

Але ніхто з іх не звярнуў увагі на словы другога.

Потым Святлана спытала:

— А чаму-ж гэта больш нічога не відаць?

Светазар, прыглядаючыся да Зямлі, таксама спытаў:

— Чаму-ж гэта нічога разабраць нельга?

Тады дзяўчынка тарганула брата за руку і з дакорам сказала:

— Ты чаго маўчыш, нічога не адказваеш?

Хлопчык павярнуўся да яе і стаў нешта гаварыць. Губы яго рухаліся, а слоў не было чуваць. Пачала гаварыць дзяўчынка — Светазар убачыў тое самае: губы яе шавеляцца, а слоў не чуваць. Тады хлопчык засмяяўся і пацягнуў сястру ў кабінку машыны.

Калі яны зачынілі дзверы, Светазар сказаў:

— Мы-ж забылі, што без паветра гук не можа ісці.

Святлана не магла разабраць слоў брата, яна толькі ледзь-ледзь чула далёкія гукі яго голасу. Пачалі яны чуць адзін аднаго толькі праз хвіліны дзве, калі кабінка напоўнілася паветрам, якое выпучала апаратура машыны. Пасля таго яны знялі свае маскі і пачалі размаўляць нармальна.

— Я ўжо ведаю, у чым справа, — сказала Святлана.—Там няма паветра, а без паветра гукі не могуць пераходзіць.

— Усё гэта мы ведалі, і дзед ведаў, — сказаў Светазар, — а вось забыліся прадугледзець. Што-ж цяпер рабіць? Хіба рукамі размаўляць будзем, як нямыя.

— Ды мы не ўмеем, — сумна сказала Святлана, а потым, павесялеўшы, усклікнула:

— А ведаеш што? Будзем размаўляць, як з іншаземцамі, з дапамогаю нашых шапак-перадатчыкаў. Толькі ці пойдуць радыёхвалі без паветра?

— Пойдуць, пойдуць, я ведаю, — радасна сказаў Светазар.

Праз хвіліну на галовах іх з'явілася новая «аздоба»—шапкі з рагамі. Цяпер яны ўжо маглі дзяліцца сваімі ўражаннямі. Больш за ўсё цікавіла іх «Зямля-месяц».



* Галактыка — згрупаванне мільярдаў сонцаў і іншых нябесных цел, сярод якіх знаходзімся і мы са сваім Сонцам.

---

Се МАН ІР
Карэйская Народна-Дэмакратычная Рэспубліка

## Аганёк

Ты, стомлены, праходзіш доўгі пуць...
І раптам аганёк успыхнуў у тумане,
Здаецца — толькі рукі працягнуць,
І ты сагрэт ужо яго дыханнем.

Калі ў час шторму хвалі закрываюць
Рыбацкага пасёлка аганькі,
Натхнёныя любоўю к свайму краю,
На вёслы налягаюць рыбакі.

Дзе Жоўты Д'ябал уладар адзіны,
Там для прыгнечаных гарыць агнём,
Як сімвал разняволенай краіны,
Рубінавая зорка над Крэмлём.

Яна, заўжды нягаснучая, грэе —
Ці хмары, ці туманы наплылі —
І змучанага жыхара Карэі,
І ўсіх прыгнечаных на ўсёй зямлі.

Яна скрозь змрочную заслону свеціць
І з кожным годам ззяе ўсё святлей,
Здаецца, што няма нічога ў свеце
Яе радней, яе цяплей!

Пераклаў М. АЎРАМЧЫК.

Яна была такая вялікая, а разглядзець яе паверхню было цяжэй, чым невялікі Месяц з Зямлі. Нарэшце ўсё-ж такі яны сцямілі, што прычынай з'яўляецца атмасфера і вадзяная пара, якая засланяла паверхню Зямлі. Толькі час-ад-часу вырысоўваліся часткі знаёмых мацерыкоў і хутка зноў расплываліся ў тумане.

Праз некаторы час яны адчулі новую непрыемнасць: нясцерпна пяклі сонечныя прамені, а ногі адчувалі сябе як на гарачай пліце. Ды і не дзіва: паверхня Месяца за доўгі, двухтыднёвы дзень награецца да ста дваццаці градусаў. Зноў прышлося хавацца ў машыну, каб абмеркаваць становішча. Яны знайшлі драўляную скрынку, паламалі яе і дротам прывязалі дошчачкі да сваіх падэшваў. Потым яны ўспомнілі, што ў іх ляжаць спецыяльныя плашчы, каб надзяваць іх на Месяцы.

Мы ведаем, што наша Сонца, апрача жыватворчых праменняў, вылучае яшчэ і шкодныя, напрыклад, ультра-фіялетавыя. На Зямлі яны нейтралізуюцца ў зямной атмасферы, а на Месяцы нішто ім не перашкаджае, і яны могуць зрабіць шкоду жывым істотам. Таму і ўзяты былі плашчы, якія не прапускаюць гэтых шкодных праменняў. Такім чынам, каб высадзіцца на Месяцы, спатрэбілася складанае абмундзіраванне: шапка-перадатчык, дыхальны апарат, плашч і нават дошчачкі.

— Хутка мы зусім страцім чалавечае аблічча, — бурчэў Светазар, нязграбна ступаючы па зямлі, а зямля была такая самая, як і на Зямлі, толькі без ніякіх слядоў жыцця. І роўнае месца, і скалы, і нізіны — усё складалася з голага камення. Ад гарачыні і холаду, які ноччу дасягае ста шасцідзесяці градусаў, каменная паверхня ўся патрэскалася, а кавалкі яе так і ляжалі на сваіх месцах: ні вецер, ні воды не зрушылі іх з месца; вострыя рэбры іх засталіся такімі самымі, як і тысячы гадоў назад. Ніколі яны не церліся адзін аб адзін, таму нідзе не было відаць аніякага пяску.

У адным месцы трапілася ім трэшчына на крок шырыні. Светазар скокнуў праз яе і... праляцеў метраў пяць.

— Скакай смялей! — весела крыкнуў ён Святлане.

Тая скокнула больш асцярожна і праляцела толькі тры метры.

Вось яно тое самае, пра што чыталі яны дома, пра што і дзед казаў ім! Месяц у пяцьдзесят разоў меншы за Зямлю, таму ён менш і прыцягвае да сябе. Гэта значыць, што вага кожнай рэчы на Месяцы значна меншая, чым на Зямлі, а іменна — у шэсць разоў.

Дзеці пачалі дурэць, скакаць. Яны вельмі цешыліся, што «нумары» іх выходзяць, як у цырку. Светазар лёгка скокнуў на скалу, як на дах дома. Тое самае зрабіла і Святлана. А калі прышлося скокнуць назад, то яны прызадумаліся: гэта-ж не жарты — скокнуць з даху на голыя камені! Пачалі прыглядацца, дзе-б можна было спусціцца, але такога месца няма. Святлана занепакоілася. Ды і Светазар збянтэжыўся. Потым пачаў разважаць:

— Пачакай, — мы-ж цяпер лягчэйшыя ў шэсць разоў, значыцца, і штуршок павінен быць у шэсць разоў слабейшы. Чаго-ж баяцца? Раз... два... тры!

Сэрца яго сціснулася ад страху, але ён мужна рынуўся ўніз. Падаў ён плаўна, стукнуўся лёгка і тады ўжо ўпэўнена крыкнуў Святлане:

— Скакай! Не бойся.

Спыніўшы гульню, яны сцішыліся і зноў пачалі дзівіцца на незвычайную прыроду. Яна была мёртвая ў поўным сэнсе гэтага слова. Ні гуку, ні ветрыку, ні раслінкі — адны толькі голыя скалы. І для Месяца — нават вельмі высокія горы. Мы прывыклі, што на высокіх горах бывае снег, лёд, трава, дрэвы, крыніцы, а тут — ад верху да нізу аднолькавыя шэрыя камені і больш нічога. На раўнінах параскіданы так званыя «цыркі», якія яшчэ носяць даўнейшую назву «мора». Здавалася, што калісьці ў вадкую гразь пляснуўся камень, стварыў зморшчаную яміну, якая адразу скамянела. Вось такія яміны-цыркі і параскіданы па раўнінах. А неба! Якое незвычайнае неба! Чорнае, скамянелае, з безліччу ўсялякіх светлых кружочкаў. І ніхто нікому не перашкаджае, кожны свеціць, як можа. І сярод усіх свяціл была Зямля. Пакольні можна было заўважыць у прасветах паміж зямной атмасферы, Афрыка ўжо адсунулася на ўсход і з-за Атлантычнага акіяна паказаўся ўскраек Амерыкі. Жыхары Месяца за дваццаць чатыры гадзіны маглі-б убачыць усю Зямлю. А жыхары Зямлі заўсёды бачаць адну палову Месяца, а другую ніколі не бачылі. Адбываецца гэта таму, што пакуль Месяц абыйдзе вакол Зямлі адзін раз, ён павернецца вакол сябе таксама адзін раз.

Нашы падарожнікі захацелі паглядзець на гэтую таемную палавіну. Селі ў машыну і павольна паехалі вакол Месяца. На Зямлі, дзякуючы атмасферы, паміж днём і ноччу бывае вечар, прыцемкі, а тут, як толькі пераступілі граніцу асветленай часткі, то адразу трапілі ў начную цемру. Праз некалькі мінут трохі прызвычаіліся да цемнаты і пры святле зорак пачалі прыглядацца да пейзажа. Ён, вядома, быў такі самы, як і на другім баку: тая-ж патрэсканая зямля, тыя-ж скалы і горы, такія-ж самыя цыркі.

У адным месцы падарожнікі захацелі выйсці з машыны, але як толькі адчынілі дзверы, то з крыкам адхіснуліся назад і зноў зачыніліся: іх нібы агнём апякло. Гэта быў той самы сташасцідзесяціградусны мароз, аб якім яны чыталі ў кніжцы. Пасля таго яны пусцілі машыну хутчэй і вярнуліся на ранейшае месца.

— Мы — першыя людзі, якія аб'ехалі ўвесь Месяц навокал, — з гонарам сказаў Светазар.

— А колькі гэта будзе кілометраў? — спытала Святлана.

— Дрэнна ты падрыхтавалася ў дарогу, калі не ведаеш, — важна сказаў Светазар.—Гэта будзе... э-э... Здаецца, дзесяць тысяч кілометраў. *

Святлана пачала пільна да чагосьці прыглядацца.

— Што там такое? — зацікавіўся Светазар.

— Паглядзі туды, каля камення, — з хваляваннем сказала дзяўчынка. — Што там такое бялее? Нібы паперка якая...

Глянуў туды Светазар—сапраўды нешта падобнае бялее. Падышлі бліжэй, нахіліліся — ляжыць нібы паштовая картка, нават літары на ёй відаць. Светазар асцярожна ўзяў яе, павярнуў і крыкнуў:

— Глядзі!.. фотакартка!

Яны ўбачылі здымак сям'і: бацька, маці і шасцёра дзяцей. За іх спіной быў дом у паўтара паверхі, а за ім гумно і сельскагаспадарчыя прыбудовы.

— Слухай, — прашаптала Святлана, — ды гэта-ж фермер, той самы амерыканскі фермер, у якога мы былі ў гасцях. Зусім той самы. І дзеці тыя, і маці.

— І хата тая самая, і хлевушок, і гумно. А вось пад гэтым дрэвам стаяла наша машына, — сказаў Светазар. — Але што гэта значыць? Можа ты нейкім чынам узяла гэтую картку?

— Адкуль? Як?—адказала Святлана. — Я нічога такога не бачыла. Мусіць, ты сам забраў.

— Я-ж таксама не бачыў. Мы і ў хату не заходзілі, — даводзіў Светазар. — Хадзем ў машыну, падумаем.

У машыне яны знялі з галавы свае апараты і маглі пагаварыць нармальна. Адзінае, што магло быць, гэта толькі тое, што гэтую картку нейкім чынам занеслі сюды яны самі. Але як гэта магло здарыцца, калі яны ні разу не бачылі гэтай карткі ні там, ні дома, ні тут? А другога тлумачэння не магло быць...

— А цудаў на свеце не бывае, — збянтэжана сказаў Светазар. — І прычым тут гэты фермер? Якое дачыненне ён мае да Месяца? Што-б там ні было, а нам нічога не застаецца, як паверыць у тое, што гэтую картку занеслі сюды мы самі.

— А мы-ж там зусім не былі, — адказала Святлана. — Першы раз мы спыніліся вунь там, каля той гары, а цяпер спыніліся тут і да таго каменя не падыходзілі. Светазар паглядзеў на яе шырока раскрытымі вачыма і прашаптаў:

— Так... праўда... Мы там не былі. І вецер не мог данесці картку, бо яго тут няма.

Некалькі хвілін сядзелі яны збянтэжаныя, выразна адчуваючы, што галава адмаўляецца служыць. Паверыць у цуд, ды яшчэ зусім бязглузды, совецкія дзеці ніяк не маглі. І зразумець таксама не маглі.

Нарэшце Светазар крыкнуў:

— Годзе, годзе ламаць галаву! Фотакартка ў нас сапраўдная?

— Сапраўдная,—адказала Святлана.

— Яна сама на Месяц прыляцець не магла?

— Не магла.

— Значыцца, нехта яе прынёс. Значыцца, тут павінны быць і яшчэ сляды людзей. Будзем шукаць гэтыя сляды.

І яны пайшлі шукаць...

### На Месячных горах

За сотню метраў ад таго месца, дзе знаходзіліся падарожнікі, пачыналіся горы. Пачыналіся яны з вялікіх і малых каменняў, якія пераходзілі ў больш вялікія скалы, горныя хрыбты і вяршыні, дасягаючыя шасці і болей кілометраў, г. зн. такой самай вышыні, як і на Зямлі. Калі прыняць пад увагу, што Месяц меншы за Зямлю ў пяцьдзесят разоў, то горы яго трэба лічыць надзвычай высокімі. Для жыхароў Зямлі выгляд іх ад вяршыні да падножжа быў самы незвычайны. Мы прывыклі, што камені і скалы ўнізе пакрыты зямлёй, раслінасцю, што яны закругленыя, а тут ляжалі крушні каменняў, нібы толькі што выламаных у горах і выгружаных на каменную пляцоўку. Вышэй, дзе на Зямлі мы бачым горныя лясы і лугі, тут былі тыя самыя шэрыя, горныя скалы. Яшчэ вышэй, дзе мы прывыклі бачыць снег і лёд, тут былі тыя самыя шэрыя вострыя пікі. І так да самых верхніх пікаў, што дзіўна вырысоўваліся на чорным небе. У беспаветранай прасторы ўсе контуры і дэталі былі відны вельмі выразна і здаваліся зусім блізкімі. Але страшна было падумаць



* Напомнім, што Зямля вакол экватара мае сорак тысяч кілометраў.

уздымацца на гэтыя горы, дзе вострыя камені ляжалі ў «свежых» кучах, дзе, здаецца, няма ніякай пляцоўкі, куды магла-б ступіць нага чалавека.

Падарожнікі і не збіраліся туды ступаць, але на схіле аднаго з хрыбтоў яны зноў убачылі нешта белае. Вядома, яны не маглі не пайсці туды.

Дарога аказалася зусім не такой страшнай, як ім здавалася. Пачалося з таго, што Светазар лёгка скокнуў на скалу, як на другі паверх дома. Тое самае зрабіла і Святлана. А потым яны весела «паскакалі» са скалы на скалу і апынуліся ля белага прадмета.

— Гэта была... газета! Скамечаная газета на англійскай мове. Відаць, у яе было нешта загорнута, і яна была кінута або згубілася.

— Вось і яшчэ адзін след чалавека, — задуменна сказаў Светазар. — Цяпер ужо мы павінны прызнаць, што чалавек тут ёсць ці быў. Але зразумець, чаму сюды прыляцеў якраз наш знаёмы фермер, ніяк нельга! Што амерыканцы не раз спрабавалі рабіць ракеты, якія маглі-б даляцець да Месяца, гэта мы чулі, але прычым тут наш знаёмы фермер, гэтага ніхто не зразумее. Якім чынам ён раптам ператварыўся ў нябеснага лётчыка?

— Можа, гэта зусім не ён? — няпэўна сказала Святлана. — Можа, картка нейкім чынам трапіла да другога лётчыка?

— Усё, усё можа быць, — з усмешкай сказаў Светазар. — Цяпер я ўжо не здзівіўся-б, каб убачыў, што на гэтым камені сядзіць наш дзядуля і ласкава нам усміхаецца. А што будзем рабіць далей? Ці чалавек гэты ішоў зверху ўніз, ці знізу ўверх?

Тым часам яны пачалі адчуваць, што прамені сонца паляць іх нясцерпна. Асабліва пакутвала галава ад «апаратуры», што была на ёй начэплена. Праўда, другі бок у гэты час адчуваў халадок значна большы, чым гэта было-б на Зямлі, дзе награецца і паветра. Але і частыя павароты то адным, то другім бокам да сонца мала дапамагалі; прышлося шукаць паратунак ад сонечных праменняў у цяньку пад скалой. Пры гэтым трэба было зрабіць некаторыя меркаванні.

Калі сесці там, дзе цень невялікі, то вылучэнне цяпла ад блізкіх распаленых каменняў можа дасягнуць і без паветра. А калі выбраць цень пад вялікай скалой, то навакольная цеплыня без паветра не дасягне, і такім чынам можна знайсці не толькі прахалодную мясцінку, але і зусім халодную, з тэмпературай ніжэй нуля.

Размясціўшыся ў халадку, выбранаму па свайму жаданню, брат і сястра абмяркоўвалі становішча і пазіралі на горы. Перад імі ў неба ўздымаліся дзве верхавіны, як вострыя шпілі. Пасярод іх, трохі ніжэй, таксама ўздымаўся шпіль, на ім чамусьці нешта блішчэла. Гэта блішчэнне прыцягнула да сябе ўвагу і брата і сястры.

— Што там такое? — казалі яны. — Чаго яно там блішчыць? Гэтыя шэрыя скалы нідзе не блішчаць, а там во як зіхаціць.

Сапраўды, зіхаценне было зусім незразумелае, нібы там скала была адпаліраваная. Нават здавалася, што колер там не шэры, як усюды, а сіні. І дзеці вырашылі ісці туды.

Чым бліжэй яны падыходзілі, тым відней было, што блішчыць не скала, а нейкая штучная рэч.

Яшчэ бліжэй падышлі, і тады маглі ўпэўнена сказаць:

— Гэта і ёсць тая ракета, на якой прыляцелі людзі з Зямлі.

Можна было ўжо здагадацца, што тут такое адбылося. Пасадка на Месяцы, зразумела, не магла быць арганізавана так, як на Зямлі, і ракета трапіла ў горы, зачапілася за вострыя шпіль, праламалася спод і засела між вострых скал. Задняя частка яе зусім адламалася і звалілася ўніз. Пярэдняя частка, дзе знаходзілася кабіна лётчыка, больш захавалася: яна перахілілася носам уніз і ўперлася ў скалу. Зусім разбурэна была сярэдняя частка, якая засела на скале.

Хлопчык і дзяўчынка дабраліся да кабіны. Дзверы яе былі расчынены. Зазірнулі ў сярэдзіну — здаецца, вялікіх разбурэнняў няма. Няма і чалавека. Дзе ён? Можа, забіты зваліўся ўніз? Не, у гэтых мясцінах, куды ён мог зваліцца — нікога няма. Значыцца, ён сам выбраўся з кабіны і пайшоў уніз. Куды? Пэўна туды, дзе была знойдзена фатаграфія. Трэба было ісці ўніз.

Дзеці выбралі сабе куток у цяньку і селі адпачыць. Нягледзячы на сур'ёзнасць становішча, яны не маглі не залюбавацца той карцінай, якая адкрывалася перад імі з гары. Абсалютная цішыня зачароўвала чалавека, не хацелася ні гаварыць, ні рухацца. Святло было дзіўнае, нейкае бледнае, празрыстае. Вельмі выразныя контуры шэрых гор на чорным фоне неба здаваліся «несапраўднымі». Святлана вельмі ўдала сказала:

— Зусім як карцінка ў стэрэаскопе.

Сонца здавалася на тым самым месцы, што і раней. Ды і не дзіва: колькі яно магло прайсці за гэтыя гадзіны, калі свеціць на небе цэлых два тыдні? Мала пасунулася і Зямля. Толькі Амерыка, як можна было заўважыць па поўднёвым яе канцы, была на тым месцы, дзе раней стаяла Афрыка.

Праз некаторы час дзеці адчулі, што пачалі нават мерзнуць. Яны падняліся і сталі спускацца ўніз. Спусціліся трохі далей ад таго месца, дзе пачыналі ўзыходжанне. Тут яны натрапілі на невялікую пячору, а ў ёй убачылі... чалавека!!

Ён сядзеў, прытуліўшыся спіной да каменя. У правай руцэ, якая ляжала на зямлі, была дыхальная маска. Відаць, у апараце скончылася паветра, і чалавек, уміраючы, сарваў са свайго твару маску.

— Ён! — ціха сказала Святлана.

— Ён! — паўтарыў Светазар.

Так, гэта быў «ён», іхні знаёмы амерыканскі фермер, якога імя яны нават не ведалі. І першая думка ў галовах дзяцей была ўсё тая самая: чаму іменна ён, гэты няшчасны фермер, трапіў на Месяц? І зноў ніякага тлумачэння яны прыдумаць не маглі.

— Што будзем рабіць з ім? — прашаптала Святлана.

— Пахаваць нельга, — адказаў Светазар, — дык замуруем яго, як у склепе. Проста абкладзем каменнем. Ён будзе цалюткі тысячы і мільёны гадоў.

— Чаму? — здзівілася Святлана.

— А хіба ты не ведаеш, што без паветра і без вады ніякі чарвяк, ніякі мікроб, ніякая вільгаць не папсуе цела?

— Ведаю, ведаю, — схамянулася Святлана.

Яны пачалі насіць камені і абкладваць пячорку. Чалавек з Зямлі вельмі здзівіўся-б, каб убачыў, што падлеткі цягаюць такія вялікія камені, якія і самы дужы мужчына не заўсёды мог-бы падняць.

Пасля таго дзеці схаваліся ў сваю машыну, каб перад дарогай адпачыць і падмацавацца, а галоўнае, каб вызваліцца хоць на хвіліну ад свайго абмундзіравання. Пад гэтымі апаратамі пот ліўся з іх бадай што струменнямі, галава кружылася ад гарачыні.

— Другога такога падарожжа я ўжо не вытрымаю, — казала Святлана, выціраючы пот.

Трэба дадаць, што і гэтага, першага падарожжа яны не вытрымалі-б, каб не было магчымасці хавацца ў цяню ад якой хочаш тэмпературы.

— А які след мы пакінем на Месяцы? — спытала Святлана.

Светазар падумаў і сказаў:

— Давай з каменняў складзем наш заклік на векі вякоў.

Папрацаваўшы, яны ў апошні раз палюбаваліся казачным краявідам, з хваляваннем паглядзелі на Зямлю ў небе, селі ў машыну, надзелі свае шлемы — і зніклі ў нябеснай прасторы.

А на Месяцы засталіся словы: «Няхай жыве Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік ва ўсім Сусвеце на векі вякоў. 18 чэрвеня 1955 года».

...Пасля справаздачы дзеду аб сваім падарожжы, унукі задалі яму сваё самае «балючае» пытанне: якім чынам звычайны фермер мог трапіць на Месяц?

— Загадка вырашаецца досыць проста, — адказаў дзед. — Людзі даўным-даўно ўжо марацць наведаць свайго бліжэйшага суседа — Месяц. Гэтая мара вельмі наблізілася да сапраўднасці, калі навука падказала, што гэта можна зрабіць з дапамогай ракеты. Пасля таго было многа спроб пабудаваць такую ракету. Рабілі гэта і мы, робяць і Злучаныя Штаты Амерыкі. Асабліва не церпіцца амерыканскім капіталістам: і Месяц хочацца «далучыць» да сябе і рэкламу зрабіць на ўвесь свет. Дзеля гэтага яны нічога не шкадуюць, тым больш жыцця чалавека. Пры сучасным стане тэхнікі, некаторыя шансы дабрацца да Месяца на ракеце ёсць, але вярнуцца назад, шансаў яшчэ няма. Кожны чалавек, які сёння адважыўся-б ляцець на Месяц, ляцеў-бы на верную смерць. Аднак у Амерыцы знаходзяцца ахвотнікі ляцець.

— Чаму? — вырвалася пытанне ва ўнукаў.

— З гора ды бяды. Асабліва, калі з голаду гіне сям'я, як у вашага фермера. Аднаго разу ў Амерыцы было аб'яўлена, што патрабуюцца ахвотнікі ляцець у ракеце на Месяц. Дык такіх ахвотнікаў знайшлося колькі хочаш. За гэта-ж абяцалі даць многа грошай. Дык многа людзей, якія не маглі дапамагчы сваёй сям'і ніякім іншым спосабам, вырашылі пайсці на смерць, каб хоць такім чынам ратаваць сваю сям'ю. Да такіх людзей, безумоўна, належаў і ваш знаёмы фермер.

(Працяг у наступным нумары.)



# ВЯЛІКІ МАСТАК СЛОВА

**Да 10-годдзя з дня смерці Кузьмы Чорнага**

Ёсць пісьменнікі, усякі новы твор якіх — гэта толькі крок да яшчэ больш значнага і спелага. Кожная новая кніга ўзбагачае яго жыццёвы вопыт, пашырае яго творчыя гарызонты. Такі пісьменнік не проста дзеліцца з чытачом жыццёвымі ўражаннямі, а ставіць сваімі творамі важныя і сур'ёзныя жыццёвыя праблемы, імкнецца вырашыць іх праз праўдзівыя мастацкія вобразы і карціны.

Такім пісьменнікам быў Кузьма Чорны.

К. Чорны — мастак шырокіх замыслаў і вялікіх творчых магчымасцей. Ужо будучы аўтарам такіх буйных твораў, як «Бацькаўшчына», «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская», «Ірынка», К. Чорны лічыў, што ён здзейсніў толькі нязначную частку свайго творчага плана — паказаць у серыі эпічных палотен мастацкую гісторыю беларускага народа часоў паншчыны да эпохі камуністычнага будаўніцтва. Вялікая Айчынная вайна пашырыла рамкі гэтага замыслу. К. Чорны памёр, пакінуўшы на рабочым стале нясконачанымі некалькі буйных твораў аб лёсе беларускага народа ў Айчыннай вайне, аб гераізме простага савецкага чалавека («Вялікі дзень», «Скіп'ёўскі лес», «Млечны шлях», «Пошукі будучыні»).

К. Чорны як пісьменнік рос разам са сваім народам, і творы яго — гэта мастацкі летапіс жыцця, барацьбы, поспехаў народа на шляху будаўніцтва сацыялістычнага грамадства.

К. Чорны прышоў у літаратуру з гарачым жаданнем выявіць тыя «нязжытыя, нячэпаныя» «пласты вялікай жыццездольнасці», што абудзіла ў чалавеку з народа сацыялістычная рэвалюцыя. Пафасам ранніх апавяданняў і псіхалагічных эцюдаў К. Чорнага была маладая радасць жыцця ў спалучэнні з глыбокім роздумам над лёсам простага чалавека. Гэты чалавечны і сур'ёзны роздум пісьменніка над жыццём блізкіх, родных яму людзей працы ў творах К. Чорнага паступова і ўсё больш паглыбляецца, набываючы характар філасофска-гуманістычнага роздуму над лёсам усяго беларускага народа на новых светлых шляхах гісторыі. Ад невялікіх замалёвак і навел К. Чорны пераходзіць да стварэння аповесці і сацыяльна-гістарычнага рамана.

Склаўшыся як мысліцель і мастак у абстаноўцы напружанай літаратурна-класавай барацьбы 20—30-х гг., К. Чорны вырас у пісьменніка, якіх так клапатліва вырошчваў А. М. Горкі — у гуманіста-змагара. Для К. Чорнага не характэрна было бясстраснае, бяздумнае апісальніцтва, жаданне сказаць сваімі вобразамі і карцінамі: «і так бывае». У лепшых творах сваіх ён заўсёды імкнецца выявіць сацыяльныя, гістарычныя, псіхалагічныя карэнні той з'явы, якую ён малюе. І пры гэтым не з дапамогай рытарычных прыпісак, «прывескаў», а ўсёй сістэмай праўдзівых мастацкіх вобразаў К. Чорны ўладна вядзе чытача да патрэбных вывадаў і ацэнак. Творы яго прымушаюць задумвацца, хвалявацца, самому шукаць адказы на жыццёвыя пытанні, мысліць. Іменна гэтага часцей за ўсё нехапае многім, нават найбольш удалым творам нашых маладых, а часам і прызнаных літаратараў.



Кузьма Чорны.

Не адразу К. Чорны прышоў да сапраўднай мастацкай тыпізацыі вобразаў у сваіх творах. Але да гэтага ён ішоў настойліва і мэтанакіравана, праз усё больш актыўны ўдзел у жыцці савецкага народа.

Галоўнай і ўлюбёнай тэмай К. Чорнага з'яўлялася раскрыццё духоўнага свету чалавека, які пазбываецца старых, рабскіх умоў жыцця, які праз пакутлівыя жыццёвыя выпрабаванні вызваляецца ад перажыткаў уласніцкага свету.

Усё, на чым стаіць кляймо уласніцтва, арганічна варожа пісьменніку-гуманісту.

Паказ барацьбы з уласніцкім светам, яго перажыткамі амаль заўсёды дапаўняецца ў творах К. Чорнага гуманістычнай тэмай дзяцінства. Цяжка знайсці твор у К. Чорнага, дзе-б не гаварылася аб дзецях. Дзеці для К. Чорнага — сімвал новага, будучага, таго найбольш дарагога ў жыцці, што неабходна адстойваць, абараняць ад уласніцкага свету, з яго жорсткасцю, бяспраўем, эксплуатацыяй.

Глыбокай аўтарскай ласкай сагрэт у рамане «Трэцяе пакаленне» вобраз маленькай Ірынкі, якая з недзіцячай сур'ёзнасцю «адпускае» брата ў Чырвоную Армію, застаючыся адна ў галодным, разграбленым акупантамі горадзе.

На вобразе дзяўчынкі, што пазбаўлена нават дзяцінства, у якой адабралі нават яе дзіцячую непасрэднасць, ставіць і па-майстэрску вырашае К. Чорны такую сур'ёзную і шырокую тэму, як тэма жыцця заходне-беларускага насельніцтва пад уладай польскіх паноў, тэму ўз'еднання беларускага народа.

Малюючы дзяцей, К. Чорны імкнецца разбудзіць у чытачу пачуцце адказнасці савецкага чалавека за тую гістарычную спадчыну, якую атрымаюць наступныя пакаленні. Іменна такі філасофскі падтэкст твораў К. Чорнага часу Айчыннай вайны, у якой савецкія людзі сэрцам сваім абаранілі будучыню чалавецтва. Пафас гэтых твораў К. Чорнага — заклік у імя радаснага жыцця дзяцей канчаткова знішчыць той лад, што парадзіў фашызм, гэтую чуму XX века.

У К. Чорнага заўсёды жыла глыбокая вера ў чалавека. Адзін з герояў яго кажа: «Вырві ты з чалавека сэрца і ўстаў на яго месца звярынае, дык у чалавечых грудзях і звярынае стане чалавечым».

І тым з большай непрымірымасцю і нянавісцю гаворыць пісьменнік-гуманіст аб свеце капіталізма, які абрушвае на народы войны, у якім можа з'явіцца чалавек непараўнаўча горшы за звера.

К. Чорны ў сваіх творах заўсёды гісторык, удумлівы, глыбокі. Вельмі пераканальна, на дзесятках вобразаў у цэлым шэрагу раманаў і аповесцей, паказвае ён гістарычны лёс многіх пакаленняў, малюе шлях народа ў камуністычнае будучае. На гэтым шляху знаходзяць сваё шчасце былы батрак Леапольд Гушка, селянін-бядняк Міхал Тварыцкі, трапяткі і добры кравец, задаўленая батрацкім жыццём Люба Лук'янская.

У барацьбе з жыццёвымі цяжкасцямі, у змаганні з ворагамі працоўнага люду гартуецца воля свядомых змагароў за камуністычныя ідэі.

Калі на гэтае пакаленне людзей абрушылася найцяжэйшае выпрабаванне — вайна, усяму свету раскрылася нябачаная веліч чалавека, выхаванага сацыялістычным грамадствам. Аб яго мужнасць і стойкасць разбілася сіла фашысцкіх войск. Выдатныя рысы маладога пакалення савецкіх людзей, вырасшага пры савецкай уладзе, адлюстраваў К. Чорны ў вобразах Кастуся Прыбыткоўскага («Скіп'ёўскі лес»), Андрэя Мішурына і Уладзіміра Вялічкі — сына забітага польскімі акупантамі бунтара-каваля («Вялікі дзень») і ў другіх поўнакроўных, псіхалагічна глыбокіх вобразах.

Чорны быў майстар выявіць духоўны свет чалавека праз жывое, тонкае ўзаемадзеянне ўнутранага і знешняга ў чалавеку.

Аўтар не проста паказвае думкі і адчуванні чалавека. Ён імкнецца выявіць іх і выявіць так, каб чытач увесь час не пераставаў бачыць героя, яго знешнасць, фігуру, паходку, міміку і г. д.

К. Чорны з'яўляецца аўтарам многіх сур'ёзных артыкулаў па пытаннях літаратурнай творчасці. Будучы загадчыкам кабінета маладога пісьменніка, К. Чорны пагоркаўску клапатліва адносіўся да маладых пісьменнікаў, не шкадуючы часу на тое, каб выхаваць у пачынаючых высокую патрабавальнасць да сябе, да сваёй працы. Мы знаходзім вялікія артыкулы ў К. Чорнага, прысвечаныя разгляду стылю асобных маладых пісьменнікаў. Многія з сучасных вядомых паэтаў і пісьменнікаў у часы сваёй літаратурнай маладосці атрымалі нямала парад ад уважлівага і патрабавальнага літаратурнага настаўніка К. Чорнага. У сваіх выступленнях перад маладымі К. Чорны настойліва звяртаў увагу на неабходнасць вучыцца літаратурнаму майстэрству ў рускіх класікаў. Пры гэтым ён падкрэсліваў, што трэба работу з маладымі літаратарамі праводзіць у «філасофскім плане» — г. зн у плане станаўлення марксісцкага светапогляду.

На рэдкасць патрабавальным К. Чорны быў да мовы мастацкіх твораў. Па словах Якуба Коласа, пісьменнік умеў выявіць з вялікай дакладнасцю ўсё, што турбавала яго. Веданне жыцця народа, жывой мовы яго К. Чорны лічыў абавязковай умовай літаратурна-мастацкай творчасці. Іменна ў жывой мове народа, гаварыў Чорны, пісьменнік можа знайсці сродкі для дакладнага і мастацкага выяўлення сваіх думак і эмоцый.

К. Чорны быў прынцыповым ворагам усякай літаратуршчыны, усякай штучнай «паэтычнасці» ў прозе. Сваёй творчасцю ён адмаўляў той саладжавы «сентыментальны стылёк», які насаджалі ў беларускай літаратуры пад выглядам рамантыкі буржуазныя нацыяналісты.

Апавядальны стыль К. Чорнага просты, рэалістычны, сапраўды эпічны.

Выдатны беларускі празаік і сённа сваімі творамі змагаецца з уласніцкім светам, з яго перажыткамі. Лепшыя творы Чорнага — наша класіка, на якой кожнае новае пакаленне беларускіх літаратараў вучыцца высокароднай прафесіі інжынера чалавечых душ, вучыцца служыць шчырым, страсным і праўдзівым словам вялікім мэтам камуністычнага выхавання чалавека.

**А. АДАМОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

В. МАКСІМАЎ

# РАЗМОВА ПА ШЧЫРАСЦІ

З запісак юрыста

Перада мной — крымінальная справа. На вокладцы лаканічны надпіс: «Па абвінавачванню Міхалапа В. В.»

Хутка будзе працэс. На ім мне прыдзецца абараняць падсуднага. Перагортваю старонку за старонкай. Справа нібы нескладаная і асаблівай цікавасці для юрыста не ўяўляе. Нехта Міхалап В. В., дыспетчар аднаго са шматлікіх у Мінску гаражоў, выдаў пуцявы ліст людзям, якія аказаліся злачынцамі. Абвінавачаны прызнаў сябе вінаватым і на следстве расказаў, як была справа.

Два знаёмых, работнікі птушкакамбіната, тры дні хадзілі да яго, прасілі даць пуцявы ліст. Просьбы суправаджаліся п'янкамі ў рэстаране. Адчуўшы сябе абавязаным, Міхалап выдаў неабходны для злачынцаў дакумент. Усё тут было проста, але адзін дакумент міжволі прыцягваў увагу, прымушаў задумацца: следчы далучыў да справы характарыстыку з месца работы, выданую 7 снежня 1952 г. У ёй пісалася, што Міхалап В. В. ініцыятыўны кіраўнік, паспяхова забяспечвае работу на сваім участку, мае рад падзяк.

Што гэта — беспрынцыповасць начальства ці хлусня? Навошта яна спатрэбілася. А можа і сапраўды паўтара года назад Міхалап быў выдатным работнікам, чэсным, сумленным?.. Тады дзе-ж прычыны яго перараджэння?.. Што здарылася з чалавекам?

Над гэтым варта было задумацца. І я зноў перагортваю старонкі, зноў чытаю пратаколы следства, паказанні сведак. Нажаль адказу на ўзнікшыя пытанні не знаходжу.

Заняўшыся справай, я і не заўважыў, як у пакой увайшла жанчына.

— Маё прозвішча Міхалап, — нясмела сказала яна. — Я жонка таго Міхалапа, справа якога перададзена для вядзення вам.

— Слухаю вас. Сядайце.

— Ці магу я прысутнічаць у зале судовага пасяджэння, калі мой муж будзе даваць паказанні?

Я адразу зразумеў, што жанчына запыталася між іншым, абы толькі пачаць размову. Каб яна сабралася з думкамі, я пачаў расказваць ёй аб парадку разгляду такіх спраў у судзе.

Не паспеў я яшчэ закончыць тлумачэнні, як яна запыталася:

— Вось вы вывучалі справу майго мужа. А скажыце, ці ўсё вам зразумела?

Я адказаў, што, напэўна, яе наведванне выклікана жаданнем дапамагчы следству, таму я гатовы слухаць.

Ніна Міхалап, так звалі жонку дыспетчара, адкрыла сумку, дастала з яе фотакартку і падала мне са словамі:

— Гэта мы ў дзень рэгістрацыі шлюбу... Шэсць гадоў назад.

На здымку хлопец і дзяўчына. Абое вельмі юныя і, відаць па ўсім, вельмі шчаслівыя. Я пагля дзеў на Ніну Міхалап, з цяжкасцю пазнаючы ў гэтай пажылой жанчыне тую дзяўчынку з усмешкай на вуснах, якая знята на фотакартцы.

— Я выйшла за Віктара замуж яшчэ студэнткай, — расказвала далей Ніна. — Ён таксама вучыўся тады ў аўтамеханічным тэхнікуме. Жылі мы бедна: на стыпендыю, вядома, не разгонішся. Грошай нехапала. Часта клаліся спаць без вячэры. Але я была зусім, зусім шчаслівая. Потым Віктар пайшоў працаваць дыспетчарам гаража. У нас нарадзіўся сын Славік. Вось ён, калі цікавіцеся...

Яна зноў падала мне фотаздымак.

— Я ў той час працавала ўжо на заводзе, у лабараторыі. Хутка пачала заўважаць тое, што прывяло майго мужа на лаву падсудных. Віктар зусім перастаў сачыць за тэхнічнай літаратурай, ды і другія кнігі чытаў рэдка. Бывала, спытаюся ў яго: «Ты чытаў гэтую кнігу?» «Не, — адкажа, — не чытаў». «Абавязкова прачытай». «Добра, прачытаю».

Кніга так і заставалася непрачытанай.

Але больш за ўсё непакоіў мяне яго позні прыход з работы. Вяртаўся дамоў Віктар, звычайна, не зусім п'яны, але добра выпіўшы. Аднойчы прыехала мая маці. Я папрасіла Віктару: пастарайся не затрымлівацца. Пакуль я прыйшла з работы, маці зварыла абед. Яна пыталася пра Віктара, пра яго работу. Маці любіла яго, як сына. А Віктара ўсё не было... Пад вечар яго прыцягнулі на кватэру незнаёмыя людзі. Ён быў мярцвецкі п'яны.

Спрабавала я гаварыць з ім.

«Ведаеш, дарагуша, трэба часам і кампанію падтрымаць», — адказаў ён.

Аднак гэтае «часам» паўтаралася з дня ў дзень. Цяпер Віктар перастаў бываць і ў кіно, і ў тэатры, нават на футбольных спаборніцтвах.

Аднойчы я выцягнула яго ў тэатр, але раптам, перад самым пачаткам спектакля, ён знік. У час антракта я знайшла яго ў буфеце з нейкім незнаёмым.

«Ён работнік харчгандлю, вельмі патрэбны чалавек», — спрабаваў ён мне даказаць сваю правату.

Назаўтра я пайшла ў гараж. Трэба-ж было, нарэшце, усё высветліць. Стары вахцёр сказаў мне, што дыспетчар паехаў, што ён не дакладвае, куды едзе, і наогул... паменш-бы вашага брата да яго прыходзіла: у дыспетчара ёсць жонка і сын.

Мне было сорамна прызнацца хто я, чаго прыйшла. Я павярнулася і пайшла дадому.

Неўзабаве прыбег Віктар. Не ведаю, хто сказаў яму пра маё наведванне гаража. Здавалася, ён шчыра раскаяўся. Месяцы са два не піў, клапаціўся пра сям'ю. Я думала, няшчасце мінула нас. Але хутка ўсё пайшло па-старому. Цяпер Віктар ужо не сароміўся прыводзіць сабутэльнікаў на кватэру. Спачатку я цярпела гэта, а потым запратэставала. Аднойчы Віктар, усміхаючыся, паклаў на стол грошы. «Гэта прэміяльныя,— сказаў ён. — Цяпер, можа, будзеш больш лагоднай».

Мне хацелася крычаць, даказваць яму, што шчасце не ў грошах, але гаварыць не было каму: Віктар быў п'яны.

Праз некалькі дзён пасля гэтага да нас у дом зайшла жанчына. Яна шукала Віктара, а калі даведалася, што я яго жонка, падала мне пакет і папрасіла сказаць, што ён ад Вовы.

— Ад якога Вовы?

— Ён ведае.

Я разарвала пакет. Там было пяцьсот рублёў. У галаве прамільгнула думка аб нейкім злачынстве. Няўжо мой муж — злачынца?

Віктар, даведаўшыся аб грошах, вельмі абурыўся. «Гэта правакацыя, — крычаў ён. — Я аднясу пакет у міліцыю».

І ён пайшоў. Але ў гэты дзень начаваць дадому не прыйшоў. Назаўтра па яго выгляду можна было здагадацца, што спаў ён недзе пад плотам.

Увечары ён прыйшоў цвярозы. Спрабаваў угаварваць мяне, гаварыў нешта блытанае, прасіў дараваць яму.

Я настолькі прызвычаілася да гэтых пакаянных прамоў, што больш ужо не звяртала на іх увагі: усёроўна заўтра ён прыдзе зноў п'яны...

— Ты перастаў быць бацькам,— сказала я яму. — Наш сын хварэў дзесяць дзён, а ты нават не ведаў пра гэта. Я марыла аб моцнай, чыстай сям'і, а ты прынёс толькі гора. Хутка вырасце сын, і яму будзе цяжка, што ён мае такога бацьку. Ідзі, Віктар, пакінь нас адных...

Віктар згадзіўся на гэта вельмі лёгка, хоць і папракнуў мяне за нібыта пустым, нікчэмны повад да разладу.

Доўга я нічога пра яго не чула. А ўчора мне сказалі: ён арыштаваны. Я не магла не пайсці да вас, даведаўшыся, што вы будзеце яго абараняць. Прашу, скажыце, што ён зрабіў?

Я моўчкі працягнуў Ніне Міхалап крымінальную справу.

Яна прачытала і пабялела, як палатно.

— Значыць, ён увесь час ашукваў мяне, хлусіў. А я вось, паверыце, усёроўна кахаю яго... Толькі са страхам думаю аб тым, што я скажу сыну, калі ён падрасце.

Судовая зала была перапоўнена. Прыйшлі сюды і работнікі гаража, і былыя студэнты, таварышы Віктара Міхалапа. Суддзя даў слова пракурору. У зале настала цішыня. Мусіць, усе чакалі: зараз пракурор будзе бязлітасна абвінавачваць Віктара, патрабаваць суровага пакарання. І сапраўды пракурор быў бязлітасны. Але ён сказаў тое, чаго не чакалі прысутныя.

— Як здарылася, што ў мінулым добры студэнт, а потым прыкладны работнік аказаўся злачынцам? Як здарылася, што Міхалап разбурыў сям'ю, растаптаў сваё шчасце?

Ён павярнуўся да лавы падсудных.

— Першую чарку вам паднеслі не выпадкова. Два-тры шафёры выкарысталі аўтамашыну ў карыслівых мэтах: ім трэба было, каб дыспетчар не забараніў гэтыя раз'езды. Вы рашылі, што некалькі кілаграмаў зрасходаванага бензіну глупства, выпілі з гэтымі людзьмі, а кіламетраж спісалі. Так, за такое злачынства часам не даюць нават вымовы. Але яно ўжо было злачынствам, бо ўпершыню тады вы страцілі прынцыповасць, дазволілі за дзяржаўны кошт вазіць будаўнічыя матэрыялы для асабістых патрэб.

За першай чаркай гарэлкі пайшла другая, трэцяя. Злачынцы запісалі вас, Міхалап, у свой спіс. Яны ведалі: за вамі не прападзе, бо ў вас няма ні волі, ні характару. І калі ім спатрэбілася важная «паслуга», вы, маральна тэрарызаваны, ужо не супраціўляліся.

Пракурор абвёў вачыма залу.

— Калі работнік прадпрыемства без уважлівай прычыны не выходзіць на работу — калектыў звычайна б'е трывогу. Чаму-ж вы маўчалі, калі Міхалап прыходзіў на работу п'яны, — звярнуўся пракурор да работнікаў гаража, якія сядзелі ў першым радзе. — Чаму некаторыя з вас нават самі прымалі ўдзел у яго выпіўках? Вам, напэўна, не ўсё вядома з біяграфіі Міхалапа. Тады я што-кольвечы напомню. Можа вам невядома, што бацька Міхалапа, камандзір танкавага батальёна, загінуў на вайне, абараняючы чэсць і незалежнасць Радзімы. Сын застаўся адзін. У тэхнікуме, дзе ён вучыўся, яму аказвалі падтрымку. Але калі ён закончыў вучобу, усе чамусьці палічылі: Міхалап зараз дарослы. У той час гэты «дарослы» адчуваў моцную патрэбу ў таварыскай падтрымцы.

Вы помніце, Міхалап, апошняе пісьмо вашага бацькі, напісанае перад боем? Дазвольце мне зачытаць яго, — звярнуўся пракурор да суддзяў.

Ён дастаў з кішэні форменнай курткі пажаўцелы ад часу ліст.

«Дарагі сын, зараз мы вядзем цяжкія баі пад Сталінградам. Але мы, Віктар, пераможам. У гэтым цяпер ніхто не сумняваецца, хоць многія ўжо не ўбачаць таго раданага дня. Мая адзіная да цябе просьба — вучыся, любі працу, таварышаў, а галоўнае, будзь заўсёды сумленным. Выхоўвай у сабе стойкасць і мужнасць, без гэтага мы не выканалі-б вялікіх абавязкаў перад краінай. Сёння перад боем з нашага батальёна дэзерціраваў адзін баязлівец. Яго злавілі і расстралялі: усёроўна гэта быў — памёршы чалавек, жывы труп. Ніколі, мой сын, не будзь ззаду. Я веру ў тваю будучыню. Але яна залежыць ад цябе. Не губі яе. Дзякую за цудоўнае пісьмо, яно дапаможа мне ў баі.

З франтавым прывітаннем. Твой бацька».

— Я спецыяльна не прыкладваў гэтае пісьмо да справы, — сказаў пракурор. — Але няхай яно дапаможа вам, Міхалап, у вашым жыцці, дапаможа стаць актыўным будаўніком нашага комуністычнага грамадства. Калі вы адбудзеце тэрмін пакарання і самаадданай працай апраўдаеце сябе перад народам, я вярну вам гэты ліст, а цяпер няхай ён ляжыць у маёй шафе, бо гэта самае цяжкае абвінавачванне супраць вас — абвінавачванне вашага бацькі, пра якога вы забыліся. Будучыня залежыць ад вас. Зрабіце яе прыгожай і цудоўнай.

— А вам,—звярнуўся пракурор да залы,—хай гэты ліст напамінае, што вы не змаглі зберагчы сына загінуўшага воіна, не дапамаглі яму стаць сапраўды сумленным, адданым нашай вялікай справе чалавекам.

...Я ішоў з суда разам з Нінай Міхалап.

— Пракурор праў, — гаварыла мне па дарозе ўзрушаная да глыбіні душы жанчына. — Віктар вінаваты, ён згубіў прынцыповасць, сілу волі. Але ўсе мы, блізкія Віктару людзі, слаба змагаліся за яго. І я таксама была пасіўнай. Усё магло-бы быць інакш, толькі трэба было своечасова падымаць трывогу.

**А. БЕЛАШЭЕЎ**

# СУСТРЭЧА Ў БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Брэсцкая крэпасць.

Тут кожны камень — нямы сведка мінулых баёў, кожная пядзь зямлі паліта крывёю герояў.

На світанні 22 чэрвеня 1941 года нешматлікі гарнізон Брэсцкай крэпасці першым прыняў на сябе вераломны ўдар нямецка-фашысцкіх полчышчаў. Мужныя савецкія воіны стойка змагаліся за кожны рубеж, за кожны бастыён. Поплеч з рускімі воінамі Зубачовым, Шаблоўскім, Наганавым, Кукушкіным адважна адбівалі ярасныя атакі ворага украінцы Амельчанка і Каўтун, беларусы Махнач і Пасюк, армяне Матэвасян і Грыгаран, узбек Нурманаў.

Дваццаць восем дзён прадаўжалася гераічная абарона Брэсцкай крэпасці. Цяпер знойдзены новыя звесткі, якія дазваляюць сцвярджаць, што абаронцы крэпасці трымаліся на працягу 5 — 6 тыдняў.

Доўга сівыя сцены і поўразбураныя бастыёны Брэсцкай цытадэлі сурова захоўвалі тайну і веліч подзвігу жменькі герояў. Толькі калі ўлетку 1944 года Брэст быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, воіны-вызваліцелі з хваляваннем і гонарам прачыталі на сценах крэпасці надпісы сваіх баявых таварышаў: «Нас было пяцёра. Мы памрэм за Сталіна», «Памрэм, але з крэпасці не выйдзем», «Мы прынялі першы бой 22.VI у 3.15. Таварышы, адпомсціце за нас», «Мы яшчэ вернемся».

Пасля пераможнага заканчэння Вялікай Айчыннай вайны засталіся ў жывых удзельнікі і сведкі гераічнай Брэсцкай эпапеі. Асабістымі ўспамінамі дапоўнілі яны шматлікія легенды, якія жывуць у народзе аб мужных абаронцах Брэсцкай цытадэлі. У крэпасці пачаліся раскопкі зруйнаваных будынкаў і бастыёнаў. Былі знойдзены астанкі лейтэнанта-комсамольца Аляксея Наганава і чырвонаармейца Гарохава, якія загінулі са зброяй у руках пры абароне Тэрэспальскай вежы крэпасці, а таксама трыццаці чатырох невядомых герояў, якія загінулі на іншых абарончых рубяжах; дакументы і рэліквіі вялікай мужнасці і адвагі гарнізона акружанай крэпасці. Цяпер беражліва захоўваюцца ў нашых музеях шэфскі сцяг 84 стралковага палка; баявы загад № 1 па гарнізону акружанай крэпасці, датаваны 24 чэрвеня 1941 г.; комсамольскі білет Наганава; зброя герояў, іх асабістыя лісты. Дакладна ўстаноўлены імёны кіраўнікоў і арганізатараў абароны Брэсцкай крэпасці — комуністаў палкавога камісара Е. М. Фаміна, капітана І. Н. Зубачова, капітана В. В. Шаблоўскага, комсамольцаў — старшага лейтэнанта Семяненкі, лейтэнанта Наганава і другіх.

Старая Брэсцкая крэпасць сёння ўяўляе для савецкіх людзей дарагі помнік воінскай славы. У крэпасць наладжваюцца экскурсіі працоўных, моладзі, савецкіх воінаў, піянераў і школьнікаў.

У адзін з сонечных асенніх дзён да варот Брэсцкай крэпасці пад'ехала некалькі аўтамашын. Група маладых воінаў Беларускай ваеннай акругі прыехала сюды, каб агледзець бастыёны воінскай славы, сустрэцца з удзельнікамі і сведкамі гераічнай абароны Брэста — былым сакратаром бюро ВЛКСМ 84 стралковага палка С. Матэвасянам і былым камандзірам узвода лейтэнантам А. Махначом — сябрам і таварышам па службе Аляксея Наганава, а таксама з пісьменнікам С. Смірновым, які працуе над кнігай пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці.

Цёпла сустрэлі воіны ўдзельніка баёў у Брэсцкай крэпасці тав. Матэвасяна, які прыехаў у Брэст з далёкага Ерэвана. Незадоўга перад вайной малады патрыёт Самвел Матэвасян добраахвотнікам уступіў у рады Савецкай Арміі. Служыў у Брэсцкай крэпасці. Тут адважна змагаўся супраць гітлераўскіх захопнікаў поплеч з палкавым камісарам Фаміным, капітанам Шаблоўскім і другімі героямі. Атрымаўшы ў крэпасці трэцяе па ліку цяжкае раненне, намеснік палітрука Матэвасян у непрытомнасці быў захоплены ў палон гітлераўцамі, але ўцёк ад іх у партызанскі атрад. Як толькі Заходняя Украіна, дзе дзейнічаў атрад, была вызвалена савецкімі войскамі, Матэвасян зноў пайшоў у Савецкую Армію і ўжо камандзірам роты штурмаваў Берлін, вызваляў сталіцу Чэхаславакіі Прагу. Пасля вайны Самвел Мінасавіч Матэвасян вярнуўся да сваёй мірнай прафесіі горнага інжынера і цяпер працуе ў сябе на радзіме, у далёкай сонечнай Арменіі.

Матэвасян падзяліўся з воінамі-экскурсантамі сваімі ўспамінамі аб абароне Брэсцкай крэпасці, паказаў ім участкі баёў.

Выступіўшы затым студэнт Літаратурнага інстытута імя М. Горкага А. Махнач сказаў:

— У крэпасць я прыбыў разам з лейтэнантам Наганавым за некалькі дзён да пачатку вайны проста з вучылішча. Пазней не раз сустракаў Наганава ў баях, заўсёды смелага, бадзёрага, нястомнага, гатовага павесці байцоў на любы подзвіг. Тэрэспальскую вежу, дзе абараняўся курсанцкі ўзвод Аляксея Наганава, абаронцы крэпасці называлі «Комсамольскім рэдутам», таму што сярод падначаленых Наганава большасць былі комсамольцамі. Яны змагаліся з бязмежнай адвагай. Нават цяжка паранены ў галаву, Аляксей Наганаў не пакінуў поле бою. Гераічнай смерцю загінулі комсамолец-радавы Гарохаў, комсамолец старшы сержант Белічэнка.

Пасля выступленняў удзельнікаў гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці воіны агледзелі месцы былых баёў.

Цёплая сустрэча з удзельнікамі гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці адбылася ў памяшканні тэатра Ленінскага комсамола Беларусі. Паслухаць выступленні С. Матэвасяна і А. Махнача сабралася каля 1000 чалавек моладзі і працоўных Брэста.

Падзякаваўшы таварышаў Матэвасяна і Махнача за прыезд у Брэст, сакратар Брэсцкага гаркома ЛКСМБ запэўніў, што пад мудрым кіраўніцтвам Комуністычнай партыі моладзь Брэста ў працы, у барацьбе за ўмацаванне магутнасці Радзімы будзе і надалей сумленна і самааддана выконваць свой патрыятычны абавязак.

**С. Матэвасян** (у цэнтры) **і А. Махнач** (справа) **з групай воінаў-экскурсантаў на зруйнаваных бастыёнах Брэсцкай крэпасці.**

Фото аўтара.



# Мішаў калейдаскоп

**ЯЎХІМ ЦЫБУК**

Мал. М. Бельскага.

Мішу Болбуту далі падрыхтоўку на лета адразу па двух прадметах — па рускай і беларускай мовах. Лета было ўжо на зыходзе, ужо і школу адрамантавалі для новых заняткаў, а за граматыкі Міша ўсё яшчэ не браўся. Ды не вельмі і возьмешся, калі ў садзе, у дзеда Анісіма, так рана паспелі сёлета «бэры» і «жытнікі». Ясі — ледзь язык не праглынеш!

Нялёгка было ўлезці да калгаснага садавода ў давер'е: спачатку дзед сустрэў яго не надта ветліва:



— Дык, кажаш, дапамагаць хочаш, на садавода думаеш падавацца, — прыжмурыўшы вока, перапытаў ён. — А я чуў, што пераэкзаменоўку табе далі. Мусіць, лайдачыць любіш...

— Ды не, дзедка!.. Граматыку я даўно... на зубок вывучыў. Спытайце, калі не верыце, у Галіны Мікалаеўны.

Адным словам, Міша трапіў у часовыя памочнікі да калгаснага садоўніка. Невялікая работа вынесці з саду колькі вязанак сухога вецця, якое зразае на дрэвах крывым нажом дзед Анісім, затое яблыкаў можна есці — хоць распеpажыся. Але яблыкі яблыкамі, а два экзамены на восень — не жартачкі! З'еш хоць мільён яблыкаў, але ад гэтага ў галаву табе не ўлезе, дзе ставіць коскі, а дзе — працяжнікі. Галіна Мікалаеўна не дзед Анісім, яе не правядзеш!.. Хіба толькі што-небудзь такое прыдумаць, каб мішаў аўтарытэт адразу вырас. А калі доўга над чым думаеш, дык абавязкова дадумаешся...

Аднаго разу Мішу напаткала шчаслівая ідэя. «Што калі напісаць верш дый паслаць яго ў рэдакцыю. Пашанцуе, дык надрукуюць... Тады Галіна Мікалаеўна адразу ўбачыць, што Міша Болбут можа дамагчыся значна большага, чым расставіць у дыктанце коскі і працяжнікі».

Жывое пацверджанне свайму намеру Міша бачыў у асобе Ціхона Салавейчыка, іхняга-ж хлапца, які ўжо зрабіўся паэтам. Не шмат гэты Ціхон і вучыўся: закончыў толькі сямігодку. Але адзін надрукаваны яго верш Міша сам бачыў. Акрамя гэтага, Ціхон меў яшчэ цэлы жмут новых вершаў і можа з сотню адказаў з рэдакцый. А калі з чалавекам размаўляюць, — значыць, ён варты таго!

Цэлы дзень Міша хадзіў задуменны, нават не пайшоў у сад да дзеда Анісіма. Ён вырашыў апісаць свой калгас. З гэтай прычыны схадзіў ён на поле, паглядзеў, як працуе там камбайн, пабываў і на сенажаці. А вечарам, калі сеў пісаць, пачало яго нават трэсці, як у ліхаманцы, што лічыў ён амаль абавязковым для сапраўднага паэта. Міша адчуваў, што верш у яго атрымліваецца і атрымліваецца выдатна. «Дружная праца» — размашыста напісаў Міша загаловак. І далей з-пад яго пяра пацякло:

Мы працуям смела
Мы працуям дбайна
Песній зазвінела
Праца на камбайні
Йдзе машын размова
Што аж стогнуць нетры
Пасвяцца каровы,
На свежым паветры.
А на сенакосі
Гоман шум вясёлы
Звоняць песню косы
Для нашай жывёлы.

Калі Міша скончыў пісаць і, набраўшы поўныя грудзі паветра, голасна прачытаў верш, то прыйшоў к вываду, што апісаў амаль усё, што робіцца ў іхнім калгасе. І напісаў не горш за таго самага Салавейчыка, надрукаваны верш якога ён добра памятае. Дрэнна хіба толькі з коскамі і працяжнікамі... Але ў рэдакцыі разбяруцца... Самае галоўнае, каб быў верш...

Дзеля падмацавання веры ў поспех Міша прачытаў назаўтра свой верш Саўку Дразду, які зранку ашіраўся каля саду, але трымаўся воддаль, бо дзед Анісім меў з ім нейкія рахункі. Апрача таго, Дрозд лічыў сябе памочнікам кінамеханіка, ні разу не купляў білета ў кіно, а таму, на думку Мішы, быў паважнай і сур'ёзнай асобай у вёсцы. Праўда, Саўка не адразу згадзіўся выслухаць верш. Ён спачатку цвыркнуў слінай праз плячо і наважыў было рушыць прэч. Але Міша вынес яму два яблыкі, і тады Дрозд, зрабіўшы сур'ёзны твар, сеў каля плоту.

— Па-мойму, здорава! — жуючы яблык, сказаў Саўка, калі Міша скончыў чытаць і чакаў ацэнкі.

У той-ж дзень верш быў адасланы ў рэдакцыю. Праз тыдзень Міша наўмысля зайшоў у паштовае аддзяленне, хаваючы ў сэрцы надзею, што верш надрукаваны і работнікі аддзялення ўжо ведаюць пра гэта. Але там яго нават не заўважылі. Заходзіў Міша на пошту і другі раз, і зноў тое-ж самае. Ён павесіў было нос і збіраўся з роспачы засесці за граматыку, але вырашыў дзён са тры пачакаць яшчэ.

Нарэшце ліст ад рэдакцыі прынеслі. Міша борздзенька разарваў канверт. Там было аж два аркушы, ды яшчэ надрукаваныя на машынцы.

«Паважаны таварыш Болбут! — пісалася ў лісце. — Рэдакцыя атрымала ваш верш. Але ён недасканалы яшчэ ў многіх адносінах: вы не навучыліся яшчэ ўвасабляць свае пачуцці і думкі ў яркіх мастацкіх вобразах; ваша паэтычная інтэрпрэтацыя мае сур'ёзныя хібы — адсутнічае ў вас цэльнасць успрыймання навакольных падзей у іх жыццёва-мастацкім адзінстве. Вы пішаце пра «машын размовы» і побач вядзеце гутарку пра кароў, а вядома-ж, што каровы не з'яўляюцца тэхнікай... Ваша паэтычная задума не сцэментавана адзінствам ідэі і мастацка-выяўленчых сродкаў. Таму ваш твор уяўляе сабой кангламерат рознастайнай думкі, калейдаскоп шчырых, але слаба выражаных пачуццяў...» «Настойліва вучыцеся паэтычнаму майстэрству,—было ў канцы пісьма.— Чытайце класікаў, бярыце з іх прыклад». Унізе стаяў подпіс: «Літкансультант Аркадзь Варонка».

«Не надрукуюць», — толькі і зразумеў Міша з ліста. Настрой яго адразу апаў, і ўперадзе не бачыў ён таксама нічога вясёлага. Але перачытаўшы ліст спачатку, яму кінуліся ў вочы словы «кангламерат» і «калейдаскоп». Што яны азначаюць?.. Ён не ведаў. У Галіны Мікалаеўны таксама не спытаеш. Граматыка не дазваляе...

І Міша наважыў распытаць дзеда Анісіма, хоць і не дужа верыў, што той ведае сэнс гэтых мудроных слоў.

Дзед Анісім быў чымсьці якраз нездаволены. Але над мішавым пытаннем задумаўся.

— Калейдаскоп, кажаш?.. — перапытаў ён.— Гэта, мусіць, той струмант, што бацылаў разглядаюць: маленькая падзорная труба, адным словам...

— Эге, не туды загнуў, дзеду, — перабіў яго Міша. — На бацылаў мікраскоп ёсць, а падзорная труба...

— Вось як! Вучыць яшчэ надумаўся!.. Марш з саду! — ускіпеў раптам дзед. — З-за яго мяне настаўніца сароміць: адарваў, моў, вучня ад заняткаў, у яго пераэкзаменоўка, а я яго да саду прылучыў... А што ты мне казаў? Хлусіў... Каб духу твайго больш не было тут!.. Ідзі сам перш навучыся, прафесар-садавод...

Дзед сярдзіта адвярнуўся і пакрочыў углыб саду.

Міша разгублена стаяў на месцы.



# НОВЫЯ КНІГІ

## АПАВЯДАННІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Невялічкая кніжка апавяданняў Пятра Рунца «У веснавыя дні» разлічана на дзяцей сярэдняга ўзросту. Амаль усе апавяданні гэтай кніжкі расказваюць аб школьных справах, аб жыцці дзяцей у школе.

Героі апавяданняў — звычайныя




хлопчыкі і дзяўчынкі. Няма ў іх жыцці ніякіх геройскіх учынкаў, з імі нічога надзвычайнага не здараецца. Між тым гэтыя апавяданні юны чытач прачытае з цікавасцю і карысцю. Добрае веданне дзіцячай псіхалогіі і школьнага жыцця дапамагае аўтару стварыць цікавыя вобразы, паказаць звычайныя справы ў рамантычным святле.

Чытаючы апавяданні П. Рунца заўважаеш, што аўтар умее ўбачыць у звычайных школьных справах сваіх герояў штосьці новае, паказаць штосьці асаблівае ў іх узаемаадносінах.

Кожнае апавяданне зборніка прымусіць юнага чытача задумацца над сваімі ўчынкамі, паводзінамі, задумацца над шчырасцю дружбы, над сваім месцам у вучнёўскім калектыве.

Герой апавядання «Памылка» Коля Раманаў слова ў слова спісаў дыктоўку ў Янкі Казачонка, лепш якога беларускай мовы ў класе ніхто не ведаў. Коля ўпэўнены, што дыктоўка будзе ацэнена на выдатна. Але, на яго здзіўленне, настаўнік паставіў «3».

— Тут, Мікалай Фёдаравіч, выйшла памылка... Вы недаацанілі мяне. Я напісаў лепш, — гаворыць Коля настаўніку.

На наступным уроку настаўнік выклікае Колю да дошкі. У трох сказах хлопчык зрабіў пяць памылак. Аўтар умела паказвае перажыванні Колі ля дошкі, калі нават тыя вучні, якія слаба ведаюць мову, выпраўляюць яго памылкі. І таму апраўдана і шматзначна гучыць канец апавядання: «Апусціўшы галаву, Коля прайшоў паміж радоў і сеў за парту. Яму было сорамна і перад настаўнікам, і перад сябрамі, і перад самім сабою за свае неабдуманыя ўчынкі».

Падобная ідэя вырашаецца ў апавяданні «Заламаны ражок». Міша Таўкач баяўся экзаменаў, хоць і вучыўся нядрэнна. Ён любіў адпачываць і не здолеў належным чынам падрыхтавацца да экзамена па арыфметыцы. Міша дамовіўся з таварышамі, што яны заломяць ражок у найбольш лёгкім экзаменацыйным білеце. Аднак сябры паміж сабой згаварыліся заламаць ражок у тым білеце, які мае самыя складаныя пытанні. Міша здаў на «тройку».

Ён панура глянуў на сяброў і злосна спытаў, чаму яны так зрабілі.

— А вельмі проста, — спакойна растлумачыў Тараска. — Памятаеш, ты ўчора расказваў пра фронт? Пра выручку? Калі-б мы і сапраўды былі ў баі, ты таксама хаваўся-б за нашы спіны?

Пэўную карысць прынясуць рабятам апавяданні «Канец казкі», «Сустрэча з артыстам», «Падарунак», «У веснавыя дні». Шкада толькі што ў гэтых апавяданнях задума вырашана дыдактычна і дэкларатыўна. Вось, напрыклад, апавяданне «Сустрэча з артыстам». Саша Круглікаў добра спявае. Ён з хваляваннем выступае на школьным канцэрце, на якім прысутнічае таксама вядомы артыст Мігуноў.

— Каб стаць акторам і... добрым акторам, патрэбна многа працаваць, многа ведаць... Усё ў цябе наперадзе і залежыць выключна ад цябе самога. Чалавек без ведаў, што птушка без крылляў...

Так дэкларатыўна размаўляе Мігуноў з Сашам. Апавяданне нагадвае нарыс, яго сюжэт не падпарадкаваны раскрыццю вобразаў герояў, і таму Саша Круглікаў і артыст Мігуноў атрымаліся статычнымі. Гэта-ж можна сказаць і пра апавяданне «Падарунак». Вельмі дэкларатыўна і агульна гаворыць піянерважаты Аляксей Пятровіч з апавядання «У веснавыя дні», у якім аўтару не ўдалося стварыць жывых вобразаў вучняў і іх кіраўнікоў.

Асобна стаіць у зборніку апавяданне «Маленькі праваднік», прысвечанае гераічным справам дзяцей у дні Вялікай Айчыннай вайны. Яго герой Васька Маргун выводзіць з варожага акружэння часці Савецкай Арміі. Міжволі ўзнікае пытанне: дзе-ж у гэты час былі дарослыя людзі? Тым больш, што вёска знаходзіцца зусім побач з лесам, у якім спынілася не адна рота савецкіх байцоў.

«Толькі кнігі, якія маюць мэтай стварэнне і выхаванне цэласнай чалавечай асобы, бясспрэчна карысныя для нашых дзяцей», — пісаў А. С. Макарэнка. Зборнік апавяданняў П. Рунца ў пэўнай ступені адпавядае гэтым патрабаванням. На прыкладах са школьнага жыцця, аўтар дае адказы сваім чытачам на хвалюючыя іх пытанні, дапамагае ім у фарміраванні пэўных поглядаў. Выданне гэтага зборніка ў некаторай ступені папаўняе вялікі прабел у нашай дзіцячай літаратуры.

**К. ПАПКОЎСКІ.**

# АД'ЮТАНТ КАНСТАНЦІНА ЗАСЛОНАВА

Раніцай, калі з адчыненых насцеж дзвярэй дэпо вынеслі апошні станок, Канстанцін Заслонаў, акінуўшы развітальным позіркам пусты цэх, убачыў побач з сабою маладога слесара Жэню Каржэня.

— Вось і асірацела наша дэпо, — з болем прамовіў Заслонаў. Потым, заўважыўшы слёзы на



Яўгені Каржэнь.

вачах у Жэні, цвёрда дадаў: — Але мы яшчэ вернемся сюды!

На ўсход ішлі эшалоны. З апошнім паехаў з Оршы К. С. Заслонаў. Разам з ім быў Жэня Каржэнь са сваёй маці і айчымам Кардоўскім — паравозным машыністам.

Шмат чаго перадумаў у тыя векапомныя дні 1941 года шаснаццацігадовы юнак.

... Чыгуначны свет абкружаў яго з першых дзён жыцця. Ён нарадзіўся і вырас у сям'і чыгуначніка. Школа, у якой ён вучыўся, таксама знаходзілася ў чыгуначным раёне. З першых класаў усе інтарэсы дзятвы канцэнтраваліся вакол чыгункі.

Чыгунка настолькі захапіла хлапчука, што ён вырашыў пайсці ў дэпо, каб разам з работай сумяшчаць вучобу ў вячэрняй школе.

— Дык ты хочаш працаваць у нас? — спытаў хлопца начальнік дэпо.

— Але, таварыш начальнік, я ўжо даўно мару пра гэта. Вазьміце, калі ласка, я буду добра працаваць.

— А вучыцца? Вось калі дасі слова, што і ў вучобе адставаць не будзеш, — тады возьмем.

Так адбылася першая сустрэча Жэні Каржэня з Канстанцінам Сяргеевічам Заслонавым.

З цягам часу Каржэнь зрабіўся добрым слесарам. Заслонаў, які адразу прыкмеціў у хлопцу кемлівасць, дапытлівасць, увесь час сачыў за яго поспехамі. Заходзячы ў цэх, ён абавязкова спыняўся каля станка Жэні, распытваў пра работу, вучобу.

І вось усё гэта далёка ў мінулым. Цяпер — вайна... Эшалон ідзе на ўсход. Недалёка ад Ярцава гітлераўцы абстралялі паравоз і вывелі яго са строю. Прышлося спыніцца. І адразу пачаліся дні, поўныя баявых трывог.

Здарылася так, што фашыстам удалося абкружыць групу чыгуначнікаў. Іх пагналі ў лагер. Ноччу Жэня і яго маці ўцяклі ад ворага.

Першы час Жэня з маці жылі на вёсцы, у сваякоў. Неўзабаве нехта з вяскоўцаў сказаў, што бачыў у Оршы Заслонава. Жэня спачатку не паверыў. Пасля сам падаўся ў Оршу, каб пераканацца. А праз некалькі дзён на кватэры аднаго знаёмага, Віктара Тамашова, Канстанцін Сяргеевіч Заслонаў даваў ужо Жэні ўказанні, як і што яму рабіць.

Спецыяльнасць слесара аказалася вельмі патрэбнай. Каржэнь пачаў майстраваць міны, ды так, што сам Заслонаў хваліў. Ад гэтых мін загінула пасля нямала гітлераўцаў і іхняй тэхнікі.

Але вось падаўся ў лес Заслонаў. Жэня Каржэнь нейкі час заставаўся яшчэ ў Оршы, падтрымліваючы сувязь з Заслонавым, а потым, калі дыверсійная дзейнасць маладых патрыётаў зрабілася надта прыкметнай і небяспечнай, ён таксама пайшоў у лес, да свайго любімага камандзіра.

У адным з баёў загінуў ад'ютант Заслонава. Тады Канстанцін Сяргеевіч выклікаў у штабную зямлянку маладога партызана Яўгенія Каржэня.

— Пойдзеш да мяне ў ад'ютанты?

— З задавальненнем, таварыш камандзір!

Там, дзе быў Заслонаў, там заўсёды знаходзіўся і яго ад'ютант Каржэнь. Шмат баявых спраў зрабілі яны разам.

... У той дзень, 14 лістапада 1942 года, штаб К. С. Заслонава знаходзіўся ў вёсцы Купавáць Віцебскай вобласці. У 9 гадзін раніцы разведка паведаміла, што на вёску ідзе вялікая карная экспедыцыя, чалавек 250. Заслонаў праверыў свае сілы — у яго было ўсяго толькі 26 чалавек.

Больш за пяць гадзін працягваўся бой. Варожая куля цяжка параніла Каржэня. Але юнак, бледны ад нясцерпнага болю, нават не застагнаў. Заслонаў асцярожна ўзяў яго на рукі і аднёс у бліжэйшую хату. Яўгені Каржэнь расплюшчыў вочы. Камандзір моўчкі пацалаваў свайго ад'ютанта і зноў пайшоў да сяброў біцца з ворагам.

Больш яны не бачыліся.

Куля насцігла і Заслонава. Яўгені не ведаў пра гэта. Ён яшчэ быў жывы. Хата, дзе ён ляжаў загарэлася. Яўгені перапоўз у хлеў, а калі і той загарэўся, — у суседнюю хату.

У руках Каржэнь сціскаў гранату. Ён усё яшчэ жыў помстай. І хвіліна апошняй помсты прышла перад смерцю. Фашысты ўварваліся ў хату, дзе ляжаў Яўгені. Паміраючы, ён знайшоў у сабе сілы, каб кінуць у іх гранату.

... Іх апускалі ў магілу разам: баявога партызанскага камандзіра і яго бясстрашнага ад'ютанта. Неразлучныя ў працы і ў баі, яны і смерць знайшлі разам.

І таксама разам, як жывыя, яны ідуць з намі ў адных радах да той светлай будучыні, за якую аддалі свае жыццё.

**Я. САДОЎСКІ.**

## ШАХМАТЫ

пад рэдакцыяй майстра спорту А. СУЭЦІНА

### Каманднае першынство СССР па шахматах

Напружанай і вострай была барацьба за пачэснае званне чэмпіёна СССР паміж мацнейшымі шахматнымі камандамі добраахвотных спартыўных таварыстваў — «Спартаком», «Дынамо», ЦДСА, лепшымі камандамі профсаюзаў.

Гэты турнір 11 каманд, кожная з якіх складалася з 6 мужчын і 2 жанчын, адбываўся ў верасні гэтага года ў горадзе Рыга.

Рыжане добра арганізавалі вялікае па маштабах спаборніцтва: ігра праходзіла ў канцэртнай зале Палаца піянераў, выдаваўся спецыяльны бюлетэнь, прысвечаны турніру.

Вынікі каманды «Даугава», якая па сутнасці была зборнай камандай Латвіі, асабліва хвалявалі рыжан.

Каманды ў гэтым турніры былі надзвычай моцныя. Так каманду «Спартака» ўзначальваў міжнародны грасмайстар Т. Петрасян, каманду «Іскры» — грасмайстар М. Тайманаў. У камандзе «Зеніт» ігралі грасмайстры чэмпіён СССР. Ю Авербах і А. Толуш і эксчэмпіёнка свету Л. Рудэнка. Вельмі моцны састаў быў у камандзе «Навука» на чале з міжнародным майстрам В. Карчным і чэмпіёнкай СССР міжнародным майстрам К. Зварыкінай (Мінск).

Побач з гэтымі сусветнымі шахматыстамі ў турніры прымалі ўдзел лепшыя маладыя шахматысты, многія з якіх не маюць яшчэ і дваццаці год. Нямала клопатаў прынеслі яны сваім масцітым супернікам. Нечаканасці пачаліся ўжо з першага тура, калі восемнаццацігадовы майстар Таль («Даугава») атрымаў перамогу над чэмпіёнам СССР Ю. Авербахам. Неўзабаве быў пераможаны і грасмайстар М. Тайманаў («Іскра»), які прайграў дваццацігадоваму кандыдату ў майстры Е. Васюкову («Крыллі Саветаў»). Пасля гэтага пройгрыша такія нечаканасці ўжо не былі сенсацыйнымі — усе зразумелі, што вырасла маладая, вартая сваіх папярэднікаў змена. І хоць пакуль што грасмайстры па майстэрству стаяць яшчэ вышэй нашай шахматнай моладзі, але розніца паміж іх ігрой робіцца з году ў год усё меншай. І гэты вынік рыжскага турніра з'яўляецца самым галоўным і самым радасным.

Спартыўная барацьба за першае месца адбывалася паміж камандамі «Спартак» і «Навука». Каманды гэтыя ў выніку падзялілі першае і другое месцы, але залатыя медалі чэмпіёнаў атрымала каманда «Спартак», якая выйграла ўсе сустрэчы матча.

Каманда складалася з грасмайстра Т. Петрасяна, міжнародных майстроў Р. Халмова, С. Фурмана, В. Сімагона, Р. Нежметдзінава, майстра І. Ліпніцкага, першаразрадніцы Н. Войцык, І. Русінкевіч.

Каманда «Навука» атрымала сярэбраныя медалі.

Трэцяе месца заняла каманда «Медык»; чацвёртае і пятае падзялілі каманды «Праца» і «Лакаматыў»; шостае месца засталося за мінулагоднім чэмпіёнам СССР — камандай «Іскра», якая ў гэтай сустрэчы сыграла не зусім добра; сёмае месца заняла каманда «Дынамо», восьмае — «Зеніт», дзевятае — ЦДСА, дзесятае — «Даугава» і адзінаццатае — «Крыллі Саветаў».

Па індывідуальных выніках трэба адзначыць добрую ігру Лутыкава (ЦДСА), які заваяваў першае месца на 3 дошцы і атрымаў выні кі 8 ачкоў з 10 магчымых, і першаразрадніцы Войцык («Спартак»), якая апярэдзіла чатырох жанчын-майстроў і атрымала ў выніку $8^1/_2$ ачкоў з 10 магчымых.

Даем цікавую партыю з гэтага турніра.

**Лутыкаў** (ЦДСА) — **Загаранскі** («Зеніт»)

**Ферзевы гамбіт**

1. d4 Kf6, 2. c4 e6, 3. Kc3 d5, 4. Kf3 Ce7, 5. cd ed, 6. Cf4 0—0, 7. e3 c6, 8. Cd3 Kbd7, 9. Фc2 Лfe8, 10. h3 Kf8, 11. Ke5 K6d7?, 12. 0—0К! e5, 13. de! (Імкнучыся да вострай ігры, белыя адмаўляюцца ад 13. C:e5 Cd6 з роўнай ігрой.) 13. ...f6, 14. Лadl fe, 15. C : e5 Cb4, 16. Ch2 Фe7, 17. a3 Ca5, 18. b4 Cb6, 19. e4 (Выгадна раскрываючы ігру ў цэнтры. Усю партыю белыя іграюць вельмі прадпрыймальна.) 19. ...d4, 20. K3e2 Ce6, 21. f4! Cf7? (Слабы ход. Больш упарта было-б 21. ...Kp h8!) 22. e5 g6. 23. f5! (Рашаючы наступ пачаўся. Глядзі дыяграму. Атака белых праходзіць беспярэшкодна.) 23. ...gf, 24. Kg3 f4. 25. Kf5 Фg5. 26. Л:f4!. Але не 26. C:f4 Ф : f5!, 27. C : f5 d3! і выігрываюць чорныя.) 26. ...Kg6, 27. h4 Фh5, 28. g4 K : f4, 29. gh K : d3, 30. Kh6+ (Пры вялікай матэрыяльнай перавазе ў белых атака працягваецца. Далейшае зразумела:) 30. ...Kpg7, 31. Фg2+Cg6, 32. Kf5+Kph8, 33. hg hg 34. Фg5 gf 35. Фh6+Kpg8, 36. Л : d3 і чорныя здаліся.

---

## ШАШКІ

пад рэдакцыяй майстра спорту М. ШАВЕЛЯ

8
7
6
5
4
3
1
a b c d e f g h

У гэтым становішчы, якое атрымалася ў часе сеанса адначасовай ігры, В. Сокаў дакладна разлічыў магчымыя працягі і зрабіў ход:
1. h2 — g3!

У адказ чорныя правялі камбінацыю, не бачачы яе вынікаў:

| | |
|---|---|
| 1. ... | b4 — c3 |
| 2. d4 : b2 | f8 — g7 |
| 3. h6 : f8 | b6 — c5 |
| 4. f8 : b4 | a5 : a1 |

Але гэтая камбінацыя была прадугледжана Сокавым, і ён сыграў:

| | |
|---|---|
| 5. f2 — e3!! | h4 : d4 |
| 6. d2 — c3! | d4 : b2 |

Цяпер дамка і дзве простыя запёртыя!

| | |
|---|---|
| 7. e1 — f2 | h8 — g7 |
| 8. f2 — e3 | g7 — f6 |
| 9. e3 — f4 і чорныя здаліся. | |

**Рашэнне камбінацыі, надрукаванай у № 10 часопіса.**

| | |
|---|---|
| 1. e3 — d4! | g5 : e3 |
| 2. c5 — b6!! | |

Нягледзячы на тое, што чорныя могуць біць трыма рознымі шашкамі, ім не пазбегнуць пройгрышу.

## У НУМАРЫ



## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 10 ЧАСОПІСА

**Па гарызанталі:** 1. Штурман. 4. Трактат. 7. Самарканд. 10. Артылерыя. 13. Арба. 14. Тіса. 15. Ля. 16. Курс. 18. Нуда. 19. Па. 22. Абсурд. 23. «Халера». 24. Адозва. 25. Котлас. 30. Казка. 31. Дэбют. 32. Алег. 34. Вішнеўскі. 36. Альт. 37. Турэмшчык. 38. Ідэйнасць. 39. Спрыт. 41. Дыктант. 42. Табліца. 43. Гавана. 44. Паклон. 45. Вратар. 49. Дыялект. 52. Тэрор. 53. Палестына. 55. Сімвалізм. 57. Глеб. 58. Еўпаторыя. 59. «Аіда». 60. Сенат. 62.Ківер. 64. Яранга. 65. Пакрас. 67. Навела. 68. Ахвяра. 71. Уд. 72. Раса. 73. Авал. 74. Сю. 76. Жэст. 77. Арка. 80. Рэзультат. 81. Амплітуда. 82. Матрыца. 83. Пакража.

**Па вертыкалі:** 1. Штраус. 2. Рона. 3. Нагайка. 4. Тактыка. 5. Кара. 6. Таледо. 7. Сельсовет. 8. Му. 9. Драпежнік. 10. Астроўскі. 11. Ра. 12. Яраслаўль. 17. Слава. 18. Невад. 20. Грак. 21. Торт. 22. Ашхабад. 26. Сістэма. 27. Азімут. 28. Алегро. 29. Эбаніт. 33. Густ. 34. Выхаванне. 35. Ідэалогія. 36. Ацэл. 39. Санет. 40. Тэатр. 45. Венгрыя. 46. Араб. 47. Расіні. 48. Кратар. 49. Дратва. 50. Ліза. 51. Тачанка. 53. Перламутр. 54. Аўтарытэт. 55. Сыроватка. 56. Мініяцюра. 60. Сага. 61. Трава. 62. Колба. 63. Рэха. 66. Статыка. 67. Недахоп. 69. Гарлем. 70. Маліна. 75. Аз. 76. Жанр. 78. Амур. 79. Ку.

На першай старонцы вокладкі: **Ленінград. Ля крэйсера «Аўрора». Беларускія дзяўчаты, студэнткі Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта імя А. А. Жданава** (злева направа) **Ніна Міхайлава, Галіна Пудзілава і Эльвіна Усанава слухаюць расказ загадчыка музея на крэйсеры старшыны I стацці Вадзіма Літвіна аб падзеях 25 кастрычніка 1917 года.**

На апошняй старонцы вокладкі: **Святочныя флагі.**

Фота А. Дзітлава.



**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі.
Тэхрэдактар І. Цылаў.
Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара—93-648, намесніка рэдактара—93-592, адказн. сакратара — 93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі — 93-892, аддз, рабочай і сельскай моладзі—93-985, аддз. ілюстрацый — 93-892, аддзел пісем —93-854.

Здадзена ў набор 13/X 54 г.
Падпісана да друку 28/X 54 г.
Фармат паперы 70×108⅛.
Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.
Тыраж 18 000 экз.

Цана 2 руб.

АТ 04219. Заказ 717.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



На народным гулянні. Фото А. Дзітлава.